Міністэрства абароны Рэспублікі Беларусь
Мінскае Вышэйшае ваеннае інжынернае вучылішча

*На правах рукапісу*

# УРОКІ БЕЛАРУСКАЙ МОВЫ

**Зацверджана**
**намеснікам начальніка вучылішча**
**па вучэбнай і навуковай рабоце**



1993

Дапаможнік "Урокі беларускай мовы" падрыхтавалі
Карабельнікава Л.Ч., Снягоўская Н.М..
Пад агульнай рэдакцыяй Карабельнікавай Л.Ч.

Дапаможнік мае вайсковую накіраванасць і прызначаецца для выкладчыкаў курсаў беларускай мовы, а таксама для пачынаючых авалодваць мовай самастойна.

## ПРАДМОВА

Мэта дапаможніка - сфарміраваць навыкі чытання, слухання, гутарковай мовы. Для гэтага лексічны матэрыял грунтуецца на сітуацыйна-тэматычным прынцыпе, вакол тэм для развіцця мовы, маўленчых сітуацый, звязных тэкстаў, палілогаў.

Уядзенне лексічнага матэрыялу ў форме палілога, мадэляванне разнастайных маўленчых сітуацый дазваляе наблізіць працэс зносін да натуральных умоў. На аснове дадатковых тэкстаў можна ўдасканальваць навыкі чытання, асэнсоўваць і замацоўваць моўныя з'явы ва ўзаемасувязі, фарміраваць уменне ствараць маналог, выказванне, выступленне ў спрэчках, дыскусіях.

Асноўнай мэце навучання падпарадкоўваецца адбор граматычных з'яў, неабходных для развіцця навыкаў слухання, маўлення. Граматыка, як правіла, даецца ў параўнанні з расійскай мовай.

Дапаможнік складаецца з 12 урокаў, разлічаных на 50 - 60 гадзін аўдыторнага часу, беларуска-расійскага слоўніка і раздзела "Вольным часам", матэрыялы якога можна выкарыстаць для самастойнай работы.

У кожным уроку выдзяляюцца наступныя раздзелы: ф а н е т ы к а, г р а м а т ы к а, л е к с і ч н а я т э м а, х в і л і н к а а д п а ч ы н к у. Акрамя таго, у першых пяці ўроках прысутнічае раздзел м о ў н ы э т ы к е т, практыкаванні якога спрыяюць выпрацоўцы навыка правільна і дарэчы карыстацца моўнымі сродкамі ў адпаведнасці з умовамі зносін.

Урокі пачынаюцца і заканчваюцца н е п а д р ы х т а в а н ы м і г у т а р к а м і. Гэта дае магчымасць пазнаёміць навучэнцаў з традыцыямі, звычаямі беларусаў, паходжаннем беларускіх геаграфічных найменняў, з гісторыяй узнікнення вайсковай формы, павялічыць слоўнікавы запас па розных тэмах. У раздзеле х в і л і н к а а д п а ч ы н к у навучэнцы знаёмяцца з вершамі беларускіх паэтаў, беларускімі песнямі, народным гумарам.

## УРОК I

Тэма : Алфавіт, эвцвлрдзелия эичнил. Знаёмства, формулы ветлівасці, прывітанне, развітанне. Сям'я, прафесіі.

### I. НЕПАДРЫХТАВАНАЯ ГУТАРКА

Добры дзень! Прыемна з вамі сустрэцца!
А як лічэ вітаюцца беларусы?
Дзень добры! Добры вечар! Сябру можна сказаць: Прывітанне!
Можна дадаць пры гэтым: Рад/а/ вас бачыць.

### II. ФАНЕТЫКА, ГРАМАТЫКА

Спачатку пазнаёмімся з гукамі і літарамі беларускага алфавіта, якія адсутнічаюць у рускай мове.

дз - /дз'/ - вымаўляецца як адзін злиты гук: /дз/якуй, а не /д/з'/якуй, /дз'/еці, а не /д/з'/еці.

дж - /дж/ - вымаўляецца як адзін цвёрды гук: ура/дж/ай, а не ура/д/ж/ай, нала/дж/ваць, а не нала/д/ж/ваць.

і - на месцы рускага "и"

ў - у кароткае /скарочанае/

шч - на месцы "сч", "щ" у рускай мове

'/апостраф/ - для абазначэння раздзельнага вымаўлення зычных з галоснымі е,ё,ю,я,і.

1. Паслухайце, як вымаўляюцца наступныя словы, потым прачытайце іх за выкладчыкам.



| | | |
|---|---|---|
| дзве | джоўль | іця |
| дзверы | джала | іманінінік |
| дзвесце | джунглі | іначай |
| дзевяноста | джэм | індыец |
| дзевятнаццаць | джэмпер | інтарэс |
| дзед | джэнтльмен | ініцыятыва |
| дзень | дожджы | ірвани |
| дзеці | дрождж[illegible] | іншазеиец |
| дзякуй | гляджу | нічога |
| дзяўчына | дагледжаны | ніколі |

Аб'ект, кап'[illegible], надвор'е, з'езд, пад'[illegible], сям'я, вераб'і, бар'ер, аб'яднанне.

ПАМЯТАЙЦЕ: літара "ў" пішацца пасля галосных: на ўзвеску, роўна, читаў, жанчына-ўрач.

2. Параўнайце з рускай мовай. Зрабіце вывад, на месцы якіх літар у рускай мове з'яўляецца "ў" у беларускай.

| | |
|---|---|
| трав - траў | шел - ішоў |
| слов - слоў | бегал - бегаў |
| коров - кароў | сказал - сказаў |
| улов - улоў | написал - напісаў |

ПАМЯТАЙЦЕ: "у" не скарачаецца ў пачатку ўласных назваў: ва Уладзівастоку, для Уладзіміра, на Украіне; у словах іншамоўнага паходжання, калі "у" утварае самастойны склад: калегіум, калёкыіум, радиус, фауна.

3. Прачытайце словы, звярніце ўвагу на вымаўленне "у", "ў":

наўночна-ўсходні, акварыум, архіварыус, аўдыенцыя, браўнінг, вакуум, гаўптвахта, каўчук, лаўрэат, кіназеум, маўзалей, прэзідыум, [illegible] Урал, соус .

4. [illegible] вымаўленні [illegible] гукаў у [illegible]
Як во [illegible]

Сказаў, як звязаў.
Не кладзі паклону, калі цябе не вітаюць.
Гляджу, бачу і розуму не трачу.
Была ў сабакі хата, ды з дажджу згарэла.
Дзе любяць – не ўчашчай, дзе не любяць – нагой не ступай.

Акрамя /дж/, у беларускай мове ёсць гукі /ч/,/р/, якія вымаўляюцца толькі цвёрда. Іх называюць з а ц в я р д з е л ы м і з л ч н ы м і.

5. Паслухайце словы з гэтымі гукамі, паўтарыце іх за выкладчыкам:

хлопчык, чиста, чатыры, чэрць, чэсць, зічыць, чай, чарапаха, чмель, чэшскі, чысціць, чад;
шчасце, шчодры, шчыры, шчупальцы, шчаня, шчолач, гарычок, вогнішча;

рэмень, рис, рака, рэльс, рад, рэпетыцыя, рэпартаж,

рэўматызм, рытуал, Рим.

6. Адгадайце чайнворды "Зацвярдзелыя зычныя".
Якой літары не хапае ў гэтых словах?

| ад<br>ума<br>арот<br>вэрць | ад<br>ано<br>учка<br>укзая | эм<br>ала<br>мгіт<br>ынглі |
|---|---|---|

7. Адгадайце словы:



1. Разнастайныя гукі ад якога-небудзь дзеяння, галасоў, якія зліваюцца ў бязладнае гучанне.
2. Дарога, шырокі гасцінец.
3. Кароткія штаны.
4. Тонкая вяроўка.





1. Аркестр, пераважна з духавых і ўдарных інструментаў.
2. Язык ядавітай змяі.
3. Штаны з баваўнянай тканіны, упрыгожаныя шытвом, палачкамі.
4. Лясныя зараснікі ў паўднёвых краінах.

8. Прачытайце прыказкі, звяртаючы ўвагу на вымаўленне зацвярдзелых зычных:

Любіць увесь свет лагодны привет.
Варыла не варыла, абы добра гаварыла.
Хто заглядае ў чарку, той без хлеба і прыварку.
Які госць, такое і частаванне.
Як аб табе чуюць, так аб табе і мяркуюць.
Які розум, такая і гаворка.
Працуеш і смаку не чуеш.
Добры быў чалавек, але начальнікам паставілі.

9. Адкажыце на пытанні:

Якія прыказкі вам спадабаліся?
Як вы скажаце пра чалавека, які не клапоціцца аб сваёй рэпутацыі? А наадварот?

## III. МОЎНЫ ЭТЫКЕТ

З н а ё м с т в а.

1. Прачытайце ўслед за выкладчыкам, потым самастойна ўголас:

| | |
|---|---|
| Скажыце, калі ласка, як вас зваць? | Скажите, пожалуйста, как вас зовут? |
| Маё прозвішча Ігнатовіч, зваць – Іван Фёдаравіч. | Моя фамилия Игнатович, зовут – Иван Фёдорович. |

| | |
|---|---|
| Вельмі прыемна. Карпюк Раман Міхайлавіч. Будзем знаёмы. | Очень приятно. Карпюк Роман Михайлович. Будем знакомы. |
| Вы ўжо пазнаёміліся? | Вы уже познакомились? |
| Можна вас пазнаёміць з таварышам? | Можно вас познакомить с товарищем? |
| Я хацеў бы пазнаёміцца з вамі. | Я хотел бы познакомиться с вами. |
| Дазвольце адрэкамендавацца. | Позвольте представиться. |
| Пазнаёмце мяне, прашу вас, з... | Познакомьте меня, прошу вас, с... |
| Прабачце, з кім я размаўляю? | Простите, с кем я разговариваю? |
| Скажыце, будзьце ласкавы, хто гэты чалавек? | Скажите, пожалуйста, кто этот человек? |

2. Калі вы запомнілі гэтыя выразы, скажыце, як будзе па-беларуску:

Очень приятно; позвольте представиться; простите, с кем я разговариваю; вы уже познакомились; познакомьте меня с вашим другом.

3. Успомніце, якія словы ўжываюць беларусы, калі звяртаюцца з просьбай.

4. Што вы скажаце ў наступных сітуацыях:

вы жадаеце пазнаёміцца з дзяўчынай;
вы ўжо пазнаёміліся з ёй;
хочаце пазнаёміць сваю дзяўчыну з сябрам;
вы не ведаеце, з кім размаўляеце;
вы хочаце даведацца, што за чалавек зайшоў да вас...

5. Прачытайце дыялог.

Антон: - Я хацеў бы пазнаёміцца з вамі і з вашай сяброўкай.
Ала: - Калі ласка. Наш прозвішча Ахромчык, завуць Ала. А сяброўку маю завуць Вера.

Мікола: - Добры дзень. Вы ўжо пазнаёміліся? Тады дазвольце і мне адрэкамендавацца. Мікола Фёдараў.
Вера: - Вельмі прыемна. Вера.
Мікола: - Антона і Веру я ведаю. Але скажыце, будзьце ласкавы, як завуць вашу сяброўку?
Вера: - Ала.
Антон: - Вось мы і пазнаёміліся.

6. "Ала" і "Вера", закрыйце свае рэплікі лістом паперы. Паспрабуйце ўзнавіць гутарку.

А цяпер няхай закрые свае рэплікі і "Мікола".

7. Складзіце аналагічныя дыялогі паміж сабой наводле наступных сітуацый:

вы прыйшлі да сябра ў госці, а ён размаўляе з дзвюма жанчынамі, якіх вы не ведаеце;
вы хочаце пазнаёміць са сваімі гасцямі зайшоўшых да вас сяброў;
у перапынку падчас нарады вы выйшлі ў калідор і хочаце пазнаёміцца з чалавекам, які так добра выступаў.

## Формы ветлівасці

1. Прачытайце выразы за выкладчыкам, потым самастойна ўслых.

| | |
|---|---|
| Дзякуй! Вялікі дзякуй! | Спасибо! Большое спасибо! |
| Шчыра дзякую! | Благодарю вас! |
| Дазвольце спытаць/запытацца. | Разрешите спросить. |
| Праходзьце, калі ласка. | Проходите, пожалуйста. |
| Вы вельмі ўважлівыя, шчыра дзякую. | Вы очень внимательны, благодарю вас. |
| Не турбуйцеся, прашу вас /не клапаціцеся/. | Не беспокойтесь, пожалуйста. |
| Не звяртайце на мяне ўвагі, прашу вас. | Не обращайте на меня внимания, пожалуйста. |
| Дзе тут уваход? | Где тут вход? |
| Сядайце, калі ласка! | Садитесь, пожалуйста. |

| | |
|---|---|
| Тут можна курыць? | Здесь можно курить? |
| Так, калі ласка. | Да, пожалуйста. |
| Прабачце/выбачайце. | Извините. |
| Смачна есці! | Приятного аппетита! |

2. К о н к у р с : хто больш запомніў формул ветлівасці?

3. Што вы скажаце ў наступных сітуацыях:

хочаце спытаць, колькі зараз гадзін;
вы прыйшлі ў магазін /бібліятэку/;
вам хочацца курыць;
усе кураць, а вы ўжо год як кінулі курыць;
вы курыце, вам падалі попельніцу.

4. Складзіце дыялогі паводле наступных сітуацый:

вы апынуліся ў незнаёмым памяшканні і не ведаеце, дзе выхад;
вы прыйшлі да начальніка з пытаннем;
вы знаходзіцеся ў гасцях.

## IУ. ЛЕКСІЧНАЯ ТЭМА "СЯМ'Я. ПРАФЕСІІ"

1. Запішыце ў свой слоўнік:

жонка, муж, бацька, маці, сын, дачка, брат, сястра, пляменнік, пляменніца, дзядзька, цётка, унук, унучка, бабуля, дзядуля, дзед, зяць, нявестка, цешча, цесць, свёкар, свякроў, свякруха, сваяк, сваячка;

інжынер, шафёр, будаўнік, ваенны, афіцэр, медык, урач, настаўнік/ца/, выкладчык/ца/, перакладчык/ца/, бухгалтар, друкар, кравец, шавец, цырульнік, пекар, дойлід; начальнік кафедры, загадчык кафедры, намеснік начальніка, старшыня /чаго/, майстар, дырэктар.

2. Адказвайце на пытанні:
Хто жыве разам з вамі ў кватэры /у доме/?
Кім працуюць вашы сваякі?
Кім вы марылі стаць у дзяцінстве?
Ці ёсць у вас брат, сястра? Хто яны?
Каго са сваякоў вы яшчэ маеце?
Раскажыце аб іх. Успомніце прыказкі, якімі можна ахарактарызаваць гэтых людзей.

3. Задайце падобныя пытанні выкладчыку.

4. Правядзіце ралевую гульню "Сустрэча з карэспандэнтам".
С і т у а ц ы я : Да вас на заняткі прыйдзе карэспандэнт. Вы павінны сустрэць яго каля ўвахода, пазнаёміцца, ад рэкамендаваць групе, адказаць на яго пытанні.

Р о л і : Карэспандэнт, староста групы, слухачы курсаў.

Р э к в і з і т : картка з рэплікамі для карэспандэнта:

Вы так добра мяне сустрэлі.
Дзе вы працуеце?
Кім вы працуеце?
Ці даўно пачалі вывучаць беларускую мову?
Што вы ўжо можаце сказаць па-беларуску?
Ці вялікая ў вас сям'я?
Дзе працуюць вашы сваякі?

## У. ХВІЛІНКА АДПАЧЫНКУ

М. Багдановіч

### Р а м а н с

Зорка Вен а ўзышла над зямлёю,
Светлыя згадкі з сабой прывяла...
Помніш, калі я спаткаўся з табою,
Зорка Венера ўзышла.
З гэтай пар я пачаў углядацца
У неба начное і зорку шукаў.
Ціхім каханнем к табе разгарацца
З гэтай пары я пачаў.

Але расстацца нам час наступае;
Пэўна, ужо доля такая ў нас.
Моцна кахаў я цябе, дарагая,
Але расстацца нам час.
Буду ў далёкім краю я нудзіцца,
У сэрцы любоў затаіўшы сваю;
Можныя ночку на зорку дзівіцца
Буду ў далёкім краю.
Глянь іншы раз на яе, - у расстанні
Там з ёй злёём мы пагляды свае...
Каб хоць на міг уваскрэсла каханне,
Глянь іншы раз на яе...

## УІ. ДАМАШНЯЕ ЗАДАННЕ

Заўтра да вас прыдзе чалавек, які зусім не ведае беларускай мовы. Паспрабуйце навучыць яго хоць трошкі размаўляць па-беларуску.

## УІІ. НЕПАДРЫХТАВАНАЯ ГУТАРКА

Да пабачэння. Да сустрэчы. Можна сказаць і так: да сустрэчы заўтра /паслязаўтра/.

У афіцыйнай абстаноўцы гавораць: дазвольце развітацца з вамі.

Калі чалавек ідзе спаць, яму жадаюць добрай ночы, дабранач.



## УРОК 2

Т э м а : Гук /г/; аканне, яканне. Колькасныя лічэбнікі. Канчаткі назоўніка) множнага ліку. Прывітанне, развітанне. Падзяка. Белая Русь.

## I. НЕПАДРЫХТАВАНАЯ ГУТАРКА

Рада з вамі сустрэцца зноў. Як вы маецеся? Як жывіце ?
У сябра можна спытаць: Як дух-здароў?
У адказ вы пачуеце: Сардэчна дзякуй! Памаленьку. Ці: Добра. Дзякуй богу.

Паўтарэнне. Сітуацыя: У нас у гасцях чалавек, які зусім не ведае беларускай мовы. Паспрабуйце навучыць яго некаторым беларускім выразам.

## II. ФАНЕТЫКА, ГРАМАТЫКА

Для беларускага гука /г/ уласціва фрыкатыўнае вымаўленне.

1. Паслухайце словы, прачытайце іх за выкладчыкам:
гаварыць, гуляць, гонар, гразь, горад, грошы, гусь, гуска, [illegible]усты, грэчка, граніца, горла, глыбокі, галава, гнаць, грэцкі.

2. ЗАПОМНІЦЕ: Калі ў слове ёсць "о", "э", то яны - пад націскам /акрамя слоў іншамоўнага паходжання/.

3. Прачытайце правільна словы:
асобны, асабовы, мясцовы, месцазнаходжанне, вытворчасць, заходні, не абходна, часовы, пераадолець, усвядоміць, некаторыя, аднаразовасць, выкарыстоўваць, службовы, сэрца, чэрствы, р[illegible]кі, [illegible]сць, грэбень, рэмень, цэбар, пэры, шэлест, рэчка.

4. ЗВЯРНІЦЕ ЎВАГУ: у першым складзе перад націскам "о", "э" пераходзяць у "а" /аканне/, акрамя слоў іншамоўнага паходжання, напрыклад: адажыо, трыо.

горы - гара́
розум - разу́мны
шэптам - шапта́ць
рэмень - раме́нны

Замест "е","ё" у першым складзе перад націскам з'яўляецца "я" /яканне/, акрамя слоў іншамоўнага паходжання і ўласных назваў, напрыклад: Херсо́н, Гера́сім, дзевя́ты, дзеся́ты.

вечар - вячэ́рні
вёдры - вядро́
лес - лясы́
вёсны - вясна́

Ці заўважылі вы? У множным ліку назоўнікі маюць канчаткі -Ы, -І /рус. братья, вёдра/

5. Пастаўце наступныя словы ў множным ліку: бяроза, сякера, сястра, зямля, вядро, сям'я, ляснік, холад, дождж, колас, стог.

6. Пастарайцеся правільна прачытаць беларускія фразеалагізмы.

Гол як сакол.
Блёкату аб'ешся.
Вярэдзіць душу́.
Бітая гадзіна.
Немым голасам.
Кідаць камяньчыкі ў агарод.
Раз-два і гатова; у адзін момант.
Да святога нігды /в долгий ящик/.
Уздоўж і ўпоперак.
У чорным целе; у абцугах; у цуглях /в ежовых рукавицах/.
Гады ў рады; рады ў гады /в кои-то веки/.
Вось яшчэ! Яшчэ чаго!
Што б там ні было /во что бы то ни стало/.



7. Што вы скажаце ў наступных выпадках:
ваш сябар рэдка заходзіць да вас;
чалавек аб'ездзіў увесь свет;
хтосьці надта доўга выконвае якую-небудзь справу;
чалавек згубіў здольнасць думаць;
хтосьці ці штосьці выклікае ў вас цяжкія ўспаміны;
хто-небудзь насмешліва ставіцца да другога чалавека.

Л і ч э б н і к. Колькасныя лічэбнікі.

8. Прачытайце ўслед за выкладчыкам.
нуль, адзін /адна, адно/, два/дзве/, тры, чатыры, пяць, шэсць, сем, восем, дзевяць, дзесяць; адзінаццаць, дванаццаць, трынаццаць, чатырнаццаць, пятнаццаць, шаснаццаць, семнаццаць, васемнаццаць, дзевятнаццаць, дваццаць; дваццаць адзін /адна, адно/, дваццаць пяць; трыццаць, сорак, пяцьдзесят, шэсцьдзесят, семдзесят, восемдзесят, дзевяноста, сто; сто адзін, сто дзесяць, сто пятнаццаць, сто дваццаць восем; дзвесце, трыста, чатырыста, пяцьсот, шэсцьсот, семсот, васемсот, дзевяцьсот; /адна/ тысяча, дзве тысячы, шэсць тысяч семсот дзевяноста дзевяць; мільён, мільярд.

9. Адкажыце на пытанні:
Колькі вам год?
Колькі год вашым сваякам, сябрам?
Колькі год вы вывучалі рускую мову? ангельскую?
Колькі год служылі ў арміі?
Колькі год вучыцеся ў ВНУ?
Колькі год жывеце ў Мінску?

10. Раскажыце аб якім-небудзь чалавеку /як яго завуць, колькі яму год, дзе жыве, кім працуе/. Успомніце прыказкі, фразеалагізмы, якімі можна яго характарызаваць.

III. МОЎНЫ ЭТЫКЕТ

З а д а н н і

1. Прачытайце выразы за выкладчыкам, потым самастойна ўголас

| | |
|---|---|
| Сардэчна дзякуй вам за дапамогу. | Сердечное спасибо вам за помощь. |
| Я вам вельмі абавязаны/а. | Я вам очень обязан/а. |
| /Гэта/ вельмі міла з вашага боку. | /Это/ очень любезно с вашей стороны. |
| Дзякуй за пачастунак. | Спасибо за угощение. |
| На добрае здароўе. | Пожалуйста. |
| Няма за што /дзякаваць/. | Не за что /благодарить/. |
| Я ўдзячны вам. | Благодарю вас. |
| Вельмі смачна было. | Очень вкусно было. |

2. Што вы скажаце, калі:
хочаце аддзякаваць за дапамогу;
лічыце, што зрабілі для чалавека не так ужо і многа;
для вас што-небудзь зрабіла жанчына;
вас падзякавалі за абед /вячэру/.

3. Складзіце дыялогі паводле наступных сітуацый:
бібліятэкар падабраў вам неабходную літаратуру;
за вячэрай;
ваш сябар прынёс вам кнігу, аб якой вы даўно марылі.

## IV. ЛЕКСІЧНАЯ ТЭМА "БЕЛАЯ РУСЬ"

Ці ведаеце вы, чаму нашу рэспубліку называюць Беларусь – Белая Русь? Ёсць некалькі меркаванняў наконт гэтай назвы. Вы даведаецеся аб іх з наступнай гутаркі.

С.1 – Скажыце, будзьце ласкавы, калі ўзнікла назва Белая Русь?
Г. – Гэта назва была вядома ў нашым краі яшчэ ў далёкай старажытнасці. Яна сустракаецца ў летапісе 1315г. без тлумачэння, што ўказвае на яе шырокую вядомасць тады.
С.2 – Цікава даведацца, што абазначае гэта назва і якую частку тэрыторыі сучаснай Беларусі так называлі. Я задаю такое пытанне, бо ведаю, што ў межах нашай рэспублікі была вядома і назва Чорная Русь.
Г. – Добрае пытанне. Але я хачу сказаць, што гісторыкі пакуль што вядуць спрэчкі, выказваюць розныя меркаванні. Некаторыя лічаць, што назва Белая Русь належала аднаму з княстваў старажытнай Русі, бо ў часы феадальнага драблення былі вядомы такія назвы, як Кіеўская Русь, Наўгародская Русь, Маскоўская Русь. Ці можна, на вашу думку, падобным чынам вытлумачыць назву Белая Русь?
С.3 – Мне здаецца, нельга. Гэтыя ж назвы ўтварыліся ад княжацкіх цэнтраў, старажытных гарадоў.
Г. – Вы маеце рацыю. Ёсць думка, што гэтыя назвы звязаны з назвамі вадаёмаў Белае возера і Чорнае возера, ці возера з чыстай, празрыстай вадой і возера з цёмнай вадой.
Паводле другой думкі, такія назвы ўзніклі ў сувязі з асаблівасцю адзення мясцовага насельніцтва. Адны аддавалі перавагу нефарбаванай тканіне, белай, другія фарбавалі яе ў цёмны колер.
С.1 – А я лічу, што гэтыя назвы звязаны са становішчам насельніцтва.
Г. – Зусім слушна. Лічаць, што заходнія землі, Чорная Русь, падпалі пад уладарніцтва літоўскіх князёў, сталі іх падняволынымі, чорнымі людзьмі, а ўсходнія былі свабоднымі, незахопленымі. Але пераканальныя доказы прывесці цяжка.
С.4 – Ці вядомы іншыя назвы, акрамя тых, пра якія мы гаварылі?
Г. – Наш край называлі і Літвой, і Крывіяй, і Северо-Западным краем. Але ў канцы XIXст. назва Белая Русь выцесніла ўсе іншыя назвы.
С.3 – Як я зразумеў, пакуль што існуюць толькі меркаванні наконт назвы рэспублікі.
Г. – Так. Але будзем спадзявацца, што знойдуцца дакументы, якія дадуць больш грунтоўны адказ на ўсе вашы пытанні.
С.2 – Вялікі дзякуй вам за ўдзел у нашай гутарцы.

1. Знайдзіце у дыялогу адказы на наступныя пытанні:
Ці даўно вядома назва Белая Русь?
Якую тэрыторыю называлі так у старажытнасці? Чаму?
Якія назвы, апрача Белай Русі, яшчэ вядомы?

2. Якая версія аб назве нашай рэспублікі вам спадабалася?

3. Ці ёсць у вас уласныя меркаванні ў сувязі з назвай

рэспублікі?

4. Уявіце, што менавіта вы займаецеся пытаннямі, звязанымі з гісторыяй Беларусі, і вас запрасілі на радыё падзяліцца сваімі думкамі. Падрыхтуйце для гэтай мэты свой аповяд. Выкарыстайце наступныя словы:

наогул/увогуле /кажучы/, па-першае, па-другое, па-трэцяе, з аднаго боку, з другога боку, нарэшце.

## V. ХВІЛІНКА АДПАЧЫНКУ

Я. КУПАЛА

Мая малітва

Я буду маліцца і сэрцам, і думамі,
Распетаю буду маліцца душой,
Каб чорныя долі з мяцеліцаў шумамі
Ужо больш не шалелі над роднай зямлёй.

Я буду маліцца да яснага сонейка,
Няшчасных зімой саграваць сірацін,
Прыветна па збожных гуляючы гонейках,
Часцей заглядалі да цёмных хацін.

Я буду маліцца да хмараў з грымотамі,
Што дзіка над намі гуляюць не раз,
Каб жаль над гаротнымі мелі бяднотамі,
Градоў, перуноў не ссылалі падчас.

Я буду маліцца і сэрцам, і думамі,
Распетаю буду маліцца душой,
Каб чорныя долі з мяцеліцаў шумамі
Не вылі над роднай зямлёй, нада мной.

1906г.

## VI. НЕПАДРЫХТАВАНАЯ ГУТАРКА

Успомніце, як беларусы развітваюцца.

Акрамя гэтага, можна сказаць: Да панядзелка /аўторка, серады, чацвярга, пятніцы, суботы, нядзелі/.

Усім прывітанне. Бывайце здаровы.

Калі чалавек кудысьці едзе, яму жадаюць хутчэй вярнуцца, шчаслівай дарогі.

## VII. ДАМАШНЯЕ ЗАДАННЕ

Вывучыце верш "Мая малітва" на памяць.

Восень сунецца, як хмара.
Марыць сад пра весні цвет.
Пасівела наша пара,
Побач з бабкай крочыць дзед:
- Ты куды, старая? Што ты!
Не пашкодзь об камень боты!

2. Падумайце, як вы звернецеся да:
удзельнікаў сходу
сяброў
незнаёмых людзей.

## УРОК 3

Тэма : Цеканне. Інфінітыў. Зваротныя дзеясловы.
Просьба, дазвол, забарона. Наша мова.

### I. НЕПАДРЫХТАВАНАЯ ГУТАРКА

Мы ўжо ведаем, як вітаюцца ў Беларусі, якія словы гавораць пры сустрэчы. А як жа звяртаюцца адзін да другога?

Можна сказаць: спадар, спадарыня, спадары ці паважаны спадар, вельмі шаноўная грамада.

А можна звярнуцца і так: калегі, панове.

Існуюць у нас і такія звароты, як "грамадзянін", "грамадзянка".

1. Паслухайце верш А Зарыцкага "І так бывае", адзначце ў ім звароты.

Зэле сонца веснавое,
Над садамі - белы дым.
По сцяжынцы крочаць двое,
Маладая з маладым:
- Глянь, каменьчык ля дарожкі,
Не пашкодзь, галубка, ножкі.
За ўрадкаем жнівень сочыць,
Спевць яблыкі ў садах.
Тыя ж той жа сцежкай крочаць,
Толькі ўжо крыху ў гадах:
-Бачыш камень ля дарогі,
Не пашкодзіла б ты ногі.

### II. ФАНЕТЫКА, ГРАМАТЫКА

1. Прачытайце наступныя паданні, звяртаючы ўвагу на вымаўленне гукаў /дз'/, /дж/, /ў/, /г/,/р/, /ч/.

#### Адкуль Гомель

Там, дзе цяпер стаіць Гомель, пасярэдзіне ракі Сож, некалі было намыта шмат пяску. Каб плыты і баркі, што плылі па рацэ, не ўзбіваліся на мель, на беразе каля гэтага месца заўсёды стаяў чалавек і крыкам папярэджваў:

- Го! Мель! Го! Мель!

Вось і пайшло - Гомель.

#### Валожын

З Вільні ганялі ў Мінск валоў прадаваць, а ўВаложыне рабілі папаску, бо быў там вялікі лес.

Таму і назвалі Валожын, або Валыжэнь: валы жэнь! Гані валы, значыць.

#### Стоўбцы

На тым месцы, дзе цяпер Стоўбцы, калісьці быў лес. У ім нейкі князь пабудаваў манастыр. І доўгі час там жылі манахі. Аднаго году яны ўсе памерлі ад чумы. Манастыр апусцеў, разбурыўся. А на тым месцы ўкапалі тры стоўбікі ў знак таго, што нельга сяліцца.

Але прайшоў час. І па загаду князя тут пачалі сяліцца людзі. Яны знайшлі закапаныя стоўбікі, якія называліся стоўбцамі.

### Адкуль Нясвіж

На тым самым месцы, дзе цяпер стаіць Нясвіж, было некалі старажытнае паселішча. Але аднойчы здарылася няшчасце: паселішча праваліласся пад зямлю. На яго месцы засталіся толькі ўзгоркі ды руіны. Невядома, колькі часу прайшло пасля таго, як тут зноў пасяліліся людзі. Але паколькі месца гэта было "не свежае" /бо тут некалі жылі людзі/, дык яго і назвалі Нясвіж.

### Пра Мір-гару

Даўным-даўно ў тутэйшых месцах звінелі мячы: два князі не маглі ўжыцца па суседству. Не раз іх дружыны хадзілі адна на другую. Лілася кроў па схілах гары.

Князі аднойчы сустрэліся на гары без зброі, замірыліся. Адсюль і пайшла назва — Мір-гара.

### Урочышча Крычаў

За ракою ёсць высокі курган: гэта магіла пабітых татараў. З гэтага ж боку ракі месца, дзе татараў разбілі, называецца Крычаў, таму што калі іх прыціснулі да ракі, татары паднялі страшэнны крык. Хто паспеў пераплысці раку, таго кончылі на тым баку. Над імі і насыпаны курган.

2. Адкажыце на пытанні:

Ці ўсё вы зразумелі?
Ці былі новыя словы?
Ці спадабаліся вам паданні?

3. Звярніце ўвагу!

<u>Ці</u> зразумелі — поняли ли
<u>Ці</u> былі — были ли
<u>Ці</u> спадабаліся — понравились ли

Зрабіце вывад: часціца ЦІ ужываецца замест рускай ЛИ, але стаіць перад словам, на якое падае лагічны націск.

Пастаўце пытанні да паданняў, якія вы прачыталі. Пачніце іх словамі: ЦІ, ШТО, ДЗЕ, КАЛІ, ЯК, ХТО.

Беларускай мове ўласцівы гукі /ц'/, /ц/.
Гук /ц/ — зацвярдзелы /цагліна, цалкам, станцыя/.
Гук /ц'/ — на месцы рускага /т'/ — перад е, ё, ю, я, і, ь, акрамя слоў іншамоўнага паходжання /тэма, тэарэма, тэкстыль/, напрыклад: ціхі — тихий, лячыць — лечить, пісаць — писать, несці — нести. Гэта з'ява называецца ц е к а н н е м .

5. Прачытайце словы, правільна вымаўляючы /ц'/:

залацісты, у золаце, цянёк, цвісці, мяцеліца, нацюрморт, на канцэрце, кацяня, карацей, боцік, на флоце, у жыце, маццёр, білецік, канверцік, эцюд, уверцюра, цір, арцель, лянець, звацъ, загадаць, зачыніць, спытаць, тэлефанаваць, заўважыць, адзначыць, адпачыць, адказаць.

6. Патрэніруйцеся ў вымаўленні /ц'/ у прыказках

Уцяку не ўцяку, а пабегчы трэба.
На навуцы свет стаіць.
Байкі дзядзей гадуюць.
Лепей асцярожна, чым варожна.
Добрая дарога — карацейшы шлях.
Я кажу 18, а яна — без двух 20.
Гаварыць трэба паасобку, а спяваць — разам.
Ад парога падлогу не мятуць.
Умела гатаваць, ды не ўмела падаваць.
Чуць свет.
Ні даць, ні ўзяць.
Свету белага не відаць.
Лезці са скуры.
Як мае быць.
Чакаць з мора пагоды.
Да чарцікаў.
Давяць дзёру.
За [illegible] не адцягнеш.

7. Прачытайце словы. Гук /ц/ тут вымаўляецца цвёрда.

ён, яна - мыеЦЦА, купаеЦЦА, радуеЦЦА, хвалюеЦЦА
яны - мыюЦЦА, купаюЦЦА, радуюЦЦА, хвалююЦЦА
што рабіць - мыЦЦА, купаЦЦА, радаваЦЦА, хваляваЦЦА

8. Запомніце:

| у рускай мове: | у беларускай мове: |
| --- | --- |
| 1. -тся/ться/ | -цца |
| 2. -ть, -ти/інф./ | -ць, ці |
| 3. -ит | -іць/ыць/ |
| -ут/ют/ | -уць/-юць/ |
| -ат/-ят/ | -аць/-яць/ |

## III. МОЎНЫ ЭТЫКЕТ

### Просьба, дазвол, забарона

1. Прачытайце выразы ў голас.

Я прашу вас.
У мяне ёсць просьба да вас.
Я маю просьбу да вас.
Я магу ўвайсці /спытаць, даведацца, атрымаць, узяць/?
Уваходзьце, прашу вас.
Не. Прашу пачакаць хвілінку.
Не, не! Сюды ўваходзіць нельга!
Вам забаронена ўставаць з ложка. Вы ж хварэеце.
Я атрымаў дазвол на ...
Дазволена ўсё, што не забаронена.

2. Выканайце просьбу выкладчыка:

У мяне ёсць да вас просьба. Успомніце, калі ласка, беларускія прыказкі.
Я прашу вас задаць мне некалькі пытанняў.
Скажыце, будзьце ласкавы, аб чым вы хочаце даведацца на наступным уроку?



3. Звярніцеся адзін да другога з рознымі просьбамі.

4. Складзіце дыялогі паводле наступных сітуацый:

вы знаходзіцеся на нарадзе, вам трэба перадаць запіску;
вы вырашаеце сур'ёзнае пытанне, а ў гэты час да вас звяртаюцца з просьбай;
вы даглядаеце за хворым, які вас зусім не слухаецца.

## IУ. ЛЕКСІЧНАЯ ТЭМА "НАША МОВА"

Як складалася наша мова? Які шлях яна прайшла? На гэтыя і іншыя пытанні вы знойдзеце адказы ў сённяшнім і ў наступным уроку.

С.1 - Мы ведаем, што агульнай мовай для ўсходніх славян была старажытнаруская. Яна была дзяржаўнай мовай Кіеўскай Русі. Як адбылося, што паступова з гэтай мовы выдзеліліся руская, украінская і беларуская мовы?

Г. - Беларуская мова пачала складвацца яшчэ ў XII-XIII стагоддзях на аснове гаворак усходнеславянскіх плямёнаў - дрыгавічоў, радзімічаў, заходніх крывічоў, якія ў той час уваходзілі ў Кіеўскую Русь. Цяжка меркаваць цяпер, як тады гаварылі пад Полацкам, на Палессі ці каля Гародні, але вядома, што тады нашы далёкія продкі цвёрда вымаўлялі /р/, прыдыхальна /г/, быў ужо гук /ў/, мяккія /дз'/, /ц'/, з памякчэннем вымаўляліся словы песьня, касьсё, радасьць.

С.2 - Напэўна, выдзяленне рускай, украінскай і беларускай моў можна звязаць з распадам Кіеўскай Русі?

Г.- Зусім не. Распад адзінай дзяржавы не падзяліў усходніх славян на беларусаў, украінцаў, рускіх. Разышліся іх дарогі толькі каля 600 - 700 гадоў таму назад, пасля захопу мангола-татарскай ардой усходніх і часткі паўднёвых земель.

С.3 - Вы сказалі, што беларуская мова пачала складвацца яшчэ ў XII-XIII стагоддзях. А калі яна канчаткова сфарміравалася?

Г.- Заходнія землі апынуліся ў складзе Вялікага княства Літоўскага. Менавіта там у XIУ-XУI стагоддзях і сфарміравалася беларуская народнасць, а таксама яе мова.

Беларуская мова гучала сярод простага люду. Ёй карысталіся князі і дружыннікі. Хутка загучала яна і ў маёнтках літоўскіх князёў, у сталіцы літоўскай дзяржавы Вільні на сходах шаноўных асоб. Да беларускай мовы пачалі далучацца літоўскія гараджане, вяскоўцы.

С.4 - Цікава, якая ж мова была дзяржаўнай у Вялікім княстве Літоўскім?

Г. - Дзяржаўнай мовай стала беларуская. На ёй пісалі ўрадавыя пастановы, акты, граматы, летапісы, мастацкія творы. Валоданне беларускай мовай у ВКЛ заслугоўвала павагі і пашаны.

С.2 - Вядома, што на беларускай мове ўпершыню пачаў друкаваць кнігі Францыск Скарына. Але гэта адбылося ў Празе. Ці былі ў той час друкарні на тэрыторыі Беларусі?

Г. - Былі. Яны ўзніклі ў XУI стагоддзі ў Нясвіжы, Заслаўі, Слуцку, Ашмянах, Брэстчах, Гародні, Пінску і іншых гарадах. Кнігадрукаванне адыграла вялікую ролю ў развіцці беларускай пісьмовай мовы.

С.1 - Чаму ў такім разе беларуская мова доўгі час знаходзілася ў заняпадзе, чаму на роднай мове размаўляюць у нас нямногія?

Г.1 - Вось аб гэтым і пойдзе наша гутарка на наступным уроку. А цяпер дазвольце развітацца з вамі. Да сустрэчы.

1. Адкажыце на пытанні:

Як ставіліся да беларускай мовы ў ВКЛ?

Ці можна назваць XIУ - XУI стагоддзі "залатым векам" беларускай мовы, культуры?
Выкажыце згоду ці нязгоду з гэтай фармуліроўкай.
Вам дапамогуць наступныя выразы:

Я не згодзен/згодны /згодная/
Я так не лічу/ я таксама лічу
Цяжка не пагадзіцца з такім меркаваннем /падыходам, думкай/

2. Уявіце, што адзін з вас гісторык. Задайце яму пытанні па тэме "Наша мова", пачніце іх словамі:

КАЛІ? ЯК? ДЗЕ? ЧАМУ? ХТО? ЦІ?

У. ХВІЛІНКА АДПАЧЫНКУ

Я. Купала

Роднае слова

Пагутнае слова, ты, роднае слова!
Са мной ты на яве і ў сне;
Душу мне затрэсла пагудкаю новай,
Ты песень навучыла мне.

Бяссмертнае слова, ты, роднае слова!
Ты крыўды, няпраўды знягло;
Хоць гнялі цябе, накладалі аковы,
Ды дарма: жывеш, як жыло!

Свабоднае слова, ты, роднае слова!
Зайграй ты смялей, весялей!
Хоць гадзіны сыкаюць, кружацца совы,
Жывеш ты на хвалу людзей.

Загнанае слова, ты, роднае слова!
Грыміш ж над радзімай зямлёй:
Сто родная мова, хоць бедная мова,

Мілей найбагатшай чужой!

## VI. НЕПАДРЫХТАВАНАЯ ГУТАРКА

Калі вы развітваецеся з чалавекам, то можна яшчэ сказаць яму:

Жадаю вам шчасця.
Шчасця вам.
Хай вам шчасціць.
Хай усе будзе добра.
Дай вам бог чутае бачыць /Пусть все задуманное исполнится/.

## VII. ДАМАШНЯЕ ЗАДАННЕ

Падрыхтуйцеся да выступлення на сходзе па тэме "Наша мова"; вывучыце верш Я.Купалы на памяць.

# УРОК 4

Т э м а : Прыстаўныя зычныя. Парадкавыя лічэбнікі. Дзеяслоў, спражэнне. Зваротныя дзеясловы. Надвор'е. Гаварэнне,разуменне. Наша мова.

## I. НЕПАДРЫХТАВАНАЯ ГУТАРКА

Добры дзень! Як вы сябе адчуваеце? Ці не змерзлі? Вам падабаецца сённяшняе надвор'е? Якому надвор'ю вы аддаяце перавагу? Чаму?

Наступныя словы дапамогуць адказаць вам на гэтыя пытанні:

на дварэ: холадна,халаднавата,зімна,ясна,мароз,бярэцца на мароз, сыра,вільготна,пахмурна,дзьме паўночны вецер,узняўся вецер;
узнялася: мяцеліца,завіруха,завея;
на дарозе: галалёдзіца,галалёд,вельмі слізка,коўзка,пачалася адліга;
надвор'е: псуецца,паляпшаецца;
снег: ціха падае,бліщчыць на сонцы,хрусціць/храбусціць пад нагамі.

Сёння 13° ніжэй нуля. Пры такой пагодзе лепш сядзець дома.

Ці ведаеце вы,як называюцца зімнія месяцы?
Гэта снежань,студзень,люты.
Давайце ўспомнім астатнія:
сакавік,красавік,май;
чэрвень,ліпень,жнівень;
верасень,кастрычнік,лістапад.

2. А зараз скажыце,які месяц перш..,другі,трэці,чацвёрты,пяты,шосты,сёмы,восьмы,дзевяты,дзесяты,адзінаццаты,дванаццаты?

3. Звярніце ўвагу: парадкавыя лічэбнікі мужчынскага роду

адзіночнага ліку маюць канчатак -Ы/-І.

4. Адкажыце на пытанні:
Які год вы служыце ў арміі?
Які год вывучаеце родную мову? расійскую? замежную?
Які год пайшоў вам? вашым сваякам? сябрам?

5. Задайце падобныя пытанні адзін другому.

II. ФАНЕТЫКА, ГРАМАТЫКА

Прыстаўныя гукі.

1. Прачытайце фразеалагічныя абароты:
Вудзіць акунёў /дремать/.
Ні вухам не весці /не обращать внимания/.
Як вокам зглядзець /миг/.
Дзеля вока /на глаз/.
З вока на вока /с глазу на глаз/.
Прэч з вачэй /с глаз долой/.

Напэўна, вы заўважылі, што ў словах "вудзіць", "вуха", "вока" у параўнанні з рускай мовай з'явілася літара "в". Справа ў тым, што ў беларускай мове ёсць прыстаўныя гукі /в/, /г/.

Прыстаўны /в/ з'яўляецца:
перад націскным О /во́сень, во́зера, абво́рваць/;
перад каранёвым У /вугал, вучоба/.
Выключэнне: запазычаныя словы /орган, універмаг/;
уласныя назвы /Урал, Осіпаў/.

Прыстаўны /г/ ёсць у словах:
гэты, гэтулькі, гэтакі, адгэтуль, гэй, гоп.

2. Скажыце, як наступныя словы будуць гучаць па-беларуску: отпуск, обод, обла' ый, паутина, обугленный, улица, ученик, универсальный, узел, узловатый, усатый, окна, урна, Ларион, Наум, орден, ольха, этот, уникальный, Омск.

3. Прачытайце апавяданне У. Цвяткова "Знаёмства", звярніце



увагу на вымаўленне гукаў /ц/, /ц'/.

Студэнт-дыпломнік Сідараў запрасіў на танец маладзенькую сімпатычную дзяўчынку. У яе быў высокі лоб, блакітныя вочы, добразычлівы твар. Такія яму падабаліся.

- Ці часта вы бываеце тут, на вечарах? - спытаў Сідараў.
- А вы часцяком да нас прыходзіце? - пацікавілася дзяўчына.
- Між іншым, мяне клічуць Іванам, - сказаў ён.
- Мяне Надзеяй, - адказала дзяўчына.
- Я вучуся ў тэхналагічным.
- Я таксама.
- Праўда? На якім курсе?
- На першым.

Сідараў задумаўся. Надзеі - васемнаццаць, яму - дваццаць два. Чым не пара? Яго бацька ў васемнаццаць быў ужо жанаты. Старэйшы брат Васіль згуляў вяселле ў дзевятнаццаць, сястра Люда выйшла замуж у дваццаць, дзядзька Сцяпан - у дваццаць адзін. Час і яму, Івану, падумаць пра будучае. Зараз, калі ён на парозе самастойнага жыцця, чаму б і не ажаніцца.

Побач будзе прыгажуня-жонка. Паклапоціцца пра цябе, накорміць, напоіць, суцешыць, прыласкаць...

Сідараў думаў і цёплымі вачамі глядзеў на сваю партнёршу. Надзеіны вочы, як яму здавалася, радасна свяціліся ў лад яго думкам. Але ўсмешка раптам спаўзла з твару Сідарава. Яму падумалася: а калі ўсё будзе інакш? Пачнеш уставаць раніцай і гатаваць сняданак, прыбіраць ложак, а вечарам мыць не толькі свае кашулі і шкарпэткі, але і ўсю бялізну ў доме, прасаваць пасля работы, бегаць па магазінах, выстойваць чэргі, потым гатаваць вячэру і мыць посуд, падмятаць і мыць падлогу, а ў дзевяць вечара валіцца з ног ад стомленасці. У госці без жонкі - ніколі, з работы - толькі своечасова, у водпуск адзін не паедзеш, а прасядзіш усе 24 дні /бо ў жонкі водпуск у наступным квартале/ у душным горадзе, з сябрамі не сустрэцца, інакш - скандал...

- Вы прабачце, Надзея, - нечакана прыпыніўся Сідараў. - Я зусім забыўся, што мяне чакаюць.

Ці заўважылі вы?
казалоСЬ - здавалаСЯ

светилиСЬ - свяціліСЯ
подумалоСЬ - падумалаСЯ
приостановилаСЯ - прыпыніўСЯ

у рус. мове СЬ,СЯ - у бел.мове СЯ

4. Пастаўце наступныя дзеясловы ў 3-яй асобе цяперашняга ці прошлага часу,пабудуйце з імі міні-апавяданне:

падабацца /каму?/
пацікавіцца /кім?/
вучыцца /дзе? на каго?/
забыцца /аб чым?/

5. Задайце пытанні па тэме "Наша мова",выкарыстайце наступныя дзеясловы ў 3-яй асобе:
выдзеліцца,апынуцца,сфарміравацца,карыстацца,далучацца.

Паназіраем,якія адрозненні існуюць у спражэнні дзеясловаў ў беларускай і рускай мовах.

| | | | |
|---|---|---|---|
| бываю | бываем | прыходжу | прыходзім |
| бываеш | бываеце | прыходзіш | прыходзіце |
| бывае | бываюць | прыходзіць | прыходзяць |

Зробім вывад:
у рус.мове: у бел.мове:
-ЕТ /-ЕТ/ -Е /-Э,-А/
-ИТ -ІЦЬ /-ЫЦЬ/

Запомніце націск:

ідзеш - ідзяце́,нясеш - несяце́,бярэш - берае́ ;маркуеш - маркуе́це,пішаш - пішаце.

6. Пастаўце дзеясловы ў дужках у 3-яй асобе цяперашняга часу.

У 1696г. польскі сейм /выдаваць/ закон,паводле якога дзяржаўнай мовай становіцца польская ,а беларуская /бытаваць/ у вуснай форме. Амаль адначасова з польскай мовай на Беларусь /пачынаць/



пранікаць латынь. І да нашага часу /жыць/ у беларускай мове лацінскія словы. Указам 1840г. рускі цар /забараняць/ слова "Беларусь". Навукова-тэрміналагічная камісія /распрацоўваць/ тэрміны па ўсіх галінах навукі.

7. Пастаўце зваротныя дзеясловы ў прошлым часе:

У 1569г. ВКЛ /аб'ядноўвацца/ з Польшчай.
Па-лацінску /афармляцца/ дакументацыя./пісацца/ навуковыя працы.
У канцы XVIII стагоддзя Беларусь /уз'ядноўвацца/ з Расіяй.
Беларускія кнігі /выдавацца/ за мяжой.

III. ЛЕКСІЧНАЯ ТЭМА "НАША МОВА" /працяг/

С.1 - Мы ведаем ужо,што ў ВКЛ беларуская мова была дзяржаўнай. А што здарылася далей? Чаму родная мова не нашай зямлі была не ў пашане,на ёй нават саромеліся размаўляць?

Г. - Справа ў тым,што ў 1569г. ВКЛ аб'ядналася з Польшчай у федэратыўную дзяржаву Рэч Паспалітую,і сфера ўжывання беларускай мовы пачала звужацца. У 1696г. польскі сейм выдае закон,паводле якога дзяржаўнай мовай на Беларусі становіцца польская, а беларуская бытуе пераважна ў вуснай форме,убіраючи асобныя польскія словы:зброя,бронь,маёнтак,занак,твар,віцэлец,палац, скарб і іншыя.

С.2 - Прабачце,што перапыняю вас,але хачу запытаць,чаму ў нашай мове,акрамя польскіх,шмат слоў з лацінскай мовы?

Г. - Вельмі своечасовае пытанне. Побач з польскай мовай дзяржаўнай у Рэчы Паспалітай лічылася і лацінская. Па-лацінску афармлялася дакументацыя ў судах і дзяржаўных установах,пісаліся навуковыя працы,дыпламатычныя паперы. Таму і да нашага часу дайшлі такія лацінскія словы,як дырэктар,рэвізор,кандыдат,дакумент,копія,параграф,кааперацыя.

С.3 - Цікава,якой была палітыка рускіх цароў у дачыненні да нашай мовы?

Г. - Напэўна, вам вядома, што ў канцы XVIII стагоддзя Беларусь уз'ядналася з Расіяй. У дзяржаўных установах і школах карыстацца беларускай мовай не дазвалялася. Указам 1840г. рускі цар забараніў слова Беларусь, а пасля 1863г. забараніў і выданне кніг на беларускай мове. Яны, аднак, стараліся, распаўсюджваліся і выдаваліся за мяжой. Магчымасць мець свой легальны друк беларусы атрымалі толькі пасля рэвалюцыйных падзей 1905г.

С.3 - Як жа складваўся лёс беларускай мовы ў нашым стагоддзі? Чаму зусім нямногія добра размаўляюць па-беларуску?

Г. - Пасля абвяшчэння Беларусі суверэннай Савецкай Рэспублікай беларуская мова была прызнана афіцыйнай. Яна стала мовай радыё, кіно, школы. У 1921г. ствараецца беларуская навукова-тэрміналагічная камісія, якая распрацоўвае тэрміны па ўсіх галінах навукі ў аб'ёме сярэдняй школы. 20-ыя гады сталі гадамі росквіту беларускай мовы, культуры. Але ўжо ў гады сталінскіх рэпрэсій праследаваліся лепшыя прадстаўнікі беларускай інтэлігенцыі, размаўляць на беларускай мове было небяспечна. Вось і рабіце вывад, чаму склалася такое становішча на Беларусі з роднай мовай.

С.4 - Будзем спадзявацца, што ў хуткім часе кожны сапраўдны беларус будзе лічыць сваёй роднай мовай менавіта беларускую, адну са старажытных славянскіх моў. Дзякуй вам за ўдзел у нашай гутарцы.

1. Падумайце над пытаннямі:

Чаму ў нашай мове ёсць і польскія, і рускія, і лацінскія словы?
Чаму беларускія кнігі ў XIX стагоддзі ствараліся і друкаваліся за мяжой?
Чаму 20-ыя гады называюць гадамі росквіту беларускай мовы і культуры?



Чаму так адбылося, што зусім нядаўна ў Мінску была адна беларуская школа, у той час як у Беластоку іх было чатыры?

## IV. МОЎНЫ ЭТЫКЕТ

### Гаварэнне, разуменне

1. Прачытайце дыялог, які адбыўся паміж карэспандэнтам і слухачом курсаў беларускай мовы.

К. - Добры дзень. Я з газеты "Во славу Родины". На якой мове будзем размаўляць?

С. - Вы можаце гаварыць па-беларуску. Я шмат што разумею, хаця пачаў вывучаць мову нядаўна. Паспрабую і я размаўляць з вамі на беларускай мове.

К. - Значыць, дамовіліся. Будзем размаўляць па-беларуску. Якімі мовамі вы валодаеце?

С. - Украінскай. Гэта мая родная мова. А яшчэ добра ведаю рускую і крыху - англійскую.

К. - Ці спрабуеце вы размаўляць са знаёмымі па-беларуску?

С. - Я яшчэ мала слоў ведаю, каб свабодна размаўляць, некаторыя словы не зусім правільна вымаўляю.

К. - Не звяртайце ўвагі на вымаўленне. Гаварыце смялей. Наогул, каб свабодна размаўляць на якой-небудзь мове, трэба як мага больш чытаць на гэтай мове, мець моўную практыку, а для гэтага неабходна моў за асяроддзе. Вы не супраць?

С. - Прабачце, я часам вас не зусім разумею. Прашу вас гаварыць не спяшаючыся. Я чытаю беларускія газеты і часопісы, часам слухаю беларускія перадачы. Як я вам сказаў, амаль усё разумею па-беларуску, але на рабоце, у сям'і яшчэ не асмельваюся размаўляць на беларускай мове.

К. - Жадаю вам поспехаў у вывучэнні беларускай мовы. Усяго добрага.

С. - Да пабачэння.

2. Што вы даведаліся з дыялога пра слухача курсаў?
3. Ці згодны вы з апошнімі словамі карэспандэнта? /глядзі "згода-нязгода" - урок 3/.
4. Задайце аналагічныя пытанні адзін другому.
5. Сітуацыя: Адзін з вас атрымаў пісьмо з Украіны ад таварыша па службе, у якім ён апавядае аб вывучэнні роднай мовы. Распытайце ў яго аб змесце пісьма.

## V. НЕПАДРЫХТАВАНАЯ ГУТАРКА

### Снежань

Надышла студзёная пара. Суровы снежань-зімнік намёў у лесе вялізныя сугробы, надзеў на дрэвы і хмызнякі снегавыя шапкі, пухкім белым дыванам заслаў ясныя паляны, лугі і палі. З вечара прыціснуў мароз, ды такі, што ўсю ноч у лесе стаяў трэск.

Сонца ледзь узнялося над гарызонтам, спыніілася і, здаецца, застыла. Падзьмуў снежань свежымі марознымі ветрамі. Скаваў хуткія рэкі пад тоўсты блакітны лёд. Стынуць, зацягваюцца лёдам нават ясныя крыніцы, якія звычайна не замярзаюць. Дні робяцца карацейшымі.

Снежань не толькі каляндарны пачатак зімы: у гэтым месяцы амаль паўсюдна ўтвараецца ўстойлівае снегавое покрыва: яліны апранаюцца ў пушыстыя снегавыя шапкі. Паветра марознае, свежае.

### Зіма. Народныя прыкметы.

Назіранні за звярамі і птушкамі паказваюць, што яны лепш, чым людзі, прадчуваюць змены надвор'я. Таму ўважліва сачыце за імі, і яны вам прадкажуць надвор'е на бліжэйшы час.



* Калі певень стаіць на адной назе - будзе моцны мароз. Певень закукарэкаў у мароз - чакай цёплага надвор'я. У сцюжу пеўні заспявалі рана - будзе адліга. Перад моцнымі маразамі куры рана садзяцца на седала і імкнуцца залезці вышэй.

* Перад пацяпленнем птушкі садзяцца на вяршаліны дрэў.

* Гусь узнімае нагу - да сцюжы. Загагоча зімой гусь - чакай пацяплення, а калі сядзіць, падкурчыўшы ногі - да холаду і мяцеліцы; калі хавае галаву пад крыло - таксама да пахаладання

* Калі ўзімку вераб'і сядзяць на дрэвах і будынках моўчкі будзе снег без ветру. А калі дружна цыркаюць - чакай пацяплення.

* Зімой сабака скручваецца абаранкам - да холаду. Калі свойскі сабака цэлы дзень сонны - чакай непагадзі. Калі ўзімку сабака развальваецца на зямлі або спіць, раскінуўшы ногі і жыватом да гары, - чакай пацяплення.

* Кот імкнецца на цёплую печку - да марозу.

### Каляды

А зараз пазнаёмімся са святам, якое адзначаюць зімой і праваслаўныя, і католікі.

Каляды - свята даўняе, прысвечанае Сонцу. Па старому стылю яго святкаванне пачыналася 25 снежня і працягвалася да 6 студзеня. Цяпер жа праваслаўныя вернікі святкуюць каляды з 6 да 19 студзеня.

Надыход Каляд на Беларусі заўсёды чакалі з нецярплівасцю. Імі заканчваўся пасцітыднёвы пост.

Да свята рыхтаваліся ўсёй сям'ёй. Старанна прыбіралі ў хаце, апраналіся ў святочнае адзенне. Гатавалі вячэру з 5-7 страў: селядзец ці іншая рыба з алеем, квас з грыбамі, бліны, аўсяны кісель. Але галоўнай стравай была куцця - каша з абдзёртага ячменю. Стол усцілаўся сенам, накрываўся абрусам. Прычым сена ў

хату прыносіў гаспадар ці яго сын.

Калі ўсе расселяцца, гаспадар зачэрпваў першую лыжку куцці, стукаў ёю ў сцяну ці акно і запрашаў мароз: "Мароз, мароз, хадзі куццю есці! Каб ты не марозіў ячменю, пшаніцы, грэчкі...!" Пасля маці звярталася да марозу з просьбай не пашкодзіць моркву, буракі, агуркі.

На другі дзень Каляд, 7-га студзеня, па сялу хадзілі калядоўшчыкі /валачобнікі/ – моладзь, пераапранутая ў Казу, Жорава, Кабылу. Калядоўшчыкі наведваліся ў хаты ўсіх аднавяскоўцаў, віталі іх добрым словам, віншавалі са святам.

Вось адна з песень, якія спявалі валачобнікі:

Добры вечар гаспадару!
Вынесь жа нам каўбас пару,
Вынесь сала, не скупіся –
Каб твой ячмень урадзіўся,
Каб нажалі сто коп жыта,

Каб сям'я ўся была сыта,
Каб сачавіца радзілася,
Каб пшаніца радзілася,
Каб гарэлку выпівалі,
Калядніцкаў частавалі!

На больш позніх этапах хрысціянская царква пачала адначасова з Калядамі святкаваць 7-ага студзеня дзень нараджэння Сына Божага Ісуса Хрыста, 19-ага студзеня – Вадохрышча. У гэты дзень адбылося яго хрышчэнне ў водах ракі Іардан.

## VI. ХВІЛІНКА АДПАЧЫНКУ

П.Трус

Падаюць сняжынкі –
дыяменты-росы,
Падаюць блёткі
за маім акном...
Расчасалі вішні
шоўкавыя косы
І ўранілі долу
снегавы вянок.
Адхінае вечар
тонкія мярэжы,
На акне альвасы
дагарэлі ў сне,
А ў душы кволцістасць,
І такая свежасць,
І з вачэй усмешкі
сыплюцца на снег.
А сняжынкі сэрцы
квоЛую інтымнасць,
Падаюць бліёткі
за маім акном,
І цвіце на вокнах
снежная ўрачыстасць,
Сцелецца на скронях
перад ранім сном.

З народнага гумару

Дзеці ляпілі снежную бабу і наскрозь прамоклі. Прахожы спытаў:

- А вам не холадна?
- Нам не, а вось Пятрыку мабыць.
- А які ж гэта – Пятрык?
- Ды той, які ў снежную бабу закатаны!

## VII. ДАМАШНЯЕ ЗАДАННЕ

Вывучыце верш П.Труса на памяць;
паназірайце за паводзінамі звяроў, птушак, зрабіце прагноз надвор'я.

## УРОК 5

Т э м а : Падоўжаныя зычныя.Назоўнік,скланенне /месны склон/. Прыслоўі месца.Надвор'е.Пажаданні,віншаванні, тосты.Беларуская сімволіка.

### І. НЕПАДРЫХТАВАНАЯ ГУТАРКА

На мінулым уроку мы вялі гутарку аб зіме,аб надвор'і зімой. Як можна ахарактарызаваць летні дзень ? Паслухайце.

Сёння цудоўнае надвор'е.Ідзе цёплы грыбны дождж.Вельмі прыемна гуляць у парку,у лесе пад такім даждком.Ці згодны вы са мной.Чаму ?

Я апісала надвор'е летняга дня.Што лепш можна сказаць аб летнім надвор'і?

Сёння цёпла /дождж,вецер/.
Ну і спякота сёння!
Ну і горача сёння!
Па-мойму,збіраецца на дождж.
Хмары закрылі неба.
Гэты дождж надоўга.Трэба ўзяць парасон.
Паказалася вясёлка.
Будзе /набліжаецца/ навальніца.
Бліснула маланка,грыміць гром.
- Які прагноз на наступныя дні?
- Абяцаюць сонечнае надвор'е.



1. Якую фразу вы скажаце,калі:
хочаце спытаць пра надвор'е?
надта горача?слізка?холадна?
хочаце даведацца пра тэмпературу?

2.Складзіце дыялогі аб надвор'і паводле наступных сітуацый:
Вы жывяце ў Мінску.Зараз тэлефануеце свайму знаёмаму ў Туркменію /Архангельск,Казахстан/...
Вы сіноптык.Вам прапанавалі выступіць на радыё з прагнозам надвор'я.

### ІІ.ФАНЕТЫКА, ГРАМАТЫКА

#### Падоўжаныя зычныя

Зычныя гукі /з'/,/с'/,/дз'/,/ц'/,/л'/,/н'/,/ж/,/ч/,/ш/ у становішчы паміж галоснымі падаўжаюцца.Падоўжанае вымаўленне іх на пісьме абазначаецца падвойным напісаннем гэтых літар.

1.Прачытайце наступныя словы,правільна вымаўляючы падоўжаныя зычныя:
галлё,вяселле,крылле,наваколле,купалле,застолле,зелле,завугolле;
пытанне,хаданне,свіння,світанне,снеданне,каханне,развітанне,насенне;
палоззе,граззю,маззю,ззяць,жалеззе,калоссе,касcё,рыссю,Палессе;
смецце,сяцца,забыццё,ліхалецце,пяццю,трыццаць;
стагоддзе,асяроддзе,бяздоддзе,суддзя,ладдзю;

збожжа, ружжо, узбярэжжа, замежжа, падарожжа, ноччу, печчу, даччын,
узвышша, застрэшша, удушша;
мяккі, мяккасць.

Падоўжаных зычных няма ў словах іншамоўнага паходжання: алея, металы, група, калона, тэлеграма, артылерыя, тэрыторыя, маса, каса, прафесар.

Выключэнне: ванна, Жанна, мадонна.

2. Прачытайце верш, звяртаючы ўвагу на падоўжаныя зычныя:

Збіраюся ў госці да мора цяпер я.
Заломма, Замосце, Зарэчча, Заазер'е –
У хмарным прывольі пасёлак закружыць
За полем – Заполле, за лугам – Залужжа,
А потым – Залессе, а побач – Загор'е.
І весь яна песня.

А. Вялюгін.

3. Прачытайце прыслоўі месца: там, тут, усюды, нідзе, дзесь, дзесьці, дзе-небудзь, дзе-нідзе, сям-там, вунь, дзе, побач, наперадзе, паблізу, далёка, супраць, навокал, пасярод, наверсе, справа, злева, знадворку, блізка, дома.

4. Выкарыстайце гэтыя прыслоўі ў міні-апавяданнях на тэму:

мая кватэра /дом/;
мікрараён, дзе я жыву;
мой родны кут.



## Назоўнік. Месны склон.

5. Запомніце канчаткі назоўнікаў у месным склоне адзіночнага ліку:

жаночы род

паляна – на палянЕ
дарога – на дарозЕ
страха – на страсЕ

кафедра – на кафедрЫ
праца – у працЫ
вёска у вёсцЫ

арыя – у арыІ
лазня – у лазнІ

рука – у руцЭ
шчака – на шчацЭ

мужчынскі род

інстытут – у інстытуцЕ
стог – у стозЕ

санаторый – у санаторыІ
тэатр – у тэатрЫ

друк – у друкУ
сцяг – на сцягУ

ніякі род

пісьмо – у пісьмЕ
жыццё – у жыццІ
вучылішча – у вучылішчЫ

6. Выдзелім гульныя канчаткі ў месным склоне адзіночнага ліку:

Е – пасля цвёрдых зычных. Г,Х//З,С
І – калі аснова мяккая
Ы – пасля зацвярдзелых зычных і Р /пад націскам Э/

7.Звярніце ўвагу на назоўнікі,якія абазначаюць асоб:

брат - аб браце
камандзір - пры камандзіру

салдат - аб салдату
выкладчык - аб выкладчыку

8.Пастаўце наступныя словы ў месным склоне.

Стагоддзе,Палессе,княства,Заслаўе,зямля,Беларусь,дзяржава,
мова,сталіца,Польшча,установа,навука,культура,замак,усход,Нясвіж,
Слуцк,Пінск,палац.

Раскажыце,выкарыстоўваючы некаторыя з іх,аб гісторыі беларускай мовы.

III. МОЎНЫ ЭТЫКЕТ.ВІНШАВАННЕ.ПАЖАДАННЕ.ТОСТЫ.

1.Прачытайце выразы ўголас,запомніце іх.

Дазвольце павіншаваць вас са святам / з днём нараджэння,з юбілеем/.
Сябры! Ад усёй душы віншуем вас з нараджэннем дачкі / са святам,
з прыездам,з прыбыццём,з узнагародай/.
Шлю /дасылаю/ вам свае віншаванні з нагоды ... гадавіны /дваццаці-
годдзя/.
Абдымаю ...

Будзь здароў,як дуб,а моцны,як зуб!
Каб быў здаровы,як дуб скарбовы!



Каб дзяды не ведалі бяды,а ўнукі не ведалі мукі!
Каб вам пілося,елася і яшчэ хацелася!
Каб вам яшчэ многа гадкоў смачна спалося і лёгка ўставалася!
Каб у вас было і на стале,і ў місцы,і ў калысцы!
Расці дужы ды вялікі!
Каб вам шчасце ды здароўе,і дзяціне,і сябрыне!
Каб доўгія гады жылі,каб здаровыя былі і на нас не забываліся!
Каб нашыя мыслі ды наўпраўды выйшлі.
За ваша здароўе!
Дазвольце падняць бакал за ...

2.Скажыце,як вы будзеце віншаваць з юбілеем /з днём нараджэння,са святам,з узнагародай /жанчыну?сябра?начальніка?/.
Што вы пажадаеце ў гэтым выпадку /дзіцяці;сям'і ваших сяброў;
чалавеку,які любіць марыць/.

3.Ралявая гульня "Сустрэча аднакласнікаў".

Сітуацыя: Раней вы вучыліся ў адным класе.Прайшло многа
год.Былыя аднакласнікі сустрэліся на кватэры аднаго з вас. Вам
хочацца даведацца,якія змены адбыліся ў жыцці вашых аднакласнікаў,
дзе яны вучыліся,дзе працуюць,дзе служылі раней,чым займаюцца іх
родныя,жонкі,дзе любяць адпачываць,бываць,падарожнічаць.
Памятайце,што вы пазнаёміліся з тостамі,пажаданнямі.

IV. ЛЕКСІЧНАЯ ТЭМА "БЕЛАРУСКАЯ СІМВОЛІКА"

1.Прачытайце дыялог паміж слухачамі і гісторыкам,які
займаецца пытаннямі беларускай сімволікі.

С.1 – Добры дзень. Мы рады з вамі сустрэцца. Нас цікавяць пытанні, звязаныя з беларускім флагам і гербам. Вядома, што старажытны беларускі герб "Пагоня" – гэта выява срэбнага вершніка на чырвоным полі. На яго шчыце – шасцікутны крыж. Адкуль жа ўзяўся гэты вершнік? Калі зацокалі яго капыты? Ці не маглі б вы адказаць на гэта пытанне?

Г. – З вялікім задавальненнем падзялюся з вамі тымі звесткамі, якія мне вядомы.

Яшчэ ў 1935 годзе Тамаш Грыб у сваім даследаванні грунтоўна даказаў паходжанне "Пагоні" ад крывіцкага /а значыць, як вы разумееце, славянскага/ бога Сонца Ярылы, якога нашы далёкія продкі ўяўлялі сабе коннікам на белым кані. Калі ж упершыню ўзнікла выява вершніка і дзе гэта адбылося? На тэрыторыі ўласна ВКЛ ці аднекуль запазычылі?

Мы ніколі не жылі ў вакууме. Беларускія летапісныя крыніцы сведчаць, што "Пагоня" ўзнікла ў канцы XIII стагоддзя /яшчэ Віцень і Нарымунт карысталіся ёю/. Але вядома, што сярод трафеяў, якія сабраў наўгародскі князь Аляксандр Неўскі пасля бітвы з крыжакамі на Іжорскім возеры ў 1240 г., была і пячатка з выявай таго ж конніка.

С.2 – Такім чынам, як я зразумеў, для навукі застаецца таямніцай пытанне аб месцы і часе паходжання "Пагоні", запазычаная яна нашымі продкамі ў кагосьці ці з'явілася паралельна, самастойна і на нашых землях.

Можа вы нам паведаміце, што абазначаў гэты сімвал пазней, напрыклад, у ВКЛ.



Г. – З задавальненнем. У сярэднявечча адбылося пераасэнсаванне язычніцкага сімвала. "Пагоня" стала абазначаць перадачу весткі аб вайне праз вершніка, які імчаў з аголеным мячом.

С.3 – Цікава, ці стала "Пагоня" гербам Рэчы Паспалітай?

Г. – У Рэчы Паспалітай гэтым гербам карысталіся толькі тыя ваяводствы, якія знаходзіліся на тэрыторыі Беларусі.

С.3 – Значыць, "Пагоня" ўвайшла ў гісторыю Беларусі і як дзяржаўны герб ВКЛ, і як герб шэрагу беларускіх ваяводстваў, гарадоў на працягу шасці стагоддзяў.

У мяне ёсць да вас яшчэ просьба. Раскажыце, прашу вас, і аб беларускім флагу.

Г. – Што датычыць колера бела-чырвона-белага флага, то на гэты конт існуе некалькі меркаванняў. Справа ў тым, што адсутнічаюць дакументальныя матэрыялы дакастрычніцкага часу.

С.4 – Прабачце, я чытаў, што галоўным афіцыйным колерам ВКЛ быў чырвоны.

Г. – Напэўна, вам вядома, што само слова "сцяг" абазначае сцягваць пад сабой воінаў. Сцяг павінен быць яркім, адрозным ад сцяга ворагаў. Галоўнымі ворагамі Полацка былі Паўднёвая Русь і крыжакі. Таму полацкія колеры павінны былі адрознівацца ад белага з чорным крыжацкага і ад паўднёва-рускага чорнага. Як у Візантыі, так і на Русі чырвоны колер – гэта колер царскі, княжацкі.

Пасля далучэння высокацывілізаванай Полаччыны да Літвы чырвоны колер стаў колерам ВКЛ.

С.4 - Мне здаецца,што існуе нейкая сувязь паміж колерамі герба і флага.

Г. - Так,вы мае рацыю.Герб можна раскласці на колеравай гаме ў флаг.Паколькі колеры класічнай "Пагоні" белы і чырвоны,то з гэтага спалучэння і вынікае бел-чырвона-белы флаг.

С.4 - Цяжка не пагадзіцца з такім меркаваннем.Хочацца яшчэ дадаць,што спалучэнне чырвонага і белага - надзвычай глыбокая традыцыя беларускага народа.Возьмем мастацтва - вышыўкі,ткацтва.Таму,напэўна,яна і знайшла сваё адлюстраванне ў флагу.

Г. - Гэта цікавая думка.

С.5 - Мы вельмі ўдзячны вам за такую змястоўную інфармацыю. Спадзяемся,што калі ў вас з'явяцца новыя меркаванні наконт беларускай сімволікі,вы падзеліцеся імі з намі.Да сустрэчы ў наступны раз.

2. Скажыце,якія пытанні задаваліся гісторыку.

3.Дайце кароткія адказы на гэтыя пытанні.

4.Падагульніце сказанае.Што вы даведаліся аб беларускім гербе "Пагоня"?

5.Якую з думак наконт беларускага флага вы падтрымліваеце?

V. НЕПАДРЫХТАВАНАЯ ГУТАРКА.



Улетку

Чэрвень. Лета прыйшло непрыкметна.Вось ужо і сады адцвітаюць.Асыпаецца бэз.З таполяў і асін ляціць пух.Ружовымі шапкамі ўпрыгожыліся кусты шыпшыны.Зацвілі язмін і каліна.Лугі ператварыліся ў пярэсты дыван.Цвітуць амаль усе лугавыя травы:белы рамонак,сіні мышыны гарошак,жоўты казялец і чына лугавая,ружовая канюшына.Зацвілі незабудкі,светнік,смолка,злакі - аўсяніца лугавая і цімафееўка.

Паступова сціхаюць у лесе спевы птушак.У іх адзін клопат- пракарміць пражэрлівае патомства.

Ліпень. Лета ў разгары.Паспяваюць суніцы,парэчкі,чарніцы,маліны,касцяніцы... Зацвітае ліпа.Вакол маленькіх белых кветачак гудуць пчолы.Паветра насычана мядовым водарам.Калі ў чэрвені пераважным колерам лугавых траў быў ружова-фіялетавы са светла-жоўтымі крапінамі,то ў сярэдзіне лета афарбоўка мяняецца - з'яўляецца больш жоўтых і цёмна-ліловых фарбаў.

Хораша ў лесе ліпеньскай раніцай!Паветра насычана пахамі траў,спелых ягад,смалістай хвоі.І незвычайна ціха.Але вось быццам нехта стукае манатонна па дрэве.Пастукае,пастукае і сціхне.Гэта дзяцел адшуквае ў драўніне караедаў і іншых насякомых.У густых кронах дрэў сям-там мільгаюць вёрткія вавёркі.З хмызняку выглядвае мысачка невялікага рыжага звярка - лісянятка выйшла на першае самастойнае паляванне.З маладога асінніку спяшаецца да рачулкі сям'я аленяў.

Жнівень. Жнівень шчодра дорыць апошняе цяпло прыродзе,а яна адплачвае сваімі дарамі.Сонцам адліваюць грудзі збожжа.На

скошаных лугах узняліся стагі духмянага сена.На палях у самым разгары ўборка.У садах яблыні гнуцца пад багатым ураджаем.

## Лета.Народныя прыметы.

Над вадою белаватыя воблакі,якія хутка знікаюць пры ўзыходзе сонца, - да яснага надвор'я.

Рыба выскоквае з вады і над вадою ловіць мошкару - перад дажджом.

Вароны ў небе гуляюць - да спёкі.

Калі з'явіліся адразу дзве ці нават тры вясёлкі,асабліва яркія, - дождж будзе зацяжны.

Начная раса ранкам доўга не высыхае - перад навальніцай.

Зязюля кувае доўга - надвор'е ўсталюецца цёплае.

Густы туман з вечара,салаўі гучна спяваюць - заўтра і паслязаўтра будзе добрае надвор'е.

Салавей усю ноч не змаўкае - чакай пагодлівага дня.

Ластаўка прыляцела - неўзабаве гром загрыміць.

Жаваранкаў не чуваць з самай раніцы - будзе дождж ці ўвогуле дрэннае надвор'е.

Зязюля рэгулярна кувае - замаразкі перапыняцца,надвор'е стане цёплае.

Зоркі выпалі ў ноч на Купалле - шмат грыбоў будзе ў лесе.

## Купала і Купава.

У разгар лета на землях усходнеславянскіх народаў амаль адначасова ўспыхваюць начныя святочныя кастры.Хвалі вялікіх рэк і маленькіх рачулак раскачваюцца вянкамі.Нашчадкі ўсходніх славян,а з імі жыхары Прыбалтыкі адзначаюць старажытнае язычніцкае свята.

Што ж гэта за свята?Украінцы,беларусы і рускія называюць яго Купалле /Купала/.

Роўна апоўначы з 6 на 7 ліпеня лясная паляна асвятляецца серабрыстым месячным святлом,і багі шчасця,Купала і Купава,на пушыстым воблаку плаўна спускаюцца на яе сярэдзіну.Яны дораць адзін аднаму пацалунак,ад якога зацвітае таямнічая кветка папараці.Кветка гэта прызначана як нябесны дар самому годнаму з жывучых людзей.Яна сваім водарам павінна абудзіць таго,каму прызначана,і паклікаць яго да сябе.Гэтаму чалавеку адкрываюцца вялікія таямніцы зямныя.Ён зможа знаходзіць скарбы,разумець мову звяроў і птушак,разбірацца ў лекавых зёлках.Папараць-кветка дапаможа яму звязаць жыццё з той,якая прызначана яму лёсам.

Але ў купальскіх багоў ёсць злы вораг.Гэта Чарнабог.Той робіць усё магчымае,каб кветка не расцвіла ў гэтую ноч,каб чалавек, якому яна прызначана,не пачуў яе кліч.Калі кветка ўсё ж каму-небудзь дастанецца,то,на думку Чарнабога,лепш скупому,злоснаму, зайздросліваму і балбатліваму чалавеку.Усю гэтую ноч у лесе бясчынствуе нячыстая сіла.Русалкі заманьваюць у багну.Лешакі заводзяць у такую глухамань,з якой амаль немагчыма выбрацца.Чэрці ловяць тых, хто зайшоў далёка ў чашчобу.І прапаноўваюць ім папараць-кветку. Узамен жа патрабуюць душу.Але чары Чарнабога і яго слуг рассейваюцца,калі кветку шчасця ідуць шукаць двое закаханых.Каханне адолявае злыя сілы.Таму сярод жыхароў Беларусі бытуе старадаўні звычай:закаханыя ідуць удваіх шукаць папараць-кветку.

Акрамя гэтага прыгожага абраду існуе яшчэ некалькі.Перш за ўсё - ачышчэнне агнём,вадою і зямлёю.Людзі скачуць цераз вогнішча,каб выпаліць усё зло,што прыліпла да чалавека за год.Потым яны заходзяць у ваду і змываюць бруд цялесны і духоўны.І ў канцы кладуцца на зямлю і назіраюць,як адна за адной згасаюць на

небасхіле зоркі.У гэты час яны набіраюцца зямных сіл.

Амаль ва ўсіх рэгіёнах Беларусі ў Купальскую ноч моладзь гадае на вянках.Дзяўчаты і юнакі пускаюць іх па рацэ і ўважліва назіраюць.Калі вянок патоне – чакай бяды.Калі пристане да берага – жаніх /або нявеста/ будзе з гэтых месц.Калі ўнясе яго хутка плынь – з далёкіх.Калі ж два вянкі злучацца,то адразу зразумела, што іх уладальнікаў чакае хуткае вяселле.

## VI.ХВІЛІНКА АДПАЧЫНКУ

Н.Гілевіч

### Купалле

Ах,якая над Гайнай купальская ноч!
Сама раз бы шукаць кветку-папараць,
Сама раз уплятаць летуценні ў вянок,
Сама раз белы корань выкапваць!

Ды ні гуку над Гайнай – пад цёмным шатром.
Толькі зоркі – як вочкі Купалінкі.
Дзе ж вы,хлопцы,дзяўчаты? Чаму за сялом,
Над ракою агні не запалены?

Раскладайце,паліце Купалля агні!
Не за тым,каб ускрэсла мінуўшчына,
А каб лепей убачыць наступныя дні,
Да вытокаў думой дакрануўшыся...

Раскладайце агні – хай плывуць па рацэ,
Моха,ў зыркім святле іх вы ўгледзіце



Постаць Янкі Купалы з кіёком у руцэ –
Запрасіце яго прысуседзіцца!

Ён вас,пэўна,папросіць "Каліну" спяваць
І,напэўна,ад слёз не стрымаецца.
Скажа:"Ах ха,якое Купалейка ў вас!
Ах,якую вы спадчыну маеце!..."

## VII. ДАМАШНЯЕ ЗАДАННЕ

Вывучыце верш Н.Гілевіча на памяць;раскажыце пра летні дзень, які вас уразіў.

## УРОК 6

Тэма: Свісцячыя і шыпячыя зычныя. Прыслоўе часу. Словы і словазлучэнні, якія адказваюць на пытанне КАЛІ? Знешні выгляд чалавека. Рысы характару. Старажытны Мінск.

### I. НЕПАДРЫХТАВАНАЯ ГУТАРКА

Сёння мы пазнаёмімся са словамі, якімі можна апісаць знешні выгляд чалавека.

Прачытайце: галава, шыя, твар, лоб, рот, вока, /вочы/, вейкі/павекі/, бровы, губы, зубы, барада, скроні, вусы, шчокі, вушы, валасы; рука, нага, пальцы, ногці, локаць, калена, жывот, спіна, грудзі, плечы, сэрца, стан.

1. Паглядзіце на малюнак і зрабіце подпісы ў сшытку.




2. Прачытайце наступныя словы і словазлучэнні. Выкарыстайце іх пры апісанні знешняга выгляду вашых дзяцей, жонкі, бацькоў, знаёмых.

Малады, пажылы, старэйшы /за каго/, паўналетні, аднаго ўзросту, молада выглядае;
высокі, нізкі, сярэдняга росту, стройны, худы, хударлявы, тоўсты, згорблены, доўганогі, спартыўнага складу;

твар: малады, мілы, незвычайна прывабны, прыгожы, хваравіты, змучаны, вяснушкаваты /рабацініcты/, бесклапотны, круглатвары;
правільныя /вялікія/ тонкія рысы твару, маршчына /зморшчына/, ямачкі на шчоках, радзімка на шыі /шчацэ/;

вочы: сінія, блакітныя, шэрыя, карыя, цёмныя, чорныя, выцвілыя, вялікія, малыя, круглыя, вырачаныя, добрыя, ясныя, ласкавыя, разумныя, хітрыя, суровыя, злінялыя, выразныя, раскосыя, лагодныя, наіўна ясныя, насмешлівыя, шчырыя, няласкавыя, сумныя;

валасы: чорныя, светлыя, доўгія, кучаравыя, сівыя, каштанавыя; стрыжка, каса, лысы;

нос: прамы, кірпаты, кручкаваты;

усмешка: адкрытая, белазубая, ледзь прыкметная, шырокая, вымучаная, прыветная, журботная, чароўная, хітрая;

рукі: вузкія, вялікія, доўгія, дужыя, жалезныя, мазольныя, мазолістыя, абветраныя, спрацаваныя;

голас: высокі, жывы, звонкі, нізкі, нясмелы, крыклівы, хрыплы, пявучы, пяшчотны, мілагучны, глухі;

рот: /не/ вялікі;

губы: поўныя, тонкія;

бровы: густыя.

3. Апішыце знешні выгляд агульнага для ўсіх знаёмага.

4. Сітуацыя. Вы прыехалі з сябрам у другі горад. На адной з экскурсій ваш сябар адстаў ад аўтобуса. Вы звярнуліся ў міліцыю. Вам прапанавалі напісаць заяву на імя начальніка аддзялення міліцыі, апісаць прыкметы вашага сябра.

### II. ФАНЕТЫКА, ГРАМАТЫКА

#### Свісцячыя і шыпячыя зычныя.

Зычныя гукі /ж/, /дж/, /ш/, /ч/ называюцца шыпячымі-пры іх вымаўленні чуваць шыпенне: шавец, шчодры, жараб'я, гляджу.
Пры вымаўленні гукаў /дз'/, /дз/, /з/, /з'/, /с/, /с'/, /ц/, /ц'/

з'яўляецца свісцячае адценне. Яны называюцца свісцячымі:
дзякуй,цагліна,свет,гузік.

1.Правільна прачытайце наступныя словы з улікам правілаў вымаўлення свісцячых і шыпячых гукаў:

песня,радасць,сеш,расці,ісці,весяліць,з'есці,збіць,везці,здзейсніць,узнікнуць,наўцёкі,насыянне,нацянькі /напрацік/,
незласлівы,шукаць,шчыльны,атаясняць /отождествлять/атаясненне.

2.Чытаючы наступныя пасловіцы,звяртайце ўвагу на вымаўленне свісцячых і шыпячых гукаў:
Сеў на лекі - прападзеш навекі.
Рукі да работы,ногі да ахвоты,галава - да ўсяго.
Без дзяцей ціха - ды на старасці ліха.
Хоць трэсні,ды спявай песні.
На сваім сметніку і певень гаспадар.
Усё з'еў і зубоў не пагрэў.
Адзін сын - не сын, 2 сыны -паўсына, 3 сыны - сын.
Чые дзеткі харашэйшыя ? Мае, - кажа сава. - І лупаценькія,і кашлаценькія.

Словы і словазлучэнні,якія адказваюць на пытанне
КАЛІ? Прыслоўі часу.

3.Прачытайце прыслоўі часу.Паспрабуйце перакласці іх на рускую мову:
цяпер,потым,спачатку,затым,тады,некалі,калісьці,калі-небудзь,абы-калі,сяды-тады,ніколі;
раней,даўно,нядаўна,зараз,ужо,аднойчы,заўжды,заўсёды,спрадвеку;
сёння,учора,/па/заўчора,удзень,увечары,вечарам,уначы,ноччу,раніцай,апоўдні,у поўдзень,досвіткам,заўтра,пасляззаўтра;
сёлета,летась,/па/залетась,у мінулым годзе,увесну,вясной,увосень,восенню,узімку,зімой,улетку,летам,завідна;

4.Пазнаёмцеся са словазлучэннямі,якія адказваюць на пытанне КАЛІ?



ерамагаї кіяўляне.
у п:

- Так,перамагалі кіяўляне.Праўда,перамога гэта была вельмі цяжкая,іх войска было аслаблена.З такім войскам Яраславічы не рашыліся ісці на Полацк і рушылі ў свае ўладанні.

С.1 - У апошні час шэраг даследчыкаў пачаў праслаўляць гэтую падзею.Бітву на Няміэе абвяшчаюць ледзь не галоўнай на тыя часы,імкнуцца прылічыць ле да падзей,якімі неабходна ганарыцца.Як вы ставіцеся да гэтага?

Г. - Нельга не пагадзіцца са словамі,напісанымі шмат стагоддзяў таму назад аўтарам "Слова аб палку Ігаравым":
Няміґі крывавыя берагі
Не збожжам былі засеяны зноў -
ть Засеяны касцьмі рускіх сыноў.

.5 - Мне здаецца,што аўтар падкрэсліў у гэтых радках,што кі?. бітва на Няміэе была адной з тых міжусобных бітваў,у якіх якіп блеслаўна клалі галовы лепшыя абаронцы.

- Я таксама лічу.Цікава,што ўзнікла спачатку:Мінск ці вырашміга?

1Можна меркаваць,што Няміга - гэта паселішча,якое існавакай. Была месца сучаснага Мінска да таго,як узнік горад.Існаханец 13 Няміґі засведчана пісьмовымі крыніцамі,дзе яна ўпа-
ца ў ліку літоўскіх гарадоў.
III. Я
и,ці ведаюць што-небудзь аб тым,дзе размяшчалася
Гэта гутал Няміга?
кам,якога яны
кі наконт таго,што Няміга была заключана паміж
С.1 - Зусім ніўданоўскай /сучаснай Рэвалюцыйнай/ і Старамяс-
925-годзе пар ле няма/;пашіх ракой Свіслачччу і вуліцаг
даны на старс/цяпер Рэспубліканская/.
Гэта ж не пра
уй за залатоўную гутарку.Было вельмі цікава

даведацца аб мінулым нашага горада.

Г. – Усяго добрага. Да сустрэчы.

1.Якія пытанні задаваліся гісторыку?
Якія адказы атрымалі слухачы?

2.Выкажыце свае адносіны да гэтых адказаў.Выкарыстайце словы і словазлучэнні,якія выражаюць:

а/упэўненасць:відавочна,вядома,зразумела,цалкам верагодна;

б/няўпэўненасць:відаць,здаецца,мусіць,мабыць,можа,напэўна;

в/пачуцці:на жаль,шкада,/як/прыкра,неверагодна,на шчасце,несумненна,безумоўна;

г/меркаванні:я думаю;я мяркую;як вы лічыце;можна меркаваць,што ...;усе меркаванні,як высветлілася,былі памылковымі.

## Дадатковы матэрыял.

У рэспубліцы,што завецца Беларуссю,не сціхаюць спрэчкі,як вярнуць першапачатковую назву сталіцы.Як вядома,у першым летапісе горад упамінаецца як Меньск,а жыхароў яго называюць мянянамі.Шмат легенд і паданняў складзена пра заснаванне Мянеска.Вось некаторыя з іх.

### Абабраны Мянеск.

На месцы сучаснага горада,на беразе ракі Свіслач,жыў незвычайнай моцы і прыгажосці велікан – Мянеск,які выкрадаў прыгажунь-дзяўчат і рабіў іх сваімі жонкамі.Дзеці яго на месцы паселішча бацькі заснавалі горад,у ім збудавалі замак і назвалі яго Мянескам.

Праз некалькі гадоў знайшоўся ў мянян майстар,які рашыў адлюстраваць вобраз свайго бацькі ў камені.Знайшлі непадалёку вялікі валун і па рацэ яго прывезлі на замчышча.

Трыццаць тры гады,3 месяцы,3 дні і 3 гадзіны адбіваў мастак кавалкі каменя,шліфаваў,каб зрабіць тое,што было ў яго галаве.Людзі паміралі,нараджаліся,і вось аднойчы ўсе



жывыя застылі ў захапленні – перад імі паўстаў іх бацька.І павалілся яны да бацькавых ног і пачалі маліцца на яго.З гэтага часу зрабіўся Мянеск іх галоўным Богам.Але нядоўга цешыліся мяняне сваім жыццём і працай.Прыйшла на іх зямлю агрэмністая зграя ваяроў,гаварылі яны на незразумелай мове.Аблажылі іх горад вялікай сілай.Шмат дзён і начэй адбіваліся мужныя і прыгожыя мяняне.Але ворагаў,як крумкачоў,рабілася ўсё болей і болей,што за імі не было бачна ні дрэўца,ні хмызняка,ні травінкі...

І пайшлі мяняне да свайго бога Мянеска і ўбачылі ў яго вачах не роспач,а вялікую сілу.І пачалі ўсе мяняне да адзінага збірацца каля яго,узбройвацца,і браць у свае рукі ўсё тое,што магло калоць,рэзаць,біць.Былі тут і старыя,і малыя,і жанчыны,і хворыя... І адбылося несусветнае:раптам ажыў,уздрыгнуў Мянеск. І пайшоў ён да гарадской сцяны,і рушыла за ім усё мянянскае войска.Адчыніліся брамы – і пачалася вялікая і лютая бойка.Адважна змагаліся мяняне. Кроў ракою лілася,але ворагаў было ў сотні разоў больш.Радзелі рады гараджан,і вось застаўся толькі адзіны Мянеск. Што з ім ні рабілі ворагі,ён толькі смяяўся і забіваў іх дзесяткамі і сотнямі.Але вось пачаў стамляцца Мянеск ад бойкі. І калі ён зразумеў,што ўжо нічога не зробіць з чужынцамі,сабраў апошнія сілы,вырваў з зямлі агрэмністы дуб,замахнуўся ім на ворагаў і ... упаў.

Кінуліся да яго тыя і ажно аслупянелі,раптам убачыўшы,што Мянеск хутка пачаў уходзіць пад зямлю. А калі апамяталіся,то на яго месцы з'явіўся новы ручай.Далі людзі яму назву Мен. Збіраліся ля яго пасля адыходу ворагаў новыя жыхары,глядзелі ў яго чыстыя воды і бачылі там свайго родзіча і бога Мянеска. Калі пілі ваду з гэтага ручая,то хлопцы рабіліся мацнейшымі і дужэйшымі,а дзяўчаты – больш працавітымі і прыгожымі.

Але абставіны ў той час былі неспрыяльныя,шмат разоў падыходзілі да сцен горада ворагі-чужынцы,абкладалі яго,забіралі людзей у палон,палілі ўсё. І пачалі жыхары патроху забываць пра Мянеска. І ўсё радзей і радзей падыходзілі да ракі Мен.

І вось аднойчы жыхары пачулі,што неяк не так журчыць іх ручай,нейкія трывожныя гукі з'явіліся ў яго.І было гэта ў той час,калі нехта першы адабраў у назвы Мянеска яго першапачатковую прыгажосць – зрабіў яго Менскам.Але не звярнулі ўвагі

на журбу - спутак ракі.
І зусім пакінуў спакой Мянеска - Мена, калі ён пачуў, што пачалі называць яго на чужаземнай мове Мінскам. Раззлаваўся ручай, што забылі жыхары пра мінулае свайго горада, запамяталі Мянеска і за здраду такую выразмыў пайсці ад іх глыбока-глыбока ў зямлю. Прачнуліся людзі і бачаць, што няма ручая, і ніхто з іх не засмуціўся ад гэтага, бо не стала ў іх і памяці.

1. Чаму паданне носіць назву "Абабраны Мянеск"? Ці згодны вы з такой назвай?
Як вы ставіцеся да таго, каб вярнуць Мінску яго першапачатковую назву?

Дзе жыў легендарны Менеск ?

Між Татарскім канцом і Пярэспінскім мастком, ля самага Віленскага паштовага шляху, некалі пасяліўся славуты асілак-знахар па прозванні Менеск, ці Менскі, і пабудаваў на Свіслачы вялікі каменны млын на сем колаў. Ніхто самога Менеска не бачыў, тым ні менш у навакольных мясцовасцях свіслацкай зямлі чуваць былі самыя фантастычныя расказы пра яго сілу. Кажуць, што ў яго млыне мука малолася не з жыта, а з камення, што ўначы чуліся нейкія дзіўныя крыкі, галёканне, песні, музыка і скокі, што апоўначы ездзіў ён на сваім млыне па селішчах і набіраў дружыну з хаабрых, смелых, дужых людзей, з якіх пазней утварыўся цэлы народ і пасяліў побач з млынам.
Тут і быў заснаваны горад і названы імем волата - Менск.

2. Што новага вы даведаліся аб Менску ?

А цяпер правядзем даследаванне.
Для таго, каб даведацца, дзе жыў Менеск, возьмем першы адпраўны пункт - Татарскі канец. Як ён узнік, дзе знаходзіўся? Вядома, што пер ія татары пасяліліся на Беларусі ў канцы XIV стагоддзя. У 1506 годзе князь Міхаіл Глінскі перамог буйнейшае татарскае войска на рацэ Лань, каля Клецка. Палонных захапілі тысячы, частку з іх пасялілі і каля Менска. Раней у горадзе былі вуліца Вялікая Татарская /цяперашняя Дзмітрава/, Малая



Татарская /сёння - Калгасная/. І яшчэ меліся так званыя Татарскія агароды, на іх месцы знаходзіцца Палац спорту і стадыён. Усе гэтыя мясціны з-за татараў атрымалі назву Татарскі канец /Татарскае прадмесце/.
Шукаем іншы арыенцір пражывання Менеска - Пярэспінскі масток.
У часопісе "Крыніца" за чэрвень 1989 года чытаем: "Пярэспа - назва старадаўняй мінскай слабады, якая знаходзілася за Старажоўкай на рэчцы Пярэспе, што ўпадала ў Свіслач /каля цяперашняга Камсамольскага возера/. Паводле легенды, на Пярэспе жыў заснавальнік горада волат Менеск." У свой час беларускія татары збудавалі каменную пригажуню-мячэць. Яна стаяла якраз у тым месцы, дзе цяпер уваход у гасцініцу "Юбілейная" на праспекце Машэрава.
У паданні пра заснаванне Менска ўспамінаецца і Віленскі паштовы шлях. Паглядзім на ваколіцы і пабачым, што ў раёне праспекта Машэрава ёсць вуліца з назвай Старавіленская...
Вось у гэтых мясцінах і жыў легендарны Менеск, ці Менскі. Добрае, відаць, месца выбраў. Ён прадбачліва адчуваў, будуючы свой млын на сем колаў, што слава аб ім пойдзе далёка, што назавуць мясціну яго імем.

Вядома, што ў паданнях аб заснаванні Рыма стаяць імёны Ромула і Рэма. Іх карміцельцы - ваўчыцы, і ім зроблены ў сталіцы Італіі славуты помнік.
Як вы ставіцеся да таго, што ў Мінску няма ні вуліцы, ні помніка Мянеску, не абазначаны месцы, дзе, па паданню, ён жыў, дзе быў ручай Мен? Можа, наспеў час стварыць помнік Мянеску і пабудаваць на рацэ Свіслачы яго славуты млын на сем колаў, што прыдасць асобы каларыт старажытнаму гораду?

## IV. НЕПАДРЫХТАВАНАЯ ГУТАРКА

Сёння мы пазнаёміліся са словамі, з дапамогай якіх можна апісаць знешні выгляд чалавека. А зараз прачытаем фразеалагізмы, якія характарызуюць чалавека:
Камом галавы не дастаць.
Пятухі нясуцца /у каго/.

Вылузвацца са скуры.
Наставляць акуляры.
Ні хаты ні лапаты.
І гарох на языку спячэцца.
Абое рабое.
Мяцціць языком.
/Любіць/ апенькі абіраць.
Дурак не дурак і 2 не будзе.
Пят не нагрэць.
Сабакам сена касіць.
/Любіць паднесці/ фігу на талерцы.

Як вы разумееце гэтыя выслоўі?
Якія рысы характару людзей яны адлюстроўваюць?

V. ХВІЛІНКА АДПАЧЫНКУ

У 114 гадоў выглядае на 40!

Італьянец Антоніа Мадзэ адсвяткаваў сваё 114-годдзе. Ён такі рухавы,што яму ніхто не дае больш чым 40 гадоў.

Дзядуля баксіруе па тры раунды і прабягае пяць кіламетраў нават не засопшыся,без кропелькі поту. Ён бесклапотна сцвярджае,што захоўвае кандыцыю,дзякуючы ... ста грамам гарэлкі што дня і двум пачкам цыгарэт.

- Кожны можа заставацца маладым, - сказаў 114-гадовы італьянец, - калі кожны дзень будзе выпіваць не больш "соткі" і выкурваць не больш двух пачкаў цыгарэт. Алкаголь кансервуе,а нікацін стымулюе гармоны. Хто не верыць,хай спытае ў маіх дактароў.

Ашаломленыя ўрачы прызнаюць,што па не зразумелых для іх прычынах Антоніа нікольկі не пастарэў за апошнія 70 гадоў.

- Некаторыя яговыя органы не падвяргаліся натуральным зменам цэлае стагоддзе, - сцвярджае прафесар Дзіна Ланза. - Сэрца і лёгкія ў яго,як у падлетка. Я назіраю яго амаль паўстагоддзя,адразу пасля заканчэння медыцынскага інстытута. Ён быў тады ўжо амаль дзедам,а я - маладым. Сёння ўсё наадварот Пяцьдзесят гадоў я ўгаворваў Антоніа,каб перастаў піць і курыць,але ён і слухаць пра гэта не хацеў. Феномен для медыкаў.



Ведаю,што алкаголь і нікацін не маюць уплыву на захаванне маладосці,але Антоніа Мадзэ ў свае 114 выглядае на саракагадовага.

Антоніа жыве паблізу Рыма са сваім праўнукам Бецінам. Калі яны разам выходзяць у горад,выглядаюць,як браты.

Антоніа Мадзэ перакананы,што даўно "парос бы мохам",каб рэгулярна не піў і не курыў.

- Раблю гэта з 17 гадоў, - сцвярджае ён, - і гэта мяне трымае. Але не толькі гэта. Трэба не ленавацца займацца зялўчатамі. Рэкамендую,акрамя гэтага,йогу,бокс або футбол. Першыя сто гадоў можа быць цяжкавата,а потым чалавек прывыкае.

Гэтую гісторыю можна было б прыняць за жарт,калі б "Уіклі Уорлд Ньюс" не апублікавала фотакартку дзеда-маладзца. Мяркуем,што,акрамя гарэлкі і цыгарэт,усё астатняе сапраўды не пашкодзіць кожнаму.

А з кім згодны вы?

VI. ДАМАШНЯЕ ЗАДАННЕ

Падрыхтуйцеся правесці экскурсію па старажытнаму Мінску.

## УРОК 7

Тэма: Вымаўленне спалучэнняў зычных.Назоўнік.Словы, якія адказваюць на пытанні к у д ы? а д к у ль? Прыслоўі месца.Рысы характару беларусаў. Архітэктурныя помнікі Мінска.

### I.НЕПАДРЫХТАВАНАЯ ГУТАРКА.

На мінулым уроку мы пазнаёміліся з фразеалагізмамі, якія характарызуюць чалавека.Тэма сённяшняга ўрока-словы, якія ўжываюцца пры апісанні рыс характару чалавека.

1. Прачытайце словы і скажыце,з якім характарам людзі вам падабаюцца,а з якім - не:

адкрыты,/ня/хітры,прамы,просты,незгаворлівы,сур'ёзны, легкадумны,безадказны,/не/абыякавы,абачлівы / асцярожны,добры,дрэнны,кепскі,цяжкі,цвёрды,пристойны,бессаромны,/не/сумленны, нахабны,справядлівы,шчыры,хлуслівы,балэлівы,упарты,настойлівы,/не/стрыманы,капрызны.

2. Выберыце з наступнай групы процілеглыя па значэнню словы: чулы,спагадлівы,уважлівы,лагодны,ветлівы,добразычлівы, злы,сярдзіты,бязлітасны,жорсткі,суровы,патрабавальны,таварыскі,гаваркі,пануры,хмуры,даверлівы,прынцыповы,вытрыманы,рашучы,цярплівы.

3. Скажыце,якім павінен быць чалавек у адносінах да курсантаў,салдат,дзяцей,жонкі,мужа,калегі,начальніка,падначаленага,сябра,ворага,суседа.

4. Падумайце,у адносінах чалавека да чаго выдзяляюцца наступныя групы слоў:

працавіты,старанны,руплівы,дзелавы,дасціпны,дакладны, добрасумленны,нядбайны,гультаяваты,гультай,абібок.



эканомны,беражлівы=ашчадны,гаспадарлівы,марнатраўны, шчодры,прагны,скупы,скнара/жмінда.

5. Якія рысы характару,на ваш погляд,павінны быць: у кіраўніка,у палітыка,вайскоўца/афіцэра,курсанта,салдата,выкладчыка,мужчыны,жанчыны.

### II.ФАНЕТЫКА, ГРАМАТЫКА.

Вымаўленне спалучэнняў зычных.

1. Запомніце: свісцячыя зычныя /дз/,/з/,/с/,/ц/ перад шыпячымі /ж/,/дж/,/ш/,/ч/ вымаўляюцца як шыпячыя: перавозчык /шч/,пясчаны /шч/,сшытак /шш/,зжаўцець /жж/.

Шыпячыя перад свісцячымі - як свісцячыя:на дошцы /сц/, на палічцы /цц/, на рэчцы /цц/,карыстаешся /с'с'/

Спалучэнні зычных /дс/,/тс/,/чс/,/кс/ вымаўляюцца як гук /ц/:гарадскі /ц/,братскі /ц/,Асіповічскі /ц/.

Спалучэнні /дч/,/тч/ - як падоўжаны /ч/: разведчык,лётчык.

Спалучэнні /дц/,/тц/,/чц/ - як падоўжаны /ц/: у лодцы, у вопратцы,на печцы.

2. Прачытайце наступныя словы,памятаючы правілы вымаўлення спалучэнняў зычных:

бясшумна,расшчодрыцца,расчыніць,грузчык,паказчык;сшыць, зжаць,расчоска,купаешся,вучышся,рыхтуешся,смяешся,збіраешся, матчына,загадчык,дакладчык,пераносчык,газетчык,даследчык;на рэчцы,на кладцы,на градцы.

3.Патрэніруйцеся вымаўляць спалучэнні зычных у беларускіх прымаўках.

Ці з перцам,ці не з перцам - абы было з шчырым сэрцам.

Да зубоў нал..ся,а да дзяцей наспішся.

Даганяючы не нацалуешся.

Дзе сыноў лава,там бацьку слава,дзе дачок лава,там маці слава.

Калі любіш,то ..аніся,а не любіш - адчапіся.

Добра будзе -накрасуешся і напрацуешся,кепска будзе -

накукуешся і нагаруешся.

З добрым гаспадаром /мужам/ нажывешся,а з ліхім - гора набярэшся.

З дзявочае красы вады не нап'ешся.

Не па рэчачцы націнка /былінка/,не па дзевачцы хлапчынка.

Нічые такія слёзы,як матчыны:яны і ўтопяць,яны і шчасця выпрасяць.

4. Якія прымаўкі вам спадабаліся?
Якія з іх гавораць аб характары чалавека?

Назоўнік.Прыслоўі месца.

5. Прачытайце прымаўкі,растлумачце іх.Звярніце ўвагу на падкрэсленыя словы,якія адказваюць на пытанні к у д ы? . а д к у л ь? с к у л ь?

Языком і туды і сюды,а на справе нікуды.
Пайсці ўгору без вяроўкі.
З слмі печаў хлеб еў.
З дурнога куста і ягада пуста.
Хоць з адной печы,ды не аднолькавыя пернікі.
Адкуль дым,адтуль і полымя.
Адсюль горача,адтуль балюча.
Бессаромнага госця скваркамі з хаты не выпрасіш.
Воўка з леса выпусціўшы цяжка злавіць.
Высока падняў,але знізу не падпёр.
Збочыць з дарогі лягчэй,як на дарогу натрапіць.

Як вы заўважылі,на месца ўказваюць як прыслоўі,так і назоўнікі з прыназоўнікамі.

6.Прачытайце наступныя спалучэнні,звярніце ўвагу на ўжыванне прыназоўнікаў у беларускай і рускай мовах:

| | |
|---|---|
| у.армію | в армию |
| з арміі | из армии |
| у вучылішча | в училище |
| з вучылішча | из училища |
| у бібліятэку | в библиотеку |
| з бібліятэкі | из библиотеки |
| на факультэт | на факультет |
| на кафедру | на кафедру |
| з кафедры | с кафедры |
| на палігон | на полигон |
| з палігону | с полигона |
| на поўнач | на север |
| з поўначы | с севера |



Зробім вывад:

| у бел. мове: | | у рус.мове: |
|---|---|---|
| з | - | из,с |
| у | - | в |
| на | - | на |

7.Звярнецеся да прыслоўяў месца.Параўнайце іх з аналагічнымі ў рускай мове.

КУДЫ? управа,угору,убок,уніз,насустрач,назад,дахаты, дадому,далоў;
туды,сюды,абы-куды,сюды-туды,кудысьці=некуда, вунь туды;

СКУЛЬ? адгэтуль,адтуль,адсюль,здалёк,аднекуль,знекуль;

АДКУЛЬ? знекуль,нізадкуль,адкуль-небудзь.

8. Задайце адзін аднаму пытанні так,каб у адказах былі дадзеныя прыслоўі.

9. Састаўце апавяданні паводле наступных сітуацый,ужываючы прыслоўі месца і назоўнікі з прыназоўнікамі:
раніцай у гарадскім транспарце ;
свята ў горадзе;
гады вучобы ў вучылішчы;
буйное спартыўнае спаборніцтва;
ваш водпуск;
выходныя дні у вашай сям'і.

10. Пазнаёмцеся з інфармацыяй аб тым, як плавалі нашы продкі:

Далёка ад мораў і акіянаў ляжыць зямля Беларусі. Рэкі, што цякуць на гэтай зямлі, злучаюць два моры - Балтыйскае і Чорнае - у адзіны водны шлях. Калісьці па гэтым шляху продкі беларусаў вялі буйны гандаль са сваімі суседзямі. Гэтаму ў многім садзейнічала рачная сетка. У 18-19 стагоддзях большае значэнне набываюць у Беларусі такія рэкі, як Заходняя Дзвіна, Нёман, Прыпяць, Зах. Буг, Днепр, Бярэзіна.

Беларускія купцы ездзілі гандляваць з Расіі на Украіну, у Прыбалтыку, Заходнюю Еўропу. Раслі і багацелі партовыя гарады: Брэст, Пінск, Бабруйск, Гомель, Слонім, Гродна, Віцебск, Полацк.

Беларусам належыць важная роля ў нараджэнні, станаўленні Чарнаморскага флота. Парусная палатно, розны такелаж, пакля, фіцілі, бярвенне, дошкі, мачты - усё гэта сплаўлялася ў Херсон і Крэменчуг для будаўніцтва Чарнаморскага флота.

У Полацку рабілі невялікія судны для гандлю - лайбы, у Крычаве працавала суднабудаўнічая верф.

Наш суайчыннік Іван Міхайлавіч Бураінаў унёс уклад у сусветную навуку. Разам з Фёдарам Лужыным ён даследаваў астравы Курыльскай грады і саставіў дакладную карту чатырнаццаці астравоў.

11. На аснове дадзенай інфармацыі складзіце дыялогі. Выкарыстайце наступныя словы з пытаннямі к у д ы? а д к у л ь?

Заходняя Дзвіна, Нёман, Прыпяць, Заходні Буг, Днепр, Бярэзіна, Расія, Украіна, Прыбалтыка, Заходняя Еўропа, Брэст, Пінск, Бабруйск, Барысаў, Гомель, Слонім, Гродна, Віцебск, Полацк.

Запомніце: з Брэста, Пінска, Бабруйска, Барысава, Гомеля, Слоніма, горада. /Канчаткі назоўнікаў у родным склоне/.

### III. ЛЕКСІЧНАЯ ТЭМА "АРХІТЭКТУРНЫЯ ПОМНІКІ МІНСКА"

Мы працягваем знаёмства з беларускай гісторыяй, у прыватнасці - з архітэктурнымі помнікамі Мінска.

Давайце пабываем на экскурсіі.



Г.1 - Турыст, які трапляе, скажам, у Францыю, Германію, Італію, Польшчу, не можа не заўважыць, што ў кожнай з гэтых краін многа помнікаў старажытнай архітэктуры. Прычым, адносіны да іх з боку улад і з боку простых грамадзян, як вядома, самыя паважлівыя. Нам цікава даведацца, як справы ў вас, у Беларусі.

Э. - Прыемна ўсвоміць, што быў час, калі нашу зямлю замежныя госці называлі краінай замкаў, палацаў і храмаў - так многа было ў нашым краі архітэктурных шэдэўраў. Але і сярод тых помнікаў, што захаваліся на сённяшні дзень, многія маюць сваю адметную гісторыю.

Г.2 - Ці не маглі б вы расказаць, дзе, у якіх раёнах Мінска засталіся помнікі сівой даўніны.

Э. - Разглядаючы помнікі архітэктуры горада, неабходна выдзеліць перш за ўсё тры гісторыка-архітэктурныя зоны: Верхні горад, Ракаўскае і Троіцкае прадмесці.

Зараз мы з вамі знаходзімся на плошчы Свабоды, якая была цэнтрам Верхняга горада і фарміравалася ў XVI-XVII стст. Тут захаваліся каменныя манастыры XVII ст., касцёл XVII-XVIIIст., жылая забудова XVIII-пачатку XXст.

Г.3 - Раскажыце, калі ласка, падрабязней, пра гісторыю гэтых пабудоў.

Э. - З задавальненнем. Будынак касцёла і мужчынскага манастыра знаходзіцца на вуліцы Бакуніна 4,6,8. Іх будаўніцтва пачалося ў першай чвэрці XVIIст. У канцы XVIIIст. комплекс складаўся з касцёла і жылога корпуса. На паўночным усходзе ад яго знаходзіліся канюшні, іншыя гаспадарчыя пабудовы. Ад плошчы манастыр аддзяляла высокая каменная сцяна. У пачатку XIX ст. на ле месцы былі пабудаваны гандлёвыя рады, пазней атрымаўшыя назву "Віленчукі".

У 1864годзе пасля паўстання пад кіраўніцтвам К.Каліноўскага манастыр быў ліквідаваны. У ім размясцілі многіх удзельнікаў паўстання. З 1872 г. тут знаходзіцца архіў.

Г.4 - Я бачу, што насупраць таксама цікавыя будынкі. Раскажыце аб іх.

Э.- Гэта помнікі архітэктуры ХУІ-ХУІІст.

У 1699г. езуіты пабудавалі каменную двухпавярховую школу / зараз тут музычная школа/. Побач пачалі будаўніцтва касцёла. У 1747 г. закончылі будынак, дзе размясціўся калегіум /навучальная ўстанова/.

Касцёл быў багата аздоблены ўнутры: фрэскі, ніжястры, палотны. Гэты комплекс быў самым выдатным дасягненнем архітэктуры ў XVII ст. у Мінску.

Г.5 - Што сабой уяўляла школа езуітаў?

Э.- На маю думку, яна давала добрую падрыхтоўку, бо ў ёй выкладалі рыторыку, паэзію, сінтаксіс, граматыку, тэалогію, этыку, матэматыку, фізіку, логіку. Як сведчаць архіўныя матэрыялы, пры школе быў тэатр.

Пазней у школе знаходзілася рэзідэнцыя губернатара, пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі - ўрадавыя органы. Касцёл стаў Домам фізкультуры. Будынак калегіума разабралі, пабудавалі жылы дом. Затым пабудавалі і дом губернатара.

Г.6 - Давайце абыйдзем плошчу вакол. Тут, напэўна, ячшэ ёсць гістарычныя месцы.

Э - Вы бачыце будынак, дзе знаходзіцца абласны савет прафсаюзаў. На гэтым месцы ў XVI ст. знаходзіўся драўляны манастыр. У 40-ыя гады XVII ст. пабудавалі каменную царкву і двухпавярховы корпус мужчынскага манастыра. Пры манастыры існавала школа, дзе вывучалі грэчаскую, старажытнаславянскую, беларускую, польскую мовы. Была і друкарня. У манастырскай бібліятэцы было сабрана шмат кніг, рукапісаў, дакументаў.

У 1937 г. царкву разабралі.
У манастырскім корпусе з 1799 г. знаходзілася дваранскае вучылішча, затым - мужчынская гімназія.

Г.7 - Мы бачым вельмі прыгожы сабор. На ім ёсць нават званы. Напэўна, ён дзейнічаючы?



Э. - Так, гэта кафедральны сабор. Пасля пабудовы мужчынскага манастыра і касцёла пачалося будаўніцтва жаночага касцёла і манастыра. Яны займалі цэлы квартал. Цэнтрам комплексу быў храм. У двары манастыра пад златлёй былі два ўваходы. Адзін вёў у бок Свіслачы, другі - да касцёла. Зараз тут, як я сказаў, праваслаўны сабор.

Г.4 - Прабачце, ці захаваліся ў горадзе іншыя помнікі архітэктуры, акрамя храмаў?

Э. - Я мяркую, што вам цікава будзе паглядзець на Пічалаўскі замак, што на вуліцы Баладарскага. Пабудавалі яго ячшэ ў 1825 г., а знаходзіўся ён на ўскрайку тагачаснага горада, у Раманаўскім прадмесці.

Г.5 - Цікава, чаму замак носіць такую назву?

Э. - Ён быў пабудаваны па праекту дойлідa Пічалы. Але зараз вы бачыце крыху іншы будынак. Ён дабудоўваўся, пашыраўся. Нягледзячы на гэта, прадстаўляе цікавасць і ў гістарычнай архітэктуры, і ў кампазіцыі горада.

Г.2 - А што знаходзілася тут пазней?

Э. - Мінскі астрог.

Недалёка адсюль знаходзіцца Дзяржаўны музей Беларусі. Ля ўвахода стаіць руская чыгунная гармата, якой больш за 150 год. Але мала хто ведае, што тут у пачатку XX ст. размяшчаўся першы Мінскі камерцыйны банк і будынак прызначаўся менавіта для яго. Аперацыйная зала знаходзілася на другім паверсе, на першым - канторскія службы, сейфы - у паўпадвале.

Пры яго будаўніцтве прымяняліся незгаральныя канструкцыі.

Г.3 - Ці не скажаце вы, дзе бралі раней сродкі для такога будаўніцтва?

Э. - Вядома,што будаўніцтва царквы Ал.Неўскага,што на вуліцы Доўгабродскай,грошы ахвяравалі ўдзячныя балгары і свае патрыёты. Вы спытаеце:у сувязі з чым? Справа ў тым,што Расія дапамагала балгарам вызваліцца ад турэцкага іга і аб'явіла Турцыі вайну.

Белая дача на вуліцы Казінца - гэта маёнтак намесніка Курасава,збудаваны ў XIX ст.

Касцёл св.Роха,нібыта выратаваўшага горад ад эпідэміі халеры,будаваўся на сродкі парафіян.

Святапетрапаўлаўскі сабор,што месціцца ў раёне былога Ніжняга рынку /вул.Астроўскага/,абавязаліся ўзвесці 52 шляхціча і мешчаніны Мінскага ваяводства. Тут была адкрыта. яшчэ школа і шпіталь.

Г 1 - Мы заўважылі,што Мінск - малады горад,і вы паведамілі, напэўна,аб усіх захаваўшыхся помніках даўніны?

Э. - Гэта не зусім так. На вул.Энгельса захаваўся будынак жаночага манастыра. На Кальварыйскіх могілках - брама і касцёл,помнікі пачатку XIX ст. На вул.Інтэрнацыянальнай знаходзіцца дом мастака Ваньковіча /канец XVIIIст./,будынак першай публічнай бібліятэкі,на вул.Кірава - дом,дзе размяшчалася ў канцы XIX-пачатку XX ст. жаночая гімназія,і іншыя.

Як бачыце,горад наш,нягледзячы на вайну,усё ж захаваў тварэнні рук чалавечых,і зараз мы можам бачыць,як паступова будаваўся ён,якім быў узровень тэхнікі раней,як у гэтых будынках адлюстраваліся розныя стылі ў архітэктуры.

Г.1 - Мы вельмі ўдзячны вам за тую інфармацыю,што сёння атрымалі.

1. Знайдзіце ў дыялогу словы,якія называюць крыніцу выказвання.

Такую ролю выконваюць і наступныя словы: па-мойму,па-твойму,думаю,на мой погляд,з пункту гледжання,на думку....,як вядома,як той казаў,як ён кажа,як кажуць,як паведамляе...



2. Выкарыстайце гэтыя словы ў адказах на пытанні:

Калі былі пабудаваны помнікі культуры і архітэктуры горада і ў сувязі з чым?

Што даведаліся вы з дыялога аб жыцці жыхароў нашага горада ў мінулыя стагоддзі?

Як вы ацэньваеце ўзровень будаўнічай архітэктуры і тэхнікі ў тыя часы?

Ці згодны вы з тым,што ў горадзе пануюць помнікі сівой даўніны? Аргументуйце свой адказ.

Дадатковы матэрыял.

Чырвоны Касцёл.

Гісторыя Чырвонага Касцёла - касцёла святых Алены і Сымона ў цэнтры Мінска - вельмі цікавая. Збудаваны ён у 1910 г. Сродкі даў слуцкі намеснік Эдвард Вайніловіч. На будаўніцтва касцёла ён ахвяраваў амаль усё сваё багацце.

Вайніловічы мелі двух дзяцей:дачку Алену 13 гадоў і сына Сымона 14 гадоў. Алена была вельмі прыгожай і таленавітай, рыхтавалася стаць мастачкай,марыла ўсё заробленае за свае малюнкі і карціны аддаваць на падтрымку бедных.

Але эпідэмія іспанкі -раней так называўся грып - перакрэсліла ўсе планы дзяўчыны.

Ноччу Алена ўбачыла Маці Божую,якая схілілася над ёю,паклала далонь на яе палаючы лоб,і яна адчула палёгку.

Маці Божая звярнулася да яе:"Ты заўсёды памятала пра Мяне і Майго любімага Сына - Езуса Хрыстуса,шмат добрага зрабіла для людзей сваімі малюнкамі. Ты заслужыла ўзнагароду ад Бога. Заўтра ты і твой брат прыйдзеце да Мяне. Цяпер жа ты можаш прасіць у Мяне аб чым хочаш."

Алена папрасіла,каб Маці Божая дапамагла ім выздаравець, бо хоць яна і не баіцца смерці,але шкадуе бацькоў,якім іх смерць прынясе шмат гора.

На гэта Маці Божая адказала,што не ўсё ў Яе сілах і што Яна добра ведае,як цяжка траціць сваё дзіця. Парайла,каб бацькі пасля іх смерці пабудавалі касцёл з чырвонай цэглы,бо чырвоны колер - колер радасці. Гэты касцёл будзе для іх радасцю і суцяшэннем,бо душы дзяцей будуць наведваць яго ў вялікія святы,

і бацькі будуць адчуваць дотык іх рук і крылаў.

Перад вачыма Алены ўзнік абрис будинка касцёла. Яна прачнулася і намалявала эскіз будучага касцёла, пераказала жаданне Маці Божай і ціха сканала. Тут жа сканаў і Сымонка.

План забудовы, знешні выгляд будинка бил падказаны Вайніловічам варшаўскаму дойліду Марконі. Цэглу заказалі ў адной з французскіх фірм, якая пастаўляла матэрыял асабліва высокай якасці. Кожная цагліна была загорнута ў асаблівую паперу.

У 30-ыя гады ўлады адабралі касцёл у вернікаў. Яго перарабiвалі то пад тэатр, то пад Дом Кіно. Будынак прывялі ў ганебны стан. Знішчаны вельмі прыгожы роспіс на сценах і столі, убранне, званы, мастацкай работы чыгунныя літыя крыжы, арыгінальныя дарагія крышталёвыя жырандолі.

Зараз плануецца ўстанавіць у касцёле магутны арган, каб можна было слухаць музыку сусветнавядомых кампазітараў.
Тут будзе канцэртная зала, карцінная галерэя гісторыі касцёла і нашага народа, бібліятэка і выставачная зала народнай творчасці.

1. Выкажыце свае адносіны да легенды пра Чырвоны Касцёл.
2. Настаяцель касцёла сказаў, што храм патрэбен не толькі вернікам, але і ўсім людзям.
Ці падзяляеце вы з ім гэту думку?

Заслаўе.

Над Мінскам знаходзіцца невялічкі гарадок Заслаўе, цікавы помнікамі даўніны. Тут і царква XVI-XVII ст ст., і магіла Рагнеды, і іншыя. З якімі падзеямі звязваюць узнікненне Заслаўя? Зазірнем у гісторыю.

Прыгожую дачку першага полацкага князя Рагвалода - князёўну Рагнеду - упадабалі два князі: кіеўскі Яраполк і наўгародскі Уладзімір. Рагнеда дала згоду выйсці замуж за першага. Зняважаны Уладзімір збірае войска і ідзе на Полацк. Горад узяты прыступам і спалены, бацькі Рагнеды забітыя, а сама князёўна стала адной з жонак Уладзіміра.

Аднае начы ганарлівая палачанка зрабіла замах на жыццё Уладзіміра, на той час ужо вялікага князя кіеўскага, які сам хрысціўся і хрысціў Русь.



Але замах быў няўдалым. Яе чакала смерць. Выратаваў маці малалетні сын Ізяслаў, які, ледзь трымаючы ў руках меч, паўстаў паміж і раз'юшаным бацькам.

Па парадзе баяраў Рагнеду з сынамі Ізяславам і Яраславам /будучы Яраслаў Мудры/ выслалі ў спецыяльна збудаваны для гэтай мэты горад пад Мінскам Ізяслаўль.

Праз пэўны час сюды прыехалі пасланцы Уладзіміра. Яны прапанавалі Рагнедзе прыняць хрысціянства і абраць новага мужа. Рагнеда з ахвотаю стала хрысціянкай, але выходзіць замуж у другі раз не згадзілася і палічыла за лепшае стаць манахіняй. Яна пастрыглася ў манахіні пад імем Анастасія.

1. Адкажыце на пытанні:
Які горад больш старажытны: Мінск ці Заслаўе? Абгрунтуйце свой адказ.
Вы прачыталі розныя матэрыялы аб старажытных помніках. Скажыце, што вас уразіла, што спадабалася, аб чым вы пачулі ўпершыню?
Якім бы вы хацелі бачыць сучасны Мінск?

IV. НЕПАДРЫХТАВАНАЯ ГУТАРКА

Людзі зямлі беларускай.

Паслухайце легенду, якая склалася ў 30-ыя гады 19 стагоддзя.

" Бог дзяліў між народамі землі. Адным тое, другім - тое. Прыйшлі беларусы... Вельмі ж пану богу спадабаліся. Ён пачаў нас надзяляць:"Рэкі вам даю поўныя, пушчы - неабмерныя, азёры- незлічаныя. Спёкі ў вас ніколі не будзе, але і холаду - багато ў. Зажэрціся на багатай зямлі не дам, каб былі ўвішныя, кемлівыя, але і голаду ў вас ніколі не будзе. Наадварот, у голад шмат багацейшыя людзі будуць да вас прыходзіць. Не ўродзіць бульба, то ўродзіць жыта ці яшчэ нешта. А яшчэ звяры і дзічына ў пушчах чародамі, рыбы ў рэках - касякамі, пчолы ў борцях - мільёнамі. А травы - як чай. Не будзе голаду. Жанчыны ў вас будуць прыгожыя, дзеці - дужыя, сады - багатыя, грыбоў ды ягад - завалісь. Людзі вы будзеце таленавітыя, на музыку, песні, вершы - здатныя. На дойлідства - таксама. І будзеце вы жыць ды ж[illegible] , ну як...". Тут Мікола ў бок штурхае:"Пане божа, ды вы падумайце. Гэта ж вы ім

рай аддаяце! Гэта ж вы... божа мой! Ды яны пры іх языкатасці туды з сапраўднага раю ўсіх пераваб'яць! Яны ж языком мянцяць- дай бог нам з вамі". Бог падумаў,крактануў,але назад адбіраць не будзеш. Сапраўды,ёсць ужо яна,зямля. Ланi бягуць - лес вару- шыцца. Рыба чаўны з вады выціскае. Дрэвы - да сонца. "Добра,- кажа, - зямля будзе - рай. А каб не занадта вы перад маім раем ганарыліся - дам я вам найгоршае ва ўсім свеце начальства. Яно вам таго раю трохі збавіць,дый пыхі трохі-трохі вам саб'е. Гэ- та вам для раўнавагі".

Мірны ,разумны і вольналюбівы народ склаў такую легенду. Так ён глядзеў на сябе сам,так павінны глядзець на ягоны тага- часны воблік і мы.

Беларус адрозніваецца шчодрасцю,заўсёднай гатоўнасцю прыйсці на дапамогу ў бядзе. Калі раней у каго на вёсцы здараў- ся пажар - вёска талакою ішла красці панскі лес,калі не было свайго,за пару дзён ставіла пагарэльцу новую хату,дзялілася з ім жытам:кожны адсыпаў са сваіх засекаў колькі мог,каб ча- лавек дажыў да вясны і адсеяўся. Потым з кожнай хаты неслі рэчы:хто посцілку,хто падушку,хто палатно,хто гаршкі.

Усе,хто прыязджае да нас,адзначаюць як адну з галоўных рыс гасціннасць,почасту досыць цяжкую для госця. "Госць у ха- це - бог у хаце" - і ганьба таму дому,дзе не зробяць усяго,на- ват немагчымага,каб госць быў задаволены. Рэдка знойдзецца хата,у якой не паставілі б рубам апошняга рубля,калі ў доме госць. Часам гэта бывае нават смешна,і беларус кпіць са сваёй "празмернай" гасціннасці досыць злосна:"Госць,як нявольнік:ляжа, хоць і ў пляшу налажаць".

Зямляк наш вызначаецца і ўтрапёнай любоўю да працы. Ску- пая зямля ой як нялёгка давала хлеб. Для новага поля даводзі- лася /а часам і зараз даводзіцца/ карчаваць "ляду". Сячы лес, выдзіраць з зямлі карчы,зносіць на мяжы камяні.

Беларус - вялікі аматар пакартаваць над суседам,але яшчэ больш над самім сабой. Ён назіральны і таму падмячае ты- повыя рысы характару людзей.

Вось чалавек прыйшоў у Вільню,ідзе па шосе і бачыць,што два падлеткі дзеляць на іх чубы.

- Што вам за ліха? Чаго вам не хапае?

- Б'емся,праўда,але за цябе. Гэты гіцаль кажа,што ў цябе



шэсць пальцаў на назе,а я кажу,што пяць.

- Пакіньце,дзетачкі,бо ў мяне папраўдзе пяць.

- Не,мы так табе,дзядзька,веры не дамо:скінь боты і пакажы.

- Добра,хлопчыкі,супакойцеся.

Пералічылі - пяць.

- Ага,а чаму ж ты,дзядзька,паказаў нам толькі правую нагу? А на левай дык,пэўна,шэсць пальцаў.

А,хай ім. Разуў і левую. Ну і ясна,не было ўжо каму тых пальцаў лічыць,але й на пальцы не было чаго нацягнуць. Мараль: "Хітры наш брат,як чорт,але і дурны,як варона".

Біць дзяцей у беларусаў - апошняя справа. "Не біце вяроў- камі,навучайце гаворкамі,не біце дубцамі,навучайце слаўцамі". А ўжо як здарылася нешта з дарослым сынам,то існуе і такое "су- цяшэнне": "Тады трэба было біць,як упоперак лаўкі мог легчы,а цяпер што ж зробіш,калі дарослую дубіну і ўздоўж не пакладзеш". І як апошняе:"Калі не слухаеш бацькоў,паслухаеш сабачае скуры" /сабачаю скурай за Мікалаем І,калі салдацкая служба цягнулася 25 год,абцягвалі барабаны,так што сэнс пагрозы цалкам зразумелы/.

Пра дзяцей ёсць вельмі добрая легенда. Жанчына некалі па- скардзілася вялікаму чараўніку,што рукі адвальваюцца:дзеці да году не ходзяць,цяляты,ягняты,жарабяты. Усіх на руках насі. Той узяўся памагчы. Кінуў цераз высокі плот жарабя - пабегла,цяля- таксама,ягня - і яно пабегла. "Ну,кажа,давай дзіця". Матка абу- рылася:"Эге,так я табе і дам дзіця цераз высокі плот кідаць".- "Ну то тады і насі..."

## У.ХВІЛІНКА АДПАЧЫНКУ

### Анекдот.

Павесілі беларуса.Дзень вісіць,другі,на трэці вяроўка абарвалася. Падняўся беларус з зямлі,зняў вяроўку з шыі і пайшоў прэч.

Яго даганяюць.

- Слухай,беларус,усіх вешалі,усе паміралі. Як жа ты жывы застаўся?

А ён у адказ:

- Ведаеце,паночку,балела-балела,а потым прыцярпеўся.

## VI. ДАМАШНЯЕ ЗАДАННЕ

Калі ў вас ёсць знаёмыя ці сваяк з цікавым характарам, беларус па нацыянальнасці, падрыхтуйце аб ім расказ.

Прачытайце ў дапаможніку "Бел.мова. Тэксты для чытання" інфармацыю "Фунт губернскага Мінска". Параўнайце некаторыя факты з жыцця мінчан таго часу з сучасным жыццём.



# УРОК 8

Тэма: Змякчэнне гукаў /з/,/с/,/ц/,/д/. Назоўнік, канчаткі роднага склону. Старажытнабеларуская ваенная лексіка. Халодная зброя сярэднявечча. Беларускае войска ў ваеннай гісторыі.

## І. НЕПАДРЫХТАВАНАЯ ГУТАРКА.

На занятках гэтага ўрока вы даведаецеся аб розных ваенных падзеях, у якіх прымала ўдзел беларускае войска ў старадаўні час. Вам, напэўна, цікава ведаць, як гучалі ваенныя тэрміны ў старабеларускай мове. Давайце пазнаёмімся з імі.

1. воевати/ся/, валчити/ся/, бити/ся/, боевати / змагацца са зброяй у руках/.
2. битва, брань, бой, войска, побоиско, подбегъ, потычка, поразка, утарчка / узброеная барацьба/.
3. войска, рушенье, рать / узброеныя сілы, войска/.
4. а/полкъ /почина, гуфъ /уфъ/, рота, почетъ;
   б/ватага, загонъ, пропорецъ, президия, хоруговъ, чата, чамбул /частка войска/;
5. жолнеръ, гайдукъ, драбъ, боенникъ, боецъ, вои, военникъ, воинъ, валечникъ, витезь / удзельнік узброенай барацьбы/;
6. десятникъ, сотникъ, тысячникъ, полковникъ, ротмистръ, гетманъ / назвы вайсковых асоб з улікам іерархічнага становішча/;
7. а/броня, оружие, зброя / у значэнні "зброя"/;
   б/мечъ, кордъ, сабля/шабля/, копьё, древо, рогатина, оцепъ / у значэнні "колючая зброя"/;
8. ручніца, полгакъ, мушкетъ, /г/аркабузъ / у значэнні "ручная агнястрэльная зброя"/;
9. /г/армата, дело, пушка, гаковніца / у значэнні "агнястрэльная зброя буйнога калібру"/.

Вашай увазе прадстаўляецца апісанне сутыкнення двух варожых лагераў.

Вызначыце ў ім словы ваеннай тэматыкі.

Коратка апішыце дзеянні ўдзельнікаў бітвы,ужываючы старабеларускую ваенную лексіку.

Загрымелі літаўры,скалануліся харугвы,і з коп'ямі наперавес рушылі па свайму звычаю з месца паўскоч на тэўтонцаў.

Большасць коннікаў,уцяўшы ахоўныя заслоны крыжацкай артылерыі,дашчэнту высеклі абслугу,кананіраў і,галоўнае,узброеную тэўтонскую пяхоту. Першы значны поспех не абумоўліваў цалкам перамогі,але даволі прыкметна аслабіў баяздольнасць тэўтонскага войска і падарваў яго маральны дух.

Супраць Вітаўтавага крыла рушыла жалезная лавіна з чатырнаццаці харугваў галоўнага маршала тэўтонцаў. І вось насустрач адна адной імкліва нясуцца дзве велізарныя і страшэнныя сілы. Пачалася акрашэнная сеча мячамі. Няпчадна трушчыла крыжацкую бронь дружына Наўгарадскай рэспублікі.

Мінула адна,настала другая гадзіна бітвы. Абодва бакі падкідвалі падмацаванні,але зрушыць адзін аднаго з месца не маглі.

Тэўтонцы разварнуліся і ўдарылі ў правы фланг беларуска-літоўскіх харугваў. Узнікла крытычная сітуацыя,але Вітаўт адразу ж падкінуў з рэзерву чатыры харугвы,і становішча на нейкі час ураўнаважылася. Тады Ягайла і Вітаўт рэалізавалі тактычны прыём,які значна паскорыў разгром крыжакоў.

Хітрасць манёўра заключалася ў тым,што імітуючы адыход,уцягнуўшы такім чынам крыжакоў у пагоню,удалося знясіліць цяжкую конніцу і парушыць баявыя парадкі ворага.

Не вытрымалі націску крыжацкія харугвы,пахіснуліся і пачалі збівацца ў разрозненыя купы. Немцы змагаліся ўпарта,кідаліся з боку ў бок,марна спрабуючы вырвацца з катла.

## II. ФАНЕТЫКА,ГРАМАТЫКА

1. Прачытайце тэкст:

Толькі еднасць славянскіх і літоўскіх земель у барацьбе з ворагамі дазволіла зьберагчы свой этнас і дзяржаўную незалежнасць.

Абараніўшы сваю зямлю ад татарскіх нашэсьцяў у 1275, 1277,1278,1315,1325,1338 гг.,войскі ВКЛ у другой палове XIV ст. нанеслі магутныя ўдары ардынцам,вызвалілі ад татара-мангольскага нашэсьця некаторыя славянскія землі.

Напэўна,вы заўважылі,што ў некаторых словах лішні Ь. У "Беларускай граматыцы для школ" Б.Тарашкевіча за 1918 г. напісана:"Перад мяккімі зычнымі /з/,/с/,/ц/,/дз/ зьмягчаюцца: зьняць,сьляза,цьвіцець,дзьве, і г.д. Толькі перад /г/, /к/,/х/ яны не зьмяняюцца:згінуць,схіліць,скінуць."

У сучаснай беларускай мове гэтыя зычныя таксама змякчаюцца: /з/,/с/ - перад мяккімі зычнымі,/ц/,/д/ - перад мяккімі /в'/,/м'/,але Ь не пішацца.

Праўда,зараз ідуць дыскусіі па пытаннях правапісу. Ніл Гілевіч добра зазначыў:"... да справы ўдакладнення правапісу мы абавязаны падыходзіць у вышэйшай ступені асцярожна і ўдумліва. Каб,жадаючы зрабіць лепш,не зрабіць горш. Трэба выправіць тое,... што асабліва адмоўна адбілася на прыгожым натуральным гучанні нашай мовы... . На канферэнцыі 1926 г. прафесар Растаргуеў гаварыў:"Напісанне звер,свет, цвет,без "Ь" будзе мець вынікам усваенне няправільнага вымаўлення падобных слоў".

Так і сталася! Выбачайце,але некаторыя паэты і пісьменнікі вымаўляюць снег,свет,звер,цвет."

2. Прачытайце наступныя словы,правільна вымаўляючы зычныя:

спяваць,звіць,збіць,змена,цвёрды,Дзвіна,дзве,подзвіг,Дзмітрый,радасць,сцяг,пасцілка,позні,збіраць,радасць,смех,часцей, гусцейшы,збянтэжана,сцізлі,сцяжынка,асвета,хрысціянства, зайздроснік,засведчыць,смяхоцце,трысцёг,ушасцёх,учацвярых, згінуць,скінуць,схема,схіліцца.

3. Прачытайце прыказкі,памятаючы правілы вымаўлення зычных.

Заяц любіць узяць,а цесць любіць чэсць.
Не хочаш,каб свінні з'елі - не валяйся на балоце.
Смех з панскіх ботаў:адзін згарэў,а другі сабака з'еў.
Ад напасці можна прапасці.
З каго кпіла,смяялася,таму сама досталася.
Не смейся з людзей - смейся з сябе ці сваіх дзяцей.
Баязліваму і корч - мядзведзь.
Нясмелы і няўмелы - блізняты.
Як свінню ні кліч,ле выдасць зыч.
Такі сторах,што як засне,то не ўспораш.
На Белай Русі пчолы,як гусі,рэзгінаі мёд носяць.

4. Сёння працягваем знаёмства з канчаткамі назоўнікаў у родным склоне.

Запомніце:канчатак А/Я пішацца,калі назоўнікі абазначаюць
жывых істот /сябра,фермера,каня/;
канкрэтныя прадметы /алоўка,стала/;
адзінкі вымярэння /грама,метра/;
канчатак У/Ю - калі назоўнікі абазначаюць
месца,прастор,напрамак/шляху,усходу,палігону/;
абстрактныя паняцці /смутку,розуму,спакою/;
зборныя прадметы /чаю,цукру/.

Параўнайце!

| у рус.мове: | у бел.мове: |
|---|---|
| офицерОВ | афіцэрАЎ |
| курсантОВ | курсантАЎ |
| решенИЙ | рашэнНЯЎ |
| выступленИЙ | выступленнЯЎ |

5. Пастаўце наступныя словы ў родным склоне:
разлікі,запасы,блокі,танкі,самалёты,артылерысты,ракетчыкі,зенітчыкі,сапёры,сувязісты,лётчыкі,пасядзэнні,злучэнні,фарміраванні.



6. Састаўце міні-апавяданні на тэмы:

Ваенныя вучылішчы Беларусі /каго яны рыхтуюць,адкуль прыязджаюць курсанты/.
Структура ваенных злучэнняў.
Мой мікрараён /чаго тут не хапае,на ваш погляд/.

## III. ЛЕКСІЧНАЯ ТЭМА "БЕЛАРУСКАЕ ВОЙСКА Ў ВАЕННАЙ ГІСТОРЫІ"

На занятках па гуманітарнай падрыхтоўцы абмяркоўвалася пытанне,які след пакінула беларускае войска ў ваеннай гісторыі нашай маладой і ў той час жа старажытнай дзяржавы,ці прымалі наогул беларусы ўдзел у ваенных падзеях глыбокай старажытнасці.

С.1 - Скажыце,будзьце ласкавы,з кім давялося весці бітвы нашым суайчыннікам?

В. - Трэба сказаць,што ворагаў дастаткова прыходзіла на нашу тэрыторыю. Гэта і немцы,і шведы,і мангола-татары,і французы. Нават з рускімі дружынамі давялося змагацца.

С.2 - Можа,вы раскажаце аб адной з першых бітваў,у якіх удзельнічалі і беларусы?

В. - У летапісе пад 1223 г. летапісец распавядае пра ўдзел у бітве пры Калцы нясвіжскай дружыны князя Юрыя. Дарэчы,ён быў адзін з тых,хто першым адклікнуўся на заклік кіеўскага князя выступіць аб'яднанымі сіламі супраць мангола-татарскіх захопнікаў. Але дзеянні кожнага з князёў былі няўзгодненымі. Татары ў рэшце рэшт акружылі лагер князёў і прапанавалі здацца ў палон. Сярод тых,хто не згадзіўся на такую ганьбу, быў нясвіжскі князь. Ён спрабаваў са зброяй у руках прарвацца да Дняпра,але быў цяжка паранены і памёр у вялікіх пакутах.

С.2 – Наколькі я памятаю з гісторыі,татары піравалі на целах палонных,седзячы на дошках.

В. – Праўда ваша! Так і было. Разам з іншымі палоннымі татары паклалі і князя Юрыя пад дошкі і такім чынам адзначалі перамогу.

С.3 – Паведаміце,калі ласка,ці змаглі беларускія дружыны атрымаць перамогу над мангола-татарамі.

В. – Безумоўна. Пазней,летам 1362 г.,у бітве каля Сіняй Вады / на поўдні Украіны/ войска ВКЛ на чале з князем Альгердам разграміла мангола-татарскае войска і гэтым надоўга пазбавіла ўкраінскія,беларускія і літоўскія землі ад страшнай пагрозы з поўдня.

С.3 – Шчыра кажучы,я і не ведаў,што дружыны ВКЛ былі даволі моцнымі.

С.4 – У пачатку нашай гутаркі вы сказалі,што ў старажытнасці нямецкія заваёўнікі таксама былі на нашых землях.

В. – Гэта так. Нашым вайскоўцам прыйшлося сустрэцца з крыжакамі і на нашай тэрыторыі,і за яе межамі.
Першая бітва адбылася 2 лютага 1348 г. на прытоку Нёмана – рацэ Стрэве. Князі Альгерд і Кейстут,кіраваўшыя беларуска-літоўскім войскам,разбілі 40-тысячнае войска крыжакоў.

С.4 – Прабачце,што перапыняю. Цікава даведацца,дзе яшчэ адбылася бітва з нямецкімі захопнікамі?

В. – З задавальненнем раскажу. Гэта было на тэрыторыі сучаснай Польшчы,а бітву,якую я маю на ўвазе,вы добра ведаеце. Гэта Грунвальдская бітва. 15 ліпеня 1410 г. аб'яднаныя арміі Польскага Каралеўства і ВКЛ нанеслі знішчальнае паражэнне магутнаму і цудоўна абучанаму войску Тэўтонскага ордэна. Галоўны вынік гэтай бітвы такі:пасля разгрому крыжакоў больш



пяці стагоддзяў нага германскага заваёўніка не ступала на землі ўсходніх славян. Толькі ў 1914 г. салдаты кайзера Вільгельма асмеліліся прыйсці з агнём і мячом на нашу зямлю.

С.5 – Прабачце,ці не маглі б вы дакладней расказаць пра тое, што тычыцца беларусаў у гэтай бітве.

В. – Зразумеў вас. З 90 сцягоў – 40 прадстаўлялі ВКЛ,а ў ліку іх былі Брэсцкія,Віцебскія,Гродзенскія,Ваўкавыскія, Драгічынскія,Крэўскія,Лідскія,Мінскія,Магілёўскія,Мсціслаўскія,Аршанскія,Пінскія,Полацкія,Слуцкія,Тураўскія сцягі. Адважна змагаліся пад Грунвальдам беларускія ратнікі з Заслаўя, Нясвіжа,Лукомля,Ашмян.

С.4 – Ці ёсць,на ваш погляд,бітва ў нашай гісторыі,якая б адзначалася вялікім ваенным майстэрствам?

В. – Ёсць такая бітва. Яна адбылася пад Оршай 8 верасня 1514 г. і ўвайшла ва ўсе еўрапейскія падручнікі па ваеннаму майстэрству як узор перамогі над ворагам не колькасцю,а уменнем.

С.3 – Мне здаецца,гэта і была тая бітва,дзе беларусам давялося змагацца з рускімі?

В. – Вы маеце рацыю. У гэтай бітве на беразе рэчкі Крапіўны, што паміж Оршай і Дуброўнай,сышліся ў лютай сечы 35-тысячнае войска ВКЛ і 80-тысячная армія вялікага князя Маскоўскага Васіля III. Дарэчы,значную колькасць войска складалі беларускія воіны /летапіс і хронікі называюць войска літоўскім/.

С.1 – Прабачце,а якія ж былі падставы для гэтай бітвы?

В. – Яшчэ ў 1512г. Васіль III распачаў вайну з ВКЛ. Спачатку ён цярпеў няўдачы. Але ў 1514г. усё ж узяў Смаленск,найважнейшы стратэгічны аб'ект на яго шляху. Акрылены такім поспехам,Васіль III накіраваў амаль усё сваё войска ўглыб Беларусі. Узначалілі гэта войска князь Булгакаў-Голіца і

баярын Чалядзін.

С.3 - Шчыра кажучы,цікава было б даведацца пра ход гэтай бітвы.

В. - Перш-наперш,маскоўскае войска заняло пазіцыю на беразе ракі Крапіўна. Ваяводы Васіля III вырашылі пачакаць там ворагаў,каб нанесці ім паражэнне і такім чынам выйграць вайну.

Гетман Канстанцін Астрожскі,род якога паходзіў з турава-пінскіх князёў,добра ўсведамляючы сваё становішча,пачаў перагаворы. А тым часам яго баяры навялі масты праз Днепр,на якіх пераправіліся не толькі коннікі і пешцы,але былі перавезены і гарматы. Адразу пасля пераправы войскі занялі баявыя пазіцыі.

Пасля кароткай прамовы Астрожскі павёў у атаку конніцу і пяхоту на расцягнутыя парадкі маскоўскага войска. Пачалася жорсткая бітва з палкамі Булгакава-Голіцы. Чалядзін у бой не ўступіў,а калі ўдар абрушыўся на яго палкі,Булгакаў-Голіца ад бою ўхіліўся. Хітрым манеўрам пад выглядам адступлення Астрожскі ўцягнуў праціўніка ў пагоню і вывеў яго пад агонь сваіх замаскіраваных гармат.
Пасля гэтага ён зноў нанёс удар па палках Булгакава-Голіцы, якія былі разгромлены,а частка воінаў трапіла ў палон. Таксама былі разгромлены і палкі Чалядзіна. У рускім войску пачалася паніка. Многія з уцекачоў загінулі ў Дняпры і Крапіўне. Месца бітвы было ўслана забітымі.

С.1 - Я хачу прыгадаць успаміны аўстрыйскага дыпламата Герберштэйна на гэты конт. Ён піша,што ў выніку вялікай колькасці патануўшых Крапіўна спыніла сваё цячэнне.

С.3 - Ці скончылася вайна гэтай бітвай?

В. - На жаль,не скончылася,але перамога з'явілася пераломнай у вайне. У выніку далейшых ваенных дзеянняў былі адваяваны ўсе землі і гарады,якія захапіў Маскоўскі князь у пачатку вайны. Выключэнне склаў толькі Смаленск.

С.2 - Калі вы не супраць,давайце абмяркуем пытанне аб адносінах да вайны 1812 года. Кажуць,значная частка насельніцтва Беларусі станоўча ставілася да французскіх захопнікаў?

В. - Цяжка даць веры,але частка мясцовага насельніцтва ў першую чаргу шляхта і прадстаўнікі каталіцкай царквы,не лічылі Напалеона сваім ворагам і звязвалі з яго імем надзеі на адраджэнне Рэчы Паспалітай. Нарэшце,у Вільні на трэці дзень пасля ўступлення ў горад французскіх войск стварылася камісія мясцовага ўрада ВКЛ /дагэтуль не існаваўшага/,якая прысягнула Францыі.

С.1 - На маю думку,беларусы павінны былі нечым плаціць за такую міласць.

В.- З аднаго боку,ад Беларусі і Літвы Напалеон патрабаваў пастаўак харчавання,фуражу,грашовых паступленняў,з другога боку - і 100-тысячную армію.

С.2 - І ўсё гэта Імператар атрымаў?

В. - Для стварэння арміі не было людзей,неабходнага ўзбраення,абмундзіравання. А галоўнае,просты народ не меў жадання ваяваць за інтарэсы французаў. Ва ўсякім разе,значнай воінскай падтрымкі Напалеон ад Беларусі не атрымаў. Сяляне не хацелі даваць харчы,фураж,рэкрутаў.

С.3 - У такім разе беларусы,напэўна,не ваявалі побач з рускімі супраць Напалеона?

В. - Зусім не так. У баях пад Смаленскам французам процістаялі маладыя рэкруты з Віцебшчыны,з 27-ай дывізіі,а таксама 7-ая і 24-ая дывізіі,укамплектаваныя ўраджэнцамі Мінскай, Гродзенскай,Віцебскай губерній.

С.4 - Вядома,што на Русі акрамя арміі народ вёў партызанскую барацьбу з супастатам. Але для Беларусі,напэўна,гэта было

не характэрна?

В. - Наадварот. Мясцовае насельніцтва аказвала як пасіўнае супрацiўленне - невыкананне паставак,адыход усёй вёскай у лес,так і актыўнае - партызанскія дзеянні па знішчэнню груп варожых салдат,захоп абозаў з харчамі.

С.1 - Мы вельмі ўдзячныя вам за такую рознабаковую інфармацыю. Цяпер мы маем уяўленне аб тым,з кім і як даводзілася ваяваць нашым суайчыннікам у далёкай старажытнасці і не так даўно.

1. Выканайце наступныя заданні:

Скажыце,якую з бітваў вы лічыце найбольш важнай для нашай гісторыі? Выкажыце сваё меркаванне.

Выкажыце свае думкі наконт удзелу беларусаў у вайне 1812 года.

Састаўце маналагічнае выказванне на тэму "Перамогі і паражэнні беларускага войска". Для сувязі паміж часткамі выказвання выкарыстайце словы: дарэчы,напрыклад,з аднаго /з другога/ боку,нарэшце,словам,па-першае,па-другое,такім чынам і іншыя словамі.

Дадатковы матэрыял.

1.Прачытайце інфармацыю з "Тымчасовай газеты Мінскай" №1,13.VII.1812г.

"Прадстаўнікі горада сустракалі герцага Экмюльскага і паднеслі сваёму вызваліцелю Вялікаму Напалеону хлеб-соль праз герцага,які аб'явіў ад імя Імператара,што яго непераможная армія прыйшла,каб вярнуць палякам іх Айчыну,і што яго незлічоныя атрады ці накрыюць зямлю сваімі трупамі,ці вернуць самастойнасць нашай Айчыне,і такім чынам спыніцца ўплыў Расіі на справы Еўропы."

"Я паляк,прыехаўшы ў Мінск з другой губерні. Агледзеў тутэйшыя шпіталі для хворых і раненых салдат і выйшаў з іх з пачуццём абурэння і роспачы. Ложкі вельмі неахайныя,насцелы брудныя. Іх від уражвае і напаўняе агідай не толькі сэрцы палякаў,але і любога другога чалавека. Гасціннасць і удзячнасць былі некалі адметнай рысай характару нашых продкаў. Тэдак мы,іх дзеці,крочым па іх стопах?"

№8,11,1812г.

Плошча - імя вызваліцеля.

" Сённяшні дзень назаўсёды стане памятным у нашым горадзе. На нашу долю выпала вялікае шчасце ўрачыста адзначыць свята героя стагоддзя Усеміласцівейшага Імператара і Караля Вялікага Напалеона. У сем гадзін раніцы калакольны звон ва усіх касцёлах паведаміў аб наступленні вялікага свята."

" У 11 гадзін усе афіцэры,вайскоўцы і цывільныя чыноўнікі сабраліся да генерал-губернатара і прынеслі шчырыя віншаванні нашаму Вялікаму Уваскрасіцелю. Потым на чале з генерал-губернатарам пайшлі на абедню ў Кафедральны сабор.

Абедню служыў яго Праасвяшчэнства Мінскі епіскап. З дня ўступлення ў горад нашых вызваліцеляў ён узбудзіў у нашым паважаным духавенстве патрыятычныя пачуцці.

... А чацвёртай гадзіне мэр горада граф Лапскі разам з усім муніцыпалітэтам адправіліся на плошчу,якая называлася Высокі Рынак /Базар/,і назваў гэту плошчу "Плошча Напалеона".

Пад крыкі сабраўшагася народа быў пастаўлены памятнік з адпаведным надпісам,і мэр зрабіў наступную прамову:

"Жыхары горада Мінска! Калі б тут прысутнічаў Вялікі Напалеон і ўбачыў бы нашы сэрцы,ён,безумоўна,пераканаўся б у тым,што знаходзіцца сярод народа,які годны быць Яго народам... Дай боже,каб нашы праўнукі сказалі калі-небудзь:"Ён быў вялікім Імператарам французаў і наш. Ён вызваліў палякаў ад рабства і назаўсёды застанецца ў нашым сэрцы".

... У 8 гадзін вечара аматары майстэрстваў паказалі ў тэатры новую камедыю ў вершах пад назвай "Вызваленне Літвы ці пераправа цераз Нёман 23 чэрвеня."

### З Маніфесту Аляксандра І.

"Аб'яўляем усенародна: большасць падданых жыхароў у бы-ўшых Польскіх, а цяпер Расійскіх абласцях засталіся нам вернымі, другія наклікалі на сябе наш гнеў.

Але ўступаючы ллмантуючаму ў нас голасу міласэрнасці аб'яўляем наша ўсеміласцівейшае прабачэнне, аддаючы вечнаму забыццю і глыбокаму маўчанню ўсё мінулае і забараняючы надалей учыняць якія-небудзь па справах гэтых дамаганні ў поўнай упэўненасці, што гэтыя адпаўшыя ад нас адчуюць рахманасць гэтага з імі ўчынку і праз 2 месяцы вернуцца ў свае вобласці."

### Фядора Міронава.

Было ў памешчыка Глазкі асаблівае чуццё на сваіх прыгонных, і калі да яго прыбыў штабс-капітан Чакрыгін і задаў пытанне, каго можна падрыхтаваць у разведчыкі ў горад Полацк, які быў заняты французамі, то ён адразу назваў Фядору Міронавy. Гэтаму прыходзіцца толькі здзіўляцца, бо, як вядома, у разведчыкі трэба рыхтаваць спецыяльна. А тут вызвалі вясковую жанчыну, праўда, ад прыроды кемлівую, і даверылі ёй такое важнае заданне. Трэба сказаць, што і сёння многія гарадскія, не тое што вясковыя, жанчыны не могуць адрозніць камандзіра аддзялення ад камандуючага арміяй, і воінскія званні для іх - зусім не зразумелая навука. Але ў любой справе ёсць самародкі. Такім чалавекам і была партызанка Фядора. З мазолістымі рукамі, крэпкая, спраўная, з асаблівай сялянскай кемлівасцю.

Доўгім быў шлях ле ў Полацк, у логава французаў. У дарозе яна бачыла сваю абяздоленую зямлю.

Некалькі дзён прабыла Фядора ў старажытным горадзе, у якім ёй даводзілася бываць і раней. Фядора Міронава ўважліва назірала за размяшчэннем французаў, старанна вывучала іх абарону, кантрольныя пасты. Дакладвала яна пасля шматдзённага паходу ў штабе арміі асабіста генералу графу Вітгенштэйну.

Потым яшчэ некалькі разоў накіроўвалі Фядору ў стан ворага. Аднойчы ле затрымалі каля рэдутаў. Уже вельмі ўважліва яна ўсё там разглядала. Але дзеці дапамаглі ёй сваім плачам.

Даклады простай сялянкі вызначаліся незвычайнай дакладнасцю, дзіўнай верагоднасцю. Аб тым, як высока цаніў ле генерал Вітгенштэйн, гаворыць такі факт: яго войскі выкарыстоўвалі даданыя Фядоры пры штурме і вызваленні Полацка ад французаў.

Пасля вайны Фядору Міронаву адразу перапрадалі другому памешчыку.

Толькі ў лютым 1816 г. /праз 4 гады/ быў падпісаны дакумент аб узнагародзе разведчыцы срэбным медалём "За карыснае" і 500 рублямі.

2. Выкажыце свае адносіны да прачытаных матэрыялаў. Выкарыстоўвайце словы, якія ўказваюць на крыніцу выказвання, служаць для сувязі паміж часткамі выказвання, дапамагаюць выказаць сваё меркаванне.

## IV. НЕПАДРЫХТАВАНАЯ ГУТАРКА

### Халодная зброя сярэдневечча.

З тых далёкіх часоў, калі прыватная ўласнасць раскалола першабытнаабшчынны лад, чалавек павярнуў зброю на самога сябе. Зброя пачала выпрацаць зыход ледзь не ўсялякага саперніцтва. Імкнучыся выжыць, людзі стагоддзе за стагоддзем намагаліся ўдасканаліць яе, зрабіць больш, каб забяспечыць сваю сілу і ўладу. Зброя стала важнай часткай матэрыяльнай культуры народа, увасабленнем яго майстэрства і адбіткам гістарычнага шляху.

Не ўяўляючы зброі, якой змагаліся нашы продкі, немагчыма па-сапраўднаму вывучаць гісторыю свайго народа, яго культуру.

1. Разгледзьце малюнкі і подпісы да іх.
2. Паспрабуйце расказаць, якой зброяй у розных бітвах карысталіся нашы продкі.



## Каса баявая

Зброя, гістарычна звязаная з барацьбой беларускага народа за незалежнасць. Уяўляла сабой вертыкальна асаджаную на доўгае дрэўка звычайную гаспадарчую касу ці нож ад ручной сячкарні. З XVII стагоддзя была асноўнай зброяй паўстанцаў. Асаблівае значэнне яна набыла падчас паўстання 1863-1864 гадоў пад кіраўніцтвам Кастуся Каліноўскага. Існавала нават спецыяльная тактыка бою косамі. Паўстанцаў, узброеных імі, называлі касінерамі.



## Клявец

Баявы малаток з завостраным канцом, прызначаны для разбівання пласцiністага ахоўнага ўзбраення. З'явіўся ў XII-XIV стагоддзях і ўжываўся ў асноўным у конных сутычках. Найбольш шырока прыняўся ў Еўропе з XV да XVII стагоддзя, на Беларусі - да сярэдзіны XVIII стагоддзя. З'яўляўся таксама знакам адрознення вайсковага чыну.



## Алебарда

Дрэўкавая зброя пяхоты, вядомая ў Заходняй Еўропе з XIV стагоддзя. Фактычна гэта камбінацыя з дзіды і бердыша. У ваеннай практыцы на Беларусі ўжывалася з XV да XVIII стагоддзя, была зброяй палацавай і гарадской варты.



## Бярдыш

Зброя пяхоты XV - XVII стагоддзяў у выглядзе вялікай баявой сякеры з акруглым лязом, насаджанай на доўгае дрэўка. У адрозненне ад маскоўскіх бердышоў на Беларусі яны рабіліся трохі лягчэйшымі і карацейшымі. Імі карысталіся пераважна палічане для абароны гарадоў.



## Меч

Найбольш старажытная зброя блізкага бою з двухбаковага вострым і звычайна прамым клінком. У сярэднявечны выкыстоўваліся пераважна рыцарствам. Пад канец XVI стагоддзя ў конніцы быў амаль цалкам выціснуты кордам і шабляй.



## Арбалет

Механізаваны лук, які складаўся з ложа-прыклада, прымацаванага да яго лукавіща, механізмаў нацэльвання, зачэпвання і адпускання цецівы. Стралялі драўлянымі стрэламі з жалезным наканечнікам-болтам на адлегласць 300-400 крокаў. Прабівалі рыцарскія латы. На Беларусі актыўна выкарыстоўваўся з XIII па XVI стагоддзе і на сваіх баявых якасцях сапернічаў з агнястрэльнай зброяй.



## Дзіда

Зброя блізкага бою ў выглядзе жалезнага наканечніка на простым дрэўку, якое дасягала часам 3-4 метраў у даўжыню. Ужывалася як пяхотным, так і коннымі войскамі. У ваеннай практыцы на Беларусі дзіды актыўна выкарыстоўваліся да XVIII стагоддзя.



## Лук

Зброя далёкага бою ў выглядзе сагнутага драўлянага луказвіча, сцягнутага сухажыллем /цецівой/. Вядомы з эпохі першабытнаабшчыннага ладу. Стралялі на 300-350 крокаў. Як баявая зброя выкарыстоўваўся да XVII стагоддзя. У XVIII стагоддзі на Беларусі яшчэ былі майстры-лучнікі.



## Сякера

Адзін з самых старажытных відаў зброі, вядомы з бронзавага веку. Найбольш шырокае прымяненне атрымала ў IX-XI стагоддзях, пасля чаго замянілася алебардай і бердышом.



## Кісцень

Старажытная зброя блізкага бою ў выглядзе аднаго-двух металічных шароў з вострымі шыпамі, якія ланцужком ці скураным рэменем мацаваліся да атронка. Ужываўся пераважна пешчанамі і сялянамі.

## Шабля

Лёгкая зброя з закругленым, аднабаковым вострым клінком і закрытай рукаяццю. Вядома яшчэ ў старажытным Егіпце і Персіі. Яна з'явілася ў Еўропе ў IV стагоддзі. Шырокае выкарыстанне ў межах Беларусі атрымала толькі ў XVI стагоддзі. Шаблі, як правіла, былі зброяй лёгкай конніцы.

## V. ХВІЛІНКА АДПАЧЫНКУ

**Ваярская песня.**

Выправіла сына маці
Родны край абараняці.
А пры гэтым загадала
Каб у бітвах быў удалы.
"Бо, сыночку, калі не,
Не варочайся ка мне."
Раз, два, тры.

Ад зары і да зары
Будзем біцца-весяліцца.
Бацька з сынам разлучыўся
І пры гэтым засмуціўся:
"Я няшчасны, бо старэнькі.
Ты шчаслівы - маладзенькі.
Будзеш край свой ратаваць
І за волю ваяваць."
Раз, два, тры.

Жонка з мужам развіталась,
Моцна з ім расцалавалась
І казала: "Будзь героем,
Будзь адважным, смелым воем.
Каб не дзеці, я з табой
Разам бы пайшла ў бой."
Раз, два, тры.

Удаленькага хлапчыну
Выправіла ў бой дзяўчына.
І пры гэтым зашаптала:
"Калі хочаш, каб кахала,
Ад чужынцаў барані
Волю нашае зямлі.
Раз, два, тры.

## VI. ДАМАШНЯЕ ЗАДАННЕ

1. Прачытайце словазлучэнні. Утварыце дзеяслоўныя назоўні-

кі ад наступных дзеясловаў па ўзору і запішыце іх у выглядзе плана.

Узор: авалодаць ініцыятывай - авалоданне ініцыятывай.

План разгрома крыжакоў прадугледжваў:

- авалодаць стратэгічнай ініцыятывай;
- разгортваць тэатр ваенных дзеянняў на тэрыторыі ордэнскай дзяржавы;
- змушаць крыжакоў да генеральнай бітвы;
- ацаніць і выкарыстаць асаблівасці рэльефу мясцовасці;
- улічваць фактар раптоўнасці;
- захаваць у таямніцы галоўную мэту кампаніі;
- дэзінфармаваць праціўніка;
- ужываць невядомыя дагэтуль сродкі фарсіравання водных рубяжоў.

2. Вывучыце песню на памяць.



# У Р О К 9

Тэма: Прыметнік. Канчаткі прыметнікаў у розных склонах. Ваенная лексіка. Ваенная форма. Стварэнне беларускага войска ў пачатку 20-га стагоддзя.

## I. НЕПАДРЫХТАВАНАЯ ГУТАРКА

1. Вы прачыталі інфармацыю аб Грунвальдскай бітве? Адкажыце на пытанні:

Ці памятаеце вы, што прадугледжваў план разгрома крыжакоў?
Што ён улічваў?
Скажыце, як дзейнічалі коннікі ў пачатку бітвы?
Як працягвалася бітва да ўраўнаважання становішча?
У чым заключалася хітрасць манёўра князя Вітаўта?

2. Магчыма, вы прымалі ўдзел у вайсковых вучэннях. Раскажыце аб іх. У гэтым вам дапамогуць наступныя словазлучэнні:

весці бой, ваяваць, нападаць, абараняць, наступаць, адступаць, адыходзіць, атакаваць, атрымаць перамогу, дабіцца перамогі;

цярпець паражэнне, нанесці паражэнне, акружыць, трапіць у палон, вырвацца з акружэння, абысці праціўніка, загадаць, пастроіць;

узбройвацца, зараджаць, наводзіць гармату, страляць, бамбіць, рабіць /праводзіць/ абстрэл, знішчыць пускавую ўстаноўку, знішчальнік, авалодваць апорным пунктам /вышынёй/, нанесці ўдар, панесці страты;

накіраваць войскі, заняць пазіцыі, перашкаджаць руху наперад, адбіць контратаку з ходу;

ацаніць становішча, далажыць / паведаміць / аб становішчы, улічыць перавагу праціўніка, выклікаць паніку, надавіць цэль, выйсці на рубеж, назіральны пункт.

3. Вам прапануецца схема. Прааналізуйце яе. Апішыце бой, які адбыўся на гэтай мясцовасці.



II ФАНЕТЫКА, ГРАМАТЫКА

1. Прачытайце тэкст і прымаўкі. Памятайце правілы вымаўлення галосных, зычных і іх спалучэнняў.

Абвешчаная ў 1991 г. незалежнасць Беларусі, стварэнне яе Узброеных Сіл, фарміраванне афіцэрскага корпусу, сяржанцкага саставу, выпрацоўка асабіст й ваеннай дактрыны незалежнай дзяржавы, якая аб'явіла аб жаданні стаць нейтральнай і без'ядзернай, прыцягваюць увагу не толькі палітычных дзеячаў Беларусі і краін-суседзяў, але і шырокай грамадскасці рэспублікі.

Мерапрыемствы па стварэнню беларускага войска, якія праводзяцца зараз, з'яўляюцца трэцяй спробай. У адрозненне ад першых дзвюх, трэцяя спроба мае шэраг істотных пераваг, што дае падставу спадзявацца: скончыцца яна больш паспяхова.

Адвага ці мёд п'е, ці кайданы трэ.
Душка п'е ваду, а адвага не хоча і мёду.
Адвага не знявага.
Смелы знойдзе там, дзе баязлівы згубіць.
Харошы салдат дык і сабаку брат,
а благі - і сабакі не варты.
Страляй рэдка, але бі метка.
Вайне канец - штыкі ў зямлю.
Часам малы вялікага звале.
Лепш быць зухлівым, чым баязлівым.
Адважны нідзе не загіне.

ПРЫМЕТНІК

1. Давайце паназіраем.

| | |
|---|---|
| дактрына | асабістАЯ |
| корпус | афіцэрскІ |
| мерапрыемства | жаданАЕ |
| сілы | УзброенЫЯ |

2. Параўнайце канчаткі прыметнікаў:

| у рус. мове | у бел. мове |
|---|---|
| ж.р. -ая /-яя/ | -ая /-яя/ |
| м.р. -ый /-ий/,-ой | -ы /-і/ |
| н.р. -ое /-ее/ | -ае,-ое /-яе/ |
| м.лік -ые /-ие/ | -ыя /-ія/ |

3. Дапасуйце прыметнікі да назоўнікаў:

беларускі /сцяг,герб,асяродкі,арганізацыя,нацыя/
вайсковы /Рада,камісія,рух,злучэнні,блок/
ваенны /вучылішча,установа/
баявы /гатоўнасць,крышчэнне,парадак/
дзяржаўны /граніца,бяспека/
палітычны /мэта,рух/

4. Звярніце ўвагу на скланенне прыметнікаў

| склон | муж.,ніякі род | жан.род | мн.лік |
|---|---|---|---|
| Р. | -ога,-ага,-яга | -ой,-ай,-яй | -ых,-іх |
| Д. | -ому,-аму,-яму | -ой,-ай,-яй | -ым,-ім |
| Т. | -ым,-ім | -ой/-ою/,-ай,-яй | -ымі,-імі |
| М. | -ым,-ім | -ой,-ай,-яй | -ых,-іх |

5. Карыстаючыся табліцай,напішыце замест кропак канчаткі прыметнікаў.

У адпаведнасці з пратаколам,які быў падпісаны прэм'ер-міністрам В.Кебічам і маршалам Я.Шапашнікавым,Беларусі перададзена 130-тысячн... войска з дыслакаван... на тэрыторыі рэспублікі войск был... Чырванасцяхн... ваенн... акругі.

Да Узброен... Сіл Беларусі адышлі ўсе вайсков... злучэнні і часткі сухапутн... войскаў і супрацьпаветран... абароны,за выключэннем некальк... вучэбн... цэнтраў.

Перададзена прыкладна 90% знішчальна-бамбардыровачн... авіяцыі,дыслакаванай у Беларусі,а таксама транспартн... авіяцыйн... полк. Беларусі будзе перададзена прыкладна 10% стратэгічн... бамбардыроўшчыкаў ад той колькасці,што зараз знаходзіцца на яе тэрыторыі. Разам з тым на Беларусі застаецца групроўка стратэгічн... сіл,якая падпарадкоўваецца Галоўн... камандаванню Аб'яднан... Узброен... Сіл СНД,агульнай колькасцю каля 40 тысяч чалавек.



6. Складзіце дыялогі паводле наступных сітуацый:
беларуская армія ў ваеннай гісторыі;
будучае ваенных вучылішч Беларусі;
супрацьпаветраная абарона РБ сёння.

Выкарыстайце ў дыялогах прыметнікі ў розных склонах.

## III. ЛЕКСІЧНАЯ ТЭМА "СТВАРЭННЕ БЕЛАРУСКАГА ВОЙСКА Ў ПАЧАТКУ 20-ГА СТАГОДДЗЯ"

Прачытайце дыялог,у якім гісторык дае адказы на некаторыя пытанні,звязаныя з гэтай тэмай.

В.1 - Раскажыце,будзьце ласкавы,як і калі ўзнікла ідэя стварэння беларускага войска.

Г. - Больш акрэслена гэта ідэя ўзнікла падчас пачатку развалу Расійскай імперыі вясной 1917 г. Спачатку сталі ўзнікаць гурткі беларускіх вайскоўцаў,якія неслі вайсковую службу на розных франтах першай сусветнай вайны. Першым узнік такі гурток у Рызе ў маі 1917 г.

Трэба адзначыць,што за лета 1917 г. на ўсіх франтах утварыліся шматлікія беларускія асяродкі. Масавы і легальны характар беларускі вайсковы рух набыў пасля выдадзенага ў жніўні 1917 г. Часовым урадам дэкрэта,які дазваляў нацыяналізаваць тыя вайсковыя адзінкі рускай арміі,дзе большасць склалі прадстаўнікі нярускіх нацыянальнасцяў.

В.1 - Але ж развіццё беларускага вайсковага руху патрабавала каардынацыі,выпрацоўкі поўнай праграмы дзейнасці.

Г. - Вядома. Таму ў кастрычніку 1917 г. адбыўся з'езд беларускіх вайскоўцаў Заходняга,Балтыйскага Румынскага франтоў. З'езд абраў кіруючы орган беларускіх вайскоўцаў -

Беларускую Вайсковую Цэнтральную Раду /БВЦР/,на чале якой стаў Рак-Міхайлоўскі. Пазней быў утвораны штаб Беларускага войска. У снежні 1917 - лютым 1918 г. выдавалася газета "Беларуская Рада",якая адлюстроўвала імкненне беларусаў да нацыянальна-дзяржаўнага самавызначэння,стварэння ўласнага войска.

В.2 - Скажыце,ці адбыліся якія-небудзь змены пасля рэвалюцыйных падзей 1917 г.?

Г. - Створаны падчас кастрычніцкага перавароту АблвыканкамЗах не вызначаў нават самога існавання беларусаў,як народу, і Беларусі,як асобнай краіны.
Цэнтральныя ўстановы ў Петраградзе і Стаўка Вярхоўнага галоўнакамандуючага прапаршчыка Крыленка давалі дазвол на фарміраванне беларускіх вайсковых адзінак,а АблвыканкамЗах, наадварот,абяззброіваў іх. Так,начальнікам штаба генералам М.Бонч-Бруевічам быў выдадзены дазвол на стварэнне 1-га пяхотнага Менскага беларускага палка. Але галоўнакамандуючы Заходняга фронту Мяснікоў сваім загадам адмяніў загад Крыленка.

В.3 - Цікава даведацца,які быў лёс беларускай арміі ў час акупацыі палякамі тэрыторыі Беларусі?

Г. - Добрае пытанне. З задавальненнем адкажу на яго. У 1919г. была створана Беларуская вайсковая камісія - орган па фарміраванню беларускіх узброеных адзінак у Войску Польскім. Абавязкам камісіі павінна было стаць "нацыянальнае гадаванне войска",устанаўленне вайсковай формы і распрацоўка статутаў. Начальнік Польскай Дзяржавы Юзэф Пілсудскі падпісаў загад аб фарміраванні беларускага войска. Ім прадугледжвалася пачаць фарміраванне на добраахвотнай аснове беларускіх аддзелаў /напачатку 2-х батальёнаў пяхоты/ у польскім войску.

У Слоніме,дзе павінны былі сфарміравацца першыя беларускія батальёны,пачалі рыхтаваць казармы для размяшчэння добраахвотнікаў. Тут меркавалася арганізаваць школу беларускіх



падафіцэраў,разлічаную на 100 навучэнцаў,у Варшаве пры школе падхаружных - стварыць беларускі ўзвод. Спецыяльна падкрэслівалася,што выкладанне ў названых школах павінна быць пераведзена на беларускую мову.

В.4 - Цікава,якія патрабаванні прад'яўляліся да кандыдатаў у беларускае войска?

Г. - Як вядома,афіцыйна былі аб'яўлены наступныя патрабаванні: прыналежнасць да беларускай нацыі,адпаведны ўзрост /для афіцэраў да 45 гадоў,для салдат - да 40 /,веданне афіцэрамі беларускай мовы,прыхільнасць да ідэі незалежнасці Беларусі,пацверджаная рэкамендацыямі двух вядомых дзеячаў нацыянальнага руху.

Але існавала яшчэ і сакрэтная інструкцыя за подпісам старшыні кваліфікацыйнай камісіі Якубецкага,які ставіў у абавязак сваім падначаленым збіраць звесткі пра жыццё кандыдатаў да вайны,у час вайны,ва ўсе перыяды рэвалюцыі,высвятляць іх думкі да той ці іншай палітычнай партыі,погляды на адраджэнне Бацькаўшчыны і г.д.

В.3 - Мне здаецца,што ў такім разе вельмі складана было сфарміраваць нацыянальнае войска.

Г. - Вы маеце рацыю. Кіруючыся такім строгім падыходам,Беларуская вайсковая камісія з 405 афіцэраў,што падалі заявы, залічыла ў рэзерв толькі 272 чалавекі. Газета "Незалежная думка /1920,8.VI/ з гэтай нагоды іранізавала,што "у беларускае войска цяжэй папасці,як у рай Магамета".

В.4 - Шмат у Польшчы так зацікаўлены былі ў стварэнні нашага войска?

Г. - Зусім не. На польскай палітычнай арэне і сярод мясцовай шляхты існавалі уплывовыя сілы,не зацікаўленыя ў набыцці беларусамі самастойнасці. А стварэнне нацыянальнага войска спрыяла ўмацаванню дзяржаўнасці.
Таму вясной 1920 г. Беларуская вайсковая камісія была

фактычна адхілена ад удзелу ў фарміраванні беларускіх узброеных адзінак.

В.5 - Ці вядома,як насельніцтва ставілася да ідэі беларускай дзяржаўнасці і стварэння нацыянальнага войска ?

Г. - Вярбовачныя агенты сведчаць,што сустракалі іх прыхільна, з цікавасцю выслухоўвалі,асабліва,калі расчараваліся і ў польскіх уладах,і ў бальшавіках.

А ўжо у некаторых месцах выказвалі сумненні,гаварылі, што "беларускі ўрад - неафіцыйны".

У цэлым людзі з разуменнем ставіліся да справы беларускага войска,але на канкрэтныя прапановы запісацца добраахвотнікамі звычайна ўхіляліся ад прамога адказу,абяцалі "падумаць". Некаторыя раілі правесці прымусовую мабілізацыю, бо пры добраахвотным прынцыпе набору цяжка разлічваць на поспех. І сапраўды,агенты дакладвалі,што звычайна ўдавалася завербаваць адзінкі,у лепшым выпадку - дзесяткі чалавек.

В.6 - Мы ведаем,што 20-ыя гады гэтага стагоддзя характарызуюцца палітыкай беларусізацыі. Ці мела такая палітыка які-небудзь уплыў на фарміраванне Чырвонай арміі ў рэспубліцы?

Г. - У 1923-25 гг. Чырвоная армія пераходзіць на змешана-кадравы і тэрытарыяльны /міліцэйскі/ прынцып фарміравання. Ваенная рэформа супала з палітыкай беларусізацыі,якая праводзілася тады ў Беларусі. У адносінах да ваенных часцей гэта азначала змену кадравага састава беларусамі і пераход на беларускую мову каманд і адносін.

Камандны састаў беларускіх часцей рыхтавала Аб'ядналая Беларуская ваенная школа. Пад кіраўніцтвам ваеннай камісіі пры Інстытуце беларускай культуры распрацоўвалася беларуская ваенная тэрміналогія /"Зміхт,звяжай!","Крокам руш!"/, рыхтаваліся на беларускай мове ваенныя слоўнікі,статуты. Дзяржаўнае ваеннае выдавецтва Беларусі кожны год выпускала дзесяткі назваў беларускамоўнай ваеннай літаратуры. На беларускай мове выходзіла акруговая "Чырвонаармейская праўда", акрамя дывізіённых і палкавых газет.



В.5 - Што вы маеце сказаць аб становішчы прадстаўнікоў другіх нацый у арміі ў сувязі з палітыкай беларусізацыі?

Г. - Беларусізацыя арміі не азначала абмежаванне правоў іншых нацый. Так,напрыклад,у Гомелі быў створаны яўрэйскі тэрытарыяльны полк Чырвонай арміі,такія ж батальёны існавалі ў Мінску і іншых гарадах. Да таго ж нацыянальнай павінна была быць толькі частка арміі.

На жаль,да 1938 г. нацыянальныя часці былі паступова ліквідаваны. Вось і ўсё,аб чым я хацеў сёння вам паведаміць.

В.4 - Дзякуй вам за змястоўны расказ. Мы шмат даведаліся аб пытаннях,якія нас цікавяць.

1. Адкажыце на пытанні:

Аб якіх дзвюх спробах стварэння беларускага войска ішла гутарка?

Калі,на ваш погляд,былі больш спрыяльныя ўмовы для стварэння беларускага войска? Аргументуйце свае меркаванні.

Параўнайце звесткі аб стварэнні нацыянальнай арміі ў пачатку стагоддзя з фактамі сучаснай рэчаіснасці. Ці згодны вы са словамі,якія прачыталі ў пачатку ўрока:"... трэцяя спроба мае шэраг істотных пераваг,што дае падставу спадзявацца:скончыцца яна больш паспяхова"?

## Дадатковы матэрыял.

З ідэяй стварэння беларускага войска ў пачатку стагоддзя звязаны многія імёны. Прапануем вам матэрыялы,прысвечаныя генералу Булак-Балаховічу,які таксама меў дачыненне да гэтых падзей у 1919-1920 гадах.

### Булак-Балаховіч:бандыт ці герой?

Зараз некаторыя аўтары спрабуюць абяліць аднёзную фігуру заўзятага контррэвалюцыянера,пагромшчыка і ката беларускага народа генерала Станіслава Булак-Балаховіча выдаць яго за нацыянальнага героя. Гэты авантурыст летам і восенню 1920 года

ў зносе з Барысам Савінкавым,апіраючися на яго банды,на грошы буржуазна-памешчыцкай Польшчы сфарміраваў сваё "беларускае войска" і спрабаваў скінуць Савецкую ўладу ў Беларусі,стаць "вярхоўным кіраўніком " края.

Яму ўдалося на кароткі час захапіць Пінск,Петрыкаў,Мазыр і некаторыя іншыя населеныя пункты ў паўднёва-заходняй частцы рэспублікі. У гэтых месцах Булак-Балаховіч і яго банды праславіліся яўрэйскімі пагромамі і масавымі расстрэламі ўсіх,хто спачувальна ставіўся да Савецкай улады. Урад БНР А.Луцкевіча і В.Ластоўскага парваў з ім усякія адносіны. У лістападзе 1920 года з авантурай Балаховіча было пакончана. Часці 16-й арміі Заходняга фронту разбілі балахаўцаў і ачысцілі ад іх захопленую тэрыторыю. Недабітыя рэшткі гэтых пагромшчыкаў на чале са сваім атаманам /"бацькам"/ уцяклі за кардон зноў пад заступніцтва Юзафа Пілсудскага. Пасля заключэння мірнага дагавору Савецкай Расіі з Польшчай яны былі там інтэрніраваны.

Такім чынам,хто ж такі Булак-Балаховіч:бандит ці нацыянальны герой? У пэўнай ступені адказаць на гэта питанне дапамогуць апублікаваныя ніжэй успаміны аднаго з вядомых дзеячаў беларускага нацыянальна-вызваленчага руху,шэфа ваенна-дыпламатычнай місіі Беларускай Народнай Рэспублікі ў Латвіі і Эстоніі ў 1919-1920 гадах палкоўніка К.Б.Езавітава,які добра ведаў Булак-Балаховіча і дапамагаў яму ў фарміраванні "беларускай арміі,а затым парваў з ім.

" З генералам Булак-Балаховічам я пазнаёміўся ў лістападзе месяцы 1919 года,калі па даручэнню тагачаснага ўрада БНР запрасіў яго на беларускую службу.

Спытаў Балаховіча,ці згодны ён са сваім атрадам,які ўваходзіў тады ў састаў арміі Юдзеніча і дзейнічаў па паўднёвым беразе Фінскага заліва,перайсці ў распараджэнне ўрада БНР? Балаховіч адказаў,што ён лічыць сябе беларусам і што ідэя барацьбы за незалежную Беларусь яму куды бліжэй,чым удзел у пачынаннях Юдзеніча і іншых рускіх контррэвалюцыйных генералаў.

Юдзеніч цярпець не мог Балаховіча і нічога не меў супраць яго адыходу,але не хадаў выпусціць з саставу сваёй арміі атрад Балаховіча,які лічыўся вельмі рухомым і баявым. Балаховіч забраў свой конны полк і пяхоту і павёў іх з фронту ад Гдова на поўдзень Чудскага возера ў раён горада Ізборска.



Паколькі Юдзеніч затрымаў артилерыю Балаховіча,то Балаховіч вярнуўся ў Рэвель /цяпер Талін/ і тут з групай сваіх афіцэраў арыштаваў Юдзеніча і вывез яго за горад. Толькі тады,калі генерал Юдзеніч падпісаў загад аб вызваленні артилерыі Балаховіча,ён быў адпушчаны.

Каб забяспечыць атрад Балаховіча зброяй і амуніцыяй,я ўступіў у перагаворы з камандзірам англійскай эскадры,якая стаяла ў Рэвелі і аказвала дапамогу і эстонцам,і Юдзенічу.

Даведаўшися аб тым,што беларусы ўяўляюць сабой 16.000.000 народ,англічане зацікавіліся і абяцалі падтрымку,але хадалі весці перагаворы з урадам БНР.

Паколькі атрад Балаховіча трэба было ўтрымліваць,а ў маім распараджэнні не было сродкаў,я дамовіўся з эстонскім камандаваннем,што яно будзе выплачваць плату і даставляць прадукты атраду Балаховіча да таго часу,пакуль гэта не змоха ўзяць на сябе ўрад БНР. Эстонскі штаб і я падпісалі асобны дагавор аб тым,што затрачаныя сумы будуць лічыцца пазыкай Беларусі і належаць вяртанню ў будучым.

Падтрымкі з англійскага боку так і не атрымалі. На Балаховіча звярнуў увагу польскі аташэ. Яму патрэбен быў генерал, настроены не па-бальшавіцку,каб узначаліць беларускія атрады, якія тады ствараліся. Балаховіч сабраў свой атрад,пагрузіў у эшалоны і пераехаў у Заходнюю Беларусь. Трапіць у Мінск яму не ўдалося,таму што там у гэты час знаходзілася Чырвоная Армія. Балаховічу адвялі ўчастак фронту ў Палессі і прапанавалі арганізаваць тут атрады,якія можна б было перакінуць у савецкі тыл. Такія атрады былі на месцы з ліку беларускіх нацыянальных фарміраванняў. Балаховіч узначаліў гэтыя атрады і патрабаваў ад палякаў зброю.

Атрады рушылі ўздоўж р.Прыпяць,узялі Пінск і прайшлі да Гомеля,дзе Балаховіч учыніў яўрэйскі пагром. У далейшым атрады адышлі на захад пад націскам савецкіх войск на Варшаву, але яны захаваліся на Палессі ў лясах і дзейнічалі адтуль на тылы савецкіх войск. Пры новым наступленні Балаховіч пайшоў старой дарогай на Гомель і зноў дайшоў да Гомеля,дзе "паўтарыў праграму" і учыніў новы пагром.

Калі пачалося новае наступленне савецкіх войск на Мінск і Гомель,Балаховіч адступіў на захад. Палякамі ён уже быў

незадаволены,таму што грошы яны выплачвалі скупа,зброі не давалі,за яўрэйскія пагромы прысылалі нават вымовы з пагрозамі аб магчымасці раззбраення такіх атрадаў.

Палякі раззброілі атрад Булак-Балаховіча,"інтэрніравалі" ў ваенным лагеры ў Картуз-Бярозе. З самім генералам палякі не мірыліся і далі яму канцэсію на рубку і распілоўку лесу ў Белавежскай пушчы. Ён узяў да сябе частку свайго атрада,які ў яго і працаваў у далейшым некалькі гадоў.

За гэты час сувязь Балаховіча з урадам БНР была канчаткова парвана,тым больш што створаны ім дыпламатычны корпус,які палякі ў процівагу беларускай місіі пагадзіліся накіраваць у Парыж на мірную канферэнцыю,уключыўшы ў састаў сваёй місіі,перашкаджаў дыпламатычным выступленням урада БНР. Выступалі яны як былыя польскія саюзнікі і на мірных перагаворах паміж палякамі і савецкай дэлегацыяй...

Гэтыя адносіны Балаховіча былі прадметам абмеркавання на беларускай канферэнцыі ў Празе,дзе была вынесена рэзалюцыя:лічыць Булак-Балаховіча ворагам беларускага народа".

У заключэнне прывядзём характарыстыку С.Н.Булак-Балаховіча з цікавай кнігі Аляксандра Кузняцова "Аб Белай Арміі і яе ўзнагародах",якая выйшла ў 1991 годзе ў Маскве.

"С.Н.Булак-Балаховіч - фігура вельмі характэрная для названага часу грамадзянскай вайны. Гэта любімы сваімі паўразбойнікамі бацька-атаман,які служыў белым,потым чырвоным,затым зноў белым і ў рэшце рэшт застрэлены ў 1940 годзе на вуліцы Варшавы.

Атрад яго ваяваў не столькі з чырвонымі,колькі з насельніцтвам,займаўся рабаўніцтвам і не падпарадкоўваўся камандаванню. За гэта загадам Юдзеніча быў выключаны з Белай Арміі. Тады ён перайшоў спачатку ў Эстонію,потым у Польшчу,дзе таксама атрымаў чын генерала,цяпер ужо польскай арміі. Для ўдзельнікаў свайго атрада атаман устанавіў "Крыж храбрых",якім узнагароджваў сваіх галаварэзаў".

Чый пункт погляду вы падтрымліваеце?
Выкажыце свае адносіны да асобы Булак-Балаховіча.



## IV. НЕПАДРЫХТАВАНАЯ ГУТАРКА

Ваенная форма. Калі ўпершыню яна з'явілася?
Як выглядалі тады вайскоўцы? Ці зручная яна была?
Хто працаваў над яе стварэннем?
Адказы на гэтыя пытанні вы атрымаеце ў нашай гутарцы.

У 17 стагоддзі некаторыя краіны Еўропы перайшлі да стварэння рэгулярнай арміі. Вайскоўцаў сталі апранаць у адмысловую форму,каб можна было адрозніць салдата ад мешчаніна,сваё войска - ад варожага,разлічыць служачага па роду зброі і па званню.

Ваенная адзежа кожнай краіны,як у мінулым,так і зараз, мела і мае адметныя асаблівасці. Яна залежала ад сацыяльна-палітычнага строю,ад з'яўлення новых сродкаў вядзення баявых дзеянняў,развіцця тактыкі,ад нацыянальных традыцый,ад эканамічных магчымасцей,ад кліматычных умоў. Пры яе стварэнні вялікую ролю іграў густ караля ці імператара,а таксама мода цывільнай адзежы і імкненне падняць аўтарытэт якога-небудзь віду ці роду войск.

Мастакі і мадэльеры старажытнасці выкарыстоўвалі ўсю палітру колеру. Але хараство і пышнасць вайсковага касцюма паступова выцеснілі практычнасць і зручнасць дзеянняў чалавека ў баявой абстаноўцы.

Разгледзім асноўныя вехі эвалюцыі ваеннай формы.

### Армейская пяхота.

У пачатку XVII ст. стральцы насілі чырвоныя каптаны,у канцы стагоддзя - рознакаляровыя,абшытыя мехам суконныя шапкі, каляровыя боты. Палкі распазнавалі па колеры каптанаў,шапак, ботаў.

Абмундзіраванне пятроўскага салдата з 1700 г. складвалася з невялікай трохвуголкі,каптана,епанчы /доўгі плашч/,камізэлькі і штаноў. Пры атрыманні загаду малодшы па чыну здымаў трохвуголку.Каптан для пехацінцаў шылі з зялёнага сукна з чырвонымі абшлагамі,епанчу - з чырвонага. Іх насілі толькі

ў караулах і паходах. Паўсядзённым абуткам былі чаравікі з меднымі спражкамі і зялёныя панчохі. Праабражэнцы і сяўмёнаўцы насілі чырвоныя панчохі ў памяць аб бітве, калі яны, стоячы па калені ў крыві, не заваганіся пад націскам войск Карла XII. 1802 г. у рускай арміі знаменальны прынятцем легендарнага шыняля.

У сярэдзіне XIX ст. радавога байца адзелі у суконны зялёны мундзір з каўнярам чырвонага колеру, пад пасак. Зімнія ці летнія шаравары з белай тканіны насілі ў боты з доўгімі халявамі. На галаве ў пехацінца была бесказырка ці скураная востраканцовая каска.

Для афіцэраў усіх радоў войск у 1850 г. увялі белы летні мундзір даўжнёй чуць вышэй каленяў са стаячым каўнярам і двума радамі гузікаў.

У батальёнах, дыслацыраваных у Туркестанскай ваеннай акрузе, з 1867 г. салдатам з мэтай забеспячэння ад укусаў скарпіёнаў выдаваліся чырвоныя скураныя штаны. Ад сонца забяспечвала шапка з белым чахлом і напатыльнікам.

Трэба адзначыць, што афіцэрскае абмундзіраванне заўсёды вызначалася згробнасцю, тонкасцю аздаблення і дарагавізнай.

У яго камплект пры Мікалаі II уваходзілі: летняя і зімняя, парадная, поўная парадная, бальная форма, шынель звычайны, шынель мікалаеўскі / з пялярынай і бабровым каўнярам/.

## V. ХВІЛІНКА АДПАЧЫНКУ

Прыгоды маладога вайскоўца.

* На вуліцы стаяла бабулька і прасіла што-небудзь ёй падаць. Ротаў і падаў ёй каманду "Вольна!"

* Нават праз паўгода пасля Указа аб дэпартызацыі арміі Ротаў заўсёды працягваў вяртацца дадому пасля 12 гадзін ночы з партсходу.

* Аднойчы Ротаў ехаў у поездзе і ўбачыў, што праваднік нешта разносіць. Ён вырашыў дапамагчы, і разам яны разнеслі ўпчэнт 2 купэ і прыбіральню.

## VI. ДАМАШНЯЕ ЗАДАННЕ



Складзіце дыялог аб ваенных падзеях на полі боя па схеме урока 59.

Якой вы хацелі б бачыць новую форму вайскоўца? Чаму?

## УРОК 10

Тэма: Прыметнік, ступені параўнання. Традыцыі беларусаў. Адлюстраванне традыцый, быту беларусаў у фразеалагізмах. Знакамітыя людзі Беларусі.

### I. НЕПАДРЫХТАВАНАЯ ГУТАРКА

Давайце зойдзем у хату. Спачатку трапляем у сенцы. Тут вёдры, цэбры з рознай рознасцю, маслабойкі. Адны дзверы вядуць у камору, дзе таксама рэчы для гаспадаркі, другія - у халодныя пакоі. Тут улетку спяць старэйшыя, узімку ляжаць на аўсянай саломе яблыкі. А яшчэ ў сенцах стаіць лесвіца, або проста бервяно з засечкамі, якое вядзе на гару, дзе вісяць шынкі і каўбасы.

А цяпер - у хату. Ля ўвахода, справа, мыцельнік, месца для мыцця посуду і кухонных рэчаў. Пасля печ, за ёй - нары. Уздоўж дзвюх сцен стаяць шырокія лавы. На іх сядзяць і ноччу спяць, асабліва калі бываюць госці.

Перад лаўкамі - стол. Заўсёды дужа белы, бо яго часта скрабуць нажом. Стол і лаўкі часцей за ўсё робяць з тоўстых дубовых дошак. Ля той сценкі, дзе дзверы, стаяць куфры і - узімку - гаспадыніны кросны. З упрыгожанняў - абразы на покуце, тканыя посцілкі, ручнікі.

Вернемся да печы. На Беларусі печ паважалі і ставіліся да яе, як да жывой істоты. Таму ў хаце, дзе была печ, нельга было гаварыць грубыя або непрыстойныя словы: "Сказаў бы, ды печ у хаце".

Печ лічылася месцам знаходжання добрага духа - дамавіка. Яе ўспрымалі і як надзейную заступніцу ад хваробы і смерці. Існавала такая парада: пры ўваходзе ў хату, дзе ляжыць хворы, трэба было спачатку паглядзець на печ, каб не прыстала хвароба.

У народнай медыцыне беларусаў быў вядомы прыём "запякання" слабых, хворых дзяцей у печы. Дзіця закутвалі ў коўдру і трымалі



некалькі хвілін у печы адразу пасля таго, як скончаць паліць. Лічылася, што пасля гэтага дзіця набывае сілу і здароўе.

Сваты, збіраючыся ісці ў сваты, дакраналіся да печы ў сваім доме, "каб быў лад". Прыйшоўшы ў хату будучай нявесты, яны перш за ўсе падыходзілі да печы і ціхенька звярталіся да яе: "Печ, печ, памажы!".

На Гомельшчыне і цяпер існуе старадаўні звычай: маладая на другі дзень пасля вяселля беліць печ у хаце маладога, каб "задобрыць" яе, наладзіць з ёй адносіны, а значыць - з новай сям'ёй.

Адкажыце на пытанні:

* Ці зручнай, на ваш погляд, была сялянская хата?
* Чаму ў народзе так паважалі печ?

Абгрунтуйце свой адказ.

### II. ФАНЕТЫКА, ГРАМАТЫКА

1. Прачытайце тэксты, звяртаючы ўвагу на вымаўленне галосных гукаў, зычных і іх спалучэнняў.

Адкрыем куфар. Вось ляжыць, на памяць, пялюшка першынца. Тут жа ляжаць розныя вышытыя ручнікі, белыя вышытыя кашулі, безрукаўкі, спадніцы з сукна, так званыя "андаракі". Часам тканы андарак - гэта твор мастацтва. Урэшце фартухі. Іх насілі абавязкова. Убаку ляжаць некалькі тканых узорных настольніц. Тут жа дываны, тканыя па лёне воўнай. Тут хусткі. Цёмныя на жалобу, ясныя на свята, у гасціну.

...Ідзе жыццё замужняй жанчыны. У куфры некаторыя рэчы яе, мужа, іншых членаў радзіны. Асобна зберагалася верхняя вопратка, як мужчынская, так і жаночая: кажухі і кужушкі, буркі, тоўстыя і доўгія паліто з капюшонам для зімовай дарогі, світкі рознага колеру. Не трымаліся ў куфры валяныя шапкі і абутак.

А паясы ляжалі ў куфры. Побач з імі адгароджана месца для прыкрас. Тут завушніцы, пярсцёнак, каралі, часам сапраўдныя з каралаў ці нават бурштыну, гранату ці штучнага жэмчугу, а то і проста шкляныя.

І, урэшце, апошняе аддзяленне куфра, прыскрынак. Пад ім скла-

дзены фартух,андарак,кашуля,абутак, хустка. Гэта - апошняя сіротная вопратка.Усё гэта загадзя адкладзена,"каб не патрабаваць чужое ласкі".Адкладзены нават грошы,што спатрэбяцца на ўсё, нават на тое,каб людзі сышліся на трызну і памянулі дабром.

## Прыметнік,ступені параўнання

2. Прааналізуйце табліцу і зрабіце вывад,як утвараюцца ступені параўнання якасных прыметнікаў.

### Вышэйшая ступень

| Простая форма | Складаная форма |
|---|---|
| малады - маладзейшы    за каго?<br>стары - старэйшы    за што?<br><br>Запомніце!<br>добры - лепшы<br>дрэнны<br>горшы<br>кепскі<br>вялікі - большы<br>малы - меншы | шчаслівы: больш / болей → шчаслівы<br><br>знакаміты: меньш / меней → знакаміты |

### Найвышэйшая ступень

| Простая форма | Складаная форма |
|---|---|
| вясёлы - найвясялейшы<br>моцны - наймацнейшы | працавіты - самы / найбольш / найменш / вельмі / надзвычай / надта - працавіты |



3. Карыстаючыся табліцай,утварыце розныя ступені параўнання ад наступных прыметнікаў:

передавы,складаны,просты,цяжкі,вядомы,цікавы,шчаслівы,
уважлівы,дысцыплінаваны,адукаваны,прыемны.
Выкарыстайце некаторыя з іх у сказах.

4. Успомніце прыметнікі,якія ўжываюцца пры апісанні рыс характара чалавека. Утварыце ад іх ступені параўнання.Скажыце, каго з вашых знаёмых вы больш любіце,паважаеце? Чаму?

5. Складзіце невялікія расказы, у якіх параўнайце быт /жыллё, адзенне,адносіны паміж людзьмі/ старажытнай Беларусі з нашым сучасным жыццём .

6. Дайце параўнальную характарыстыку сучаснаму і старажытнаму Мінску.Выкарыстайце,калі гэта магчыма, наступныя прыметнікі ў розных параўнальных формах:

старажытны,адметны, паважлівы, просты, знакаміты, вялікі,
ганебны, дарагі, магутны, незвычайны, уласны, дабрачынны.

## III. ЛЕКСІЧНАЯ ТЭМА "ЗНАКАМІТЫЯ ЛЮДЗІ БЕЛАРУСІ".

С.1 - Як пісаў вядомы рускі паэт,Расійская зямля здольна раджаць і "собственных Платонов и быстрых разумом Невтонов". Але, мне здаецца, гэтага нельга сказаць аб зямлі беларускай.

С.2 - Зусім не так.Беларусь і сапраўды доўгія дзесяцігоддзі лічылася "бясплоднай нівай" на сваіх ламаносавых,пушкіных і мендзялеевых.Многія былі ўпэўнены ў тым, што беларуская зямля не дала міру талентаў, падобных да першадрукара Івана Фёдарава ці пісьменніка Фёдара Дастаеўскага, вядомых асветнікаў.

С.3 - Між іншым,як высветлілася, Іван Фёдараў - выхадзец з Беларусі, а карані Фёдара Дастаеўскага - у беларускім Палессі.

С.2 - Прабачце,але я хачу закончыць сваю думку.Відавочна,што зямля гэта дала ў свой час і геніяў.Возьмем, напрыклад,Францішка

Целіконта Нарвойша.У XVIII стагоддзі імя гэтага таленавітага інжынера і матэматыка, нарадзіўшагася ў Беларусі, было шырока вядома ў Еўропе,напрыклад, у Галандыі, Англіі, Германіі. Нарвойш быў прафесарам Віленскай акадэміі, першым на беларускай зямлі выкладчыкам матэматыкі.Дзякуючы яго навуковой дзейнасці Віленскі ўніверсітэт стаў адным з вядучых цэнтраў навуковай думкі ў Еўропе.

С.3 - А ці вядома вам, што ў 1650 г. у Амстэрдаме ўбачыла свет кніга "Вялікае мастацтва артылерыі", напісаў яе наш суайчыннік, генерал-лейтэнант артылерыі Казімір Семяновіч. На працягу паўтара стагоддзя кніга была ў Еўропе самай грунтоўнай і аўтарытэтнай навуковай працай па артылерыі і піратэхніцы.Вядомы яе пераклады на французскую,нямецкую,ангельскую мовы. Амаль у кожнай працы, прысвечанай артылерыі і піратэхніцы, напісанай у другой палове XVII ст. і ў XVIII ст., можна знайсці звесткі,узятыя з яго твора,аднак не заўсёды са спасылкай на першакрыніцу.

С.4 - Дарэчы,ці чулі вы пра Льва Сапегу?Гэты чалавек увайшоў у гісторыю Беларусі як палітык еўрапейскага маштабу,таленавіты юрыст і дыпламат. Больш трэці стагоддзя Леў Сапега быў канцлерам ВКЛ. Яму належыць,бадай, галоўная роля ў падрыхтоўцы і выданні Статута ВКЛ /1588/ - самага перадавога па свайму часу звода феадальнага права ў Еўропе.Статут быў выданы на старабеларускай мове і дзейнічаў на тэрыторыі Беларусі да 1840 г./больш двух з паловай стагоддзяў/.

С.5 - Безумоўна,усе гэтыя людзі заслугоўваюць таго, каб аб іх гаварылі.Але давайце вернемся ў даўніну, у XII ст. На маю думку, нельга не сказаць пра князёўну Ефрасінню Полацкую, якая нарадзілася каля 1110 года ў сям'і полацкага князя Святаслава-Георгія, малодшага сына Усяслава-Чарадзея.Звалі яе тады Прадславай. Слава аб яе прыгажосці і адукаванасці разнеслася "па всем градам", і ў Полацк зачасцілі сваты.

С.3 - Прабачце, што перапыняю вас.Я чытаў урыўкі з "Жыцця Ефрасінні Полацкай" і ведаю, што гэта была дзяўчына незвычайнай прыгажосці, уладальніца дапытлівага і вострага розуму, першая нявеста горада, рукі якой дабіваліся і свае князічы, і чужаземныя прынцы.Чаму ж у такім разе яна пастрыглася ў манахіні? Стала Ефрасінняй Полацкай?

С.5 - Шчыра кажучы, гэта адна з таямніц, якімі акружана яе імя.Прадслава таемна ад бацькі прыняла пострыг.Магчыма, яна не хацела паўтарыць звычайны для жанчыны лёс. Дарэчы, некаторыя гісторыкі лічаць, што яна такім чынам жадала пазбегнуць высылкі на чужыну. Справа ў тым, што за адмову ісці ў паход на полаўцаў кіеўскі князь Мсціслаў выслаў полацкіх князёў у Візантыю.Сярод іх летапіс называе і бацьку Ефрасінні, разам з ім мусілі пакінуць радзіму яе маці і малодшая сястра.

С.1 - Усё гэта вельмі цікава, але не дастаткова, каб паставіць яе імя побач з імёнамі тых, аб кім гаварылі раней.

С.3 - Цяжка не пагадзіцца з такім падыходам."Жыццё" сведчыць аб тым, што Ефрасіння перапісвала царкоўныя кнігі і перакладала іх з іншых моў.

С.1 - На маё ўяўленне, перапісваць кнігі - справа не хітрая.

С.3 - Я так не лічу. Па-першае, кнігі Ефрасіння пачала перапісваць яшчэ ў юнацтве. Па-другое, працэс пісьма ў той час быў вельмі складаны і марудны.Кнігі пісалі на пергаменце ўставам - буйным і прамым почыркам, у якім кожная літара не пісалася, а малявалася, аддзялялася ад суседняй. Пачатковыя літары трэба было аздабляць жывёльнымі ці расліннымі арнаментамі. Крыніцы сведчаць, што тагачасны перапісчык часта пісаў не на стале, а на далоні левай рукі, абапіраючыся локцем аб калена. Гэтай працай займаліся амаль выключна мужчыны. Акрамя таго, частка кніг ішла на продаж, а грошы па просьбе Ефрасінні раздавалі бедным.

С.5 - Я хачу дадаць, што калі Ефрасіння заснавала пад Полацкам жаночы і мужчынскі манастыры, пад яе кіраўніцтвам пачалі дзейнічаць майстэрні па перапісванню кніг. Тут існавала спецыялізацыя: падзел працы значна павялічваў не толькі колькасць кніг, але і іх мастацкі ўзровень.

С.2 - Ці стварыла асветніца ўласныя кнігі?

С.3 .- Некоторые гісторыкі звязваюць з імем Ефрасінні полацкае летапісанне і заснаванне бібліятэкі Сафійскага сабора, страчаный у гады Лівонскай вайны.

С.5 - Трэба адзначыць, што важнае месца ў жыцці нашай зямлячкі належала педагагічнай дзейнасці. Ефрасіння рупілася, каб вучні манастырскіх школ разам з граматаю навучаліся "чистоте душевной и бесстрастию телесному".

Акрамя таго, яна выступала ў ролі збіральніцы талентаў, своеасаблівай мецэнаткі. Вялікім быў уплыў князёўны-ігуменні на палітыку Полацка. Яна выступала супраць княскіх усобіц, папярэджвала, што братазабойныя войны могуць прывесці радзіму да гібелі.

С.1 - Калі папраўдзе, я не разумею, чаму мы так мала ведаем пра дзейнасць Ефрасінні Полацкай.

С.3 - Як вядома, дзеля умацавання свайго аўтарытэту царква звычайна абвяшчала выдатных дзеячаў гісторыі і культуры святымі /напрыклад, Аляксандра Неўскага/. Ефрасіння таксама стала адной з першых кананізаваных жанчын на ўсходнеславянскіх землях. У свой час гэты факт быў вялікай перашкодай у папырэнні праўдзівых звестак пра яе. Доўгі час дзейнасць славутай палачанкі абвяшчалі выключна рэлігійнай, называлі яе цемрашалкаю.

С.2 - Прыемна даведацца, што Ефрасіння Полацкая не схавалася за манастырскімі сценамі ад свецкіх клопатаў, а, наадварот, брала чынны ўдзел і ў культурным, і ў палітычным жыцці.

С.6 - Дарэчы, мы не закранулі такую галіну, як мастацтва ў Беларусі. Геніем называюць Вітольда Бялыніцкага- Бірулі. Мастаўнікамі гэтага мастака, нарадзіўшагася 170 год назад недалёка ад мястэчка Бялынічы, на Магілёўшчыне, былі Каровін, Паленаў. Яго палотны займеў для зайй галерэі П.Траццякоў.

С.7 - На мой погляд, можа стварыцца ўражанне, што ўсе гэтыя знакамітыя людзі жылі вельмі даўно, а наша стагоддзе менш слаўнае. Таму мне хочацца ўспомніць пра мастака Рамана Семашкевіча, чые палотны зараз знаходзяцца ў Траццякоўскай галерэі, у Музеі выяўленчага мастацтва ў Маскве, у рускім музеі Санкт-Пецярбурга, у Дзяржаўным мастацкім музеі Мінска, у Чабаксарах, Таганрозе, Яраслаўлі. Пражыў ён толькі 37 год, загінуўшы трагічна ў 1937 годзе. А нарадзіўся ён недалёка ад Маладзечна.

С.4 - Я ўпэўнены, што трэба сказаць добрыя словы і пра нашага першадрукара Францыска Скарыну. Ён жа амаль на 50 год раней за Івана Фёдарава выдаў сваю першую кнігу /1517г./.

С.8 - Я мяркую, што ў гэтай сувязі трэба ўспомніць і пра Спірыдона Собаля. Імя гэтага кнігадрукара і языказнаўцы ўвайшло ў гісторыю айчыннай народнай адукацыі. У 1630 г. ён пачаў выдаваць кнігі вялікімі па тым часе тыражамі - некалькі сотань экземпляраў. Гэтыя кнігі расходзіліся не толькі ў Беларусі, але і ў Расіі, і ў еўрапейскіх дзяржавах.

Дарэчы, аршанскі друкар у 1631 г. выдаў "Буквар сиречь начало учения детям начинающим чтению извыкати". Гэта кніга была першым у свеце букваром.

С.4 - Трэба адзначыць, што друкарская справа, пачынаючы з XVI ст., была шырока развіта на беларускай зямлі і ненавіта адсюль яна пачала распаўсюджвацца на Усход.

С.5 - Прыемна даведацца аб тым, што Беларусь ніколі не была на задворках цывілізацыі ў культуры, навуцы.

С.8 - Так. Безумоўна, факты, імёны, названыя ў нашай гутарцы, сведчаць аб гэтым.

- Ці ўдалося даказаць удзельнікам гутаркі думку, што і на зямлі беларускай нарадзілася шмат таленавітых людзей?
- Каго з іх, на ваш погляд, можна назваць геніем?
- Ці можна ў адзін рад з імі паставіць імя Ефрасінні Полацкай?
- Ці ўразілі вас якія-небудзь факты з яе жыцця?
- Якую ролю ў культурным жыцці рэспублікі сыгралі асветнікі?
- Калі б вас спыталі аб знакамітых людзях Беларусі, аб кім вам хацелася б паведаміць?

## Дадатковы матэрыял

### Вялікае мастацтва артылерыі

Пра Казіміра Семяновіча да нас дайшло, на жаль, вельмі мала звестак. Асноўнай крыніцай адназлення яго жыццяпісу служыць кніга "Вялікае мастацтва артылерыі".

Мяркуючы па дакументах, Семяновіч паходзіць з роду дробных князёў Семяновічаў, якія ў XIV-XVI ст.ст. жылі на Беларускім Падняпроўі. Нарадзіўся ён каля 1600 года. Бацькі хацелі накіраваць Казіміра да заняткаў палітыкай, аднак ён пачаў спасцігнуць таямніцы вайсковай службы, асабліва артылерыі. Сам К.Семяновіч пісаў:"Дзякуючы разумным парадам сяброў і ўласным роздумам я зразумеў, што ніколі не здолею дасягнуць пастаўленай мэты, калі буду вывучаць гэта мастацтва без сістэмы... Для гэтага я вывучаў шмат навук, як выказаных /арыфметыку, геаметрыю, механіку, графіку, оптыку, тактыку/, так і механічных. Засвоіў я таксама поўныя звесткі з фізікі, хіміі". Трэба дадаць, што цікаўнасць і практычнасць вымусілі Семяновіча асвоіць і некаторыя важныя рамёствы, напрыклад, людвісарства - майстэрства адліўкі гармат з металаў, разьбярства па дрэву і металу.

Гарматнікі ва ўсе часы лічыліся на вайне найважнейшымі персонамі. Семяновіч браў удзел у вайне Рэчы Паспалітай з Маскоўскай дзяржавай. Затым быў удзельнікам бітвы войска Рэчы Паспалітай з татарамі ў 1644 г.

Пасля гэтага ён выязджае ў Нідэрланды, каб навучацца вайсковай справе. Тут ён атрымаў магчымасць блізка пазнаёміцца з багатай еўрапейскай літаратурай пра артылерыю і піратэхніку, з кнігамі па гісторыі і культуры. Затым Семяновіч займае пасаду інжынера ў войску Рэчы Паспалітай, пазней становіцца намеснікам начальніка артылерыі. Асаблівай ўвагі гісторыкаў навукі і тэхнікі заслугоўвае невялікі раздзел кнігі Семяновіча "Аб ракетах", у якім змяшчаецца апісанне канструкцый і спосабаў вырабу некалькіх дзесяткаў тыпаў ракет. Тут і ракеты з хордкай ў якасці стабілізатара, ракеты з хваставымі стабілізатарамі - крыламі, ракеты, што запускаюцца з спецыяльных станкоў, ракеты, якія бегаюць па вадзе або плаваюць і раскідваюць іскры, ракеты, што рухаюцца туды і назад па вяровачках і інш. Асаблівую цікавасць выклікаюць шматступеневыя ракеты - далёкія продкі сучасных касмічных працоўнікоў.

Многія з апісаных Семяновічам ракет былі вядомыя яму з літаратурных крыніц, многія ўпершыню прапанаваныя ім, у тым ліку і шматступеневыя ракеты. І, такім чынам, доўгая спрэчка пра тое, хто вынайшаў шматступеневую ракету - ці гэта быў рускі вучоны К.Цыялкоўскі, ці бельгійскі інжынер Р.Бінг /узяў патэнт на такую ракету ў 1911 г./ ці амерыканскі вучоны Р.Годард /патэнт 1914г./- вырашаецца крыху нечакана: канструкцыю шматступеневай ракеты ўпершыню апісаў у сваёй кнізе ў 1650 г. вайсковы інжынер К.Семяновіч.

Яшчэ адным істотным адрозненнем раздзела аб ракетах ад належных у тым часе дапаможнікаў па піратэхніцы з'яўляецца поўнае, без сакрэтаў і недагаворванняў, апісанне метадаў вырабу ракет і параховых сумясяў да іх. Аўтар горача выступае супраць тагачаснай практыкі засакрэчвання рамеснікамі сваіх ведаў. "Я ўсё тут паведамляю, - піша ён, - не палохаючыся крыўкання балотных жаб".

Шматлікія эксперыменты прывялі Семяновіча да высновы, што форма знешняга контуру ракеты істотна ўплывае на ўстойлівасць і далечыню яе палёту. Вынікам гэтых доследаў было ўвядзенне новага параметра, важнага для аэрадынамічных уласцівасцяў ракеты,- адносін яе дыяметру да даўжыні.

Завяршаецца раздзел аб ракетах рэкамендацыямі па канструяванні, якія не страцілі свайго значэння да нашага часу /прынамсі, для невялікіх цвёрдапаліўных ракет/. Вось некаторыя з гэтых рэкамендацый: форма ракет мусіць мець вышыню, прапарцыянальную дыяметру выходнай адтуліны; прасвідраваную адтуліну неабходна зрабіць па магчымасці роўнай, прычым пасярэдзіне сумесі; не трэба змушаць ракеты падымацца угару вялізны і непрапарцыянальны іх сілам цяжар.

Рэкамендацыя Семяновіча па прадухіленню кулення ракеты падчас палёту змяшчае закон захавання моманту імпульсу. Адзначаецца залежнасць супраціўляльнасці паветра ад формы знешняга контуру ракеты. /Пытанні руху целаў у асяроддзях, якія супраціўляюцца руху, распачалі сістэматычна вывучаць толькі ў канцы XVII ст./

У сваёй кнізе Семяновіч апісвае ўніверсальную гарматніцкую прыладу, назвы якой ён не даў. "Гэта мая новая вынаходка, у якой змяшчаюцца ўсе нашы веды. ...з яе дапамогаю замяраем згодна вагамеру калібр гарматных ствалоў; адзначаем вагу і памеры як вадкіх, так і сыпкіх рэчываў і меры адлегласці; нацэльваем гарматы; падымаем або апускаем і маем дакладна перад вачыма моц гармат пры тралкім нацэльванні; ... адмяраем адлегласць, месца, вышыню і глыбіню аб'ектаў".

Нарнуючи па ўсім, ім была вынайдзена антычна-механічная прылада накшталт нівеліра.

Кніга К.Семяновіча на многія гады прадвызначыла шляхі развіцця еўрапейскай артылерыі, лягла важкай цаглінай у падмурак будучага касмічнага ракетабудавання.

- Якія факты з жыцця К.Семяновіча даюць падставу аднесці яго да знакамітых людзей нашай рэспублікі?
- Ці з усімі меркаваннямі і рэкамендацыямі, зробленымі вучонымі, вы згодны? Абгрунтуйце свой адказ.
- Складзіце дыялог на тэму "Шлях да вядомасці".

## IV. НЕПАДРИХТАВАНАЯ ГУТАРКА

### Адлюстраванне быту, традыцый беларусаў у фразеалагізмах

Паданні і вераванні, як агульнаславянскія, што паходзяць яшчэ ад язычаскай пары, так і больш позніх, з'яўляюцца вытокамі многіх уласнабеларускіх фразеалагізмаў. Старажытны чалавек верыў у існаванне розных фантастычных істот. Асінавыя калы і галлё, згодна з павер'ем, з'яўляліся неад'емным атрыбутам чараўнікоў. Таму з асіны людзі не будавалі нават куранёў, не гацілі ёю грэблі. Прыгодная яна была хіба толькі для шыбеніцы. Павер'е даўно знікла, але фразеалагізмы ўбіць асінавы кол "пакончыць з чымнебудзь назаўсёды", асіна плача "хтосьці заслугоўвае пакарання" жывуць у мове і сёння.

На аснове старажытных паданняў або павер'яў утварыліся фразеалагізмы скрывіцца як серада на пятніцу " выразіць незадавальненне", куку ў руку "хабар, звычайна грашовы", рукой пайсці "добра весціся, гадавацца"/пра жывёлу/, хоць у пятніцу "у любы момант". Чаму серада "крывілася" на пятніцу? Гэтыя дні былі поснымі. Есці малочнае і мясное забаранялася. Выходзіла, што чалавек не пад'ядаў як след у сераду, а тут " на носе" пятніца. А ў пятніцу пасцілі яшчэ больш строга, чым у сераду. Таму серада мела падставы крывіцца на пятніцу.

Пятніца з часоў язычніцтва была нерабочым днём. Гэта традыцыя захоўвалася на Беларусі доўгі час. Яшчэ ў канцы мінулага стагоддзя ў пятніцу нельга было шыць, купаць дзяцей, мыць бялізну, спраўляць вяселле / хто ў пятніцу спявае, той у нядзелю адплача/.

Выслоўе куку ў руку склалася на аснове прыказкі "схавай тры грошы ў руку на куку". Узнікненне прыказкі звязваюць са старажытным павер'ем: каб шчасце спадарожнічала чалавеку ўвесь год, трэба было, пачуўшы першае "куку", зазвінець манетамі ў руцэ ці ў кішэні. Пазней "куку" стала асацыіравацца з таемным падарункам: суні яму "куку" у руку, і справа пойдзе добра.

Выраз рукой пайсці паходзіць з даўняга павер'я пра "лёгкую" руку. Напрыклад, калі прадаеш каня ці карову, каб "пайшло рукой", не трэба перадаваць іх новаму гаспадару голымі рукамі. У такім разе "б'юць па руках" і перадаюць купленае "касматай рукой", г.зн. захінуўшы руку крысом адзення.

На Украіне і ў Беларусі быў вядомы звычай даць гарбуз таму, хто сватаецца, калі ён не падабаецца дзяўчыне і яна не хоча ісці за яго замуж. Гэты звычай знайшоў адлюстраванне ў фразеалагізме даць гарбуз.

Дзякуючы многім фразеалагічным адзінкам можна ўявіць сабе і некаторыя дэталі даўнейшага быту беларусаў. Напрыклад, якая існуе сувязь паміж выразам кляваць носам, драпаць седзячы і фразеалагізмам табаку важыць? Аказваецца, табаку важылі на маленькіх шаліках, вельмі адчувальных нават да шчопця табакі. Яны доўга хадзілі то ўверх, то ўніз, пакуль не ўсталёўвалася раўнавага.

Узнікненне выслоўя як жару ўхапіўшы бегчы /хутка, спяшаючыся/ таксама абумоўлена некаторымі асаблівасцямі сялянскага быту: некалі людзі бераглі запалкі, і сусед да суседа бегаў узяць агню, жару, каб распаліць у печы. Бегчы трэба было хутка, каб не згарэлі вугольчыкі.

Выслоўе у свінняў галасы "позна" /калі свінні вішчаць, падаюць галасы/ узнік, відаць таму, што свінні прачынаюцца пазней за іншых жывёл /кладзецца з курамі, а ўстае са свіннямі/, бо карміліі іх пазней за другіх жывёл, для якіх не трэба было варыць у печы.

Фразеалагізм загаворваць зубы таксама дае магчымасць зазірнуць у даўніну і ўбачыць адзін са спосабаў лячэння зубоў.

## V. ХВІЛІНКА АДПАЧЫНКУ

1. Раней пры кожнай хаце на задворках было г[illegible]но, а то і

дна з сумнавый – земляны,гладка ўбітым токам. Адсюль вымалачаны хлеб ішоў у засекі клуні.Гумно было нібы сімвалам гадавой працы селяніна.

Вось адзін з самых сумных і,аднак,самых аптымістычных беларускіх анекдотаў.

Згарэла гумно, поўнае снапоў.Згарэла праца за цэлы год. Гаспадар стаіць на папялішчы і бядуе:"Ой, і пагарэў ты,Яўхім! Вой, і пагарэў жа !!! Ну й пагарэў !!! – і раптам. – Але ж затое і мышэй высмаліў!!!"

/Паводле У.Караткевіча/

2. Не кожны такі кемлівы

Ішоў адзін чалавек, а насустрач яму кум.

- Што вязеш, куме?

- Пачакай, зараз скажу.

Кум злез з воза, падышоў і на вуха шэпча:

- Авёс.

- А чаму ты па сакрэту мне гаворыш?

- Каб конь не пачуў.

3. Свежая капейка

- Быў на базары?

- Быў.

- Што ж ты купіў?

- Казу.

- Колькі даў?

- Сем кап.

- А дзе ж яна?

- А хто?

- Ды каза за сем кап.

- Дык прадаў.

- А за колькі?

- За пяць кап.

- Навошта ж столькі страціў?

- Нічога, што страціў, абы свежая капейка!

4. Буду жаніцца

Зігмусь пасля многіх сустрэч і пацалункаў з Марыляй аднойчы [illegible] да бацькі і заявіў:

- Буду жаніцца...

- Дык цудоўна,сыне ... – усхапіўся з крэсла пан Тадэвуш.- Даўно пара за розум брацца ... – і ён ад радасці стаў бегаць з пакоя ў пакой.

- Яня,Яня, чуеш ... Хадзі сюды хутчэй ...

І калі яна, задыхаўшыся, прыбегла, Тадэвуш кіўнуў Зігмусю:

- Ну,ну, скажы ёй, хай сама ад цябе пачуе...

- Жаніцца буду ... – спакойна паўтарыў Зігмусь нейк абыякава.

- Ах, жаніцца ... – уздыхнула Яніна і падышла да крэсла,але не садзілася, а толькі паклала рукі на спінку і ўся нейк наструнілася. – Ну,дык гэта ж добра, вельмі добра ... Але ж каго,каго?!

Ага ... Каго ж ты хоць нагледзеў? – не стрымаўся Тадэвуш і аж выцягнуў шыю. – Ці не Янавічову Юзэфу часам?

Праўда, ён адразу асёкся і пашкадаваў, што паспяшаўся.Трэба было нейк асцярожней, далікатней, бо пры адным толькі ўпамінe пра Юзэфу ў Зігмуся так зморшчыўся твар, нібы ён укусіў кіслы яблык.

- Не, татусь, не Юзэфу ... Я выбраў сабе першую прыгажуню ў свеце, такую, якой не толькі ў нашым краі, але і ў самім Парыжы не знойдзеш ...

/ В.Дайліда.Мне – пару слоў/

Д/З * Прачытайце тэкст "Францыск Скарына з слаўнага горада Полацка"./"Беларуская мова.Тэксты для чытання",стар.33/.

*Знайдзіце адказы на пытанні:

1. Што дало магчымасць Скарыне займацца асветніцкай дзейнасцю?

2. Што вядома аб першых кнігах Скарыны?

3. Чаму менавіта "Біблія" была выбрана для пашырэння асветы сярод суайчыннікаў?

4. Якую ролю адыгрывалі прадмовы, тлумачэнні,якія суправаджалі кнігі "Бібліі"?

5. Чаму Скарыну лічаць выдатным дзеячам культуры ўсіх усходне-славянскіх народаў?

* Задайце дадатковыя пытанні па зместу тэкста адзін з таварышаў па групе.

## УРОК 11

Тэма : Асабовыя, прыналежныя займеннікі.
Беларуская нацыянальная кухня.
Незнаёмыя лёсы.

### I. НЕПАДРЫХТАВАНАЯ ГУТАРКА

Хлеб - усяму галава

Сёння мы пагутарым пра беларускую кухню. Інтэрнацыянальнай стравай, асновай усяго, лічаць хлеб. Пшанічны, як на поўдні, у нас пякуць рэдка. Беларус любіць чорны хлеб і сумуе па ім, трапіўшы туды, дзе яго няма. Раней пяклі яго на капусных ці кляновых лісцях, а пасля, спрыснуты вадой, астываў ён пад ручніком, напаўняючы хату найлепшым у свеце пахам.

Дарэчы, ад хлеба і вылячэнне. У незапамятныя часы беларус заўважыў, што плесня, якая ўтвараецца ў дзежцы на рошчыне летам, - у гарачую пару, калі хлеб не пякуць, - загойвае нават раны, ад якіх можа пачацца гангрэна. Колькі трэба было ісці чалавецтву, пакуль яно вынайшла пеніцылін.

Улетку, калі дарагая кожная хвілінка, елі праснакі /прэсны хлеб/. Да белага ставіліся ў даўніну крыху недаверліва, але пірагі заўсёды любілі. З яблыкамі, макам, чарніцамі.

Хлеб даставаўся цяжка. Кінуць яго быў смяротны грэх. Абраніўшы, трэба было падняць кавалак, пацалаваць і сказаць: "Даруй, божухна".

Бульба-другі хлеб. Беларусы ведаюць каля тысячы страў з бульбы. Ад звычайнай, печанай, - да клёцак з душамі /начыненыя мясам/, да бульбы, фаршыраванай сушанымі грыбамі і запечанай у гарачай печы.

Цяжка было раней, калі яшчэ не было бульбы. Тады замест



яе былі параная рэпа, бручка ці нешта іншае.

Ну а што да хлеба?

Раней беларускія магнаты частаваліся "ласінымі губамі ў падсалоджаным воцаце", "бабровымі хвастамі".

Нават кухарская кніга XIX ст. "Гаспадыня літоўская", якая прызначана для сярэдніх класаў, дае тысячы рэцэптаў дужа складаных страў.

А што ж у нас на першае?

Боршч раней варылі досыць рэдка. Галоўнай была "капуста" з кіслай ці свежай капусты. Затым ішлі "поліўка" - дужа тлусты гарачы суп, падбоўтаны мукой, "панцак" - перлавы суп з грыбамі. "Булён". Адкуль такая назва, ніхто не ведае. Гэта проста бульбяны суп, зашкварыны салам, а зусім не французскі "бульён". Лапша з курынымі патрахамі. Супы па сезону - шчаўе, маладая крапіва з яйкамі, славуты халаднік. І ўрэшце квас, род боршчу з буракоў. У яго клалі мяса, грыбы і інш. Я.Колас пісаў:

Аздоблен квас быў і грыбамі
/Выключна ўсё баравічкамі/
..........................
Цыбуля, перчык, ліст бабковы -
Ну, не ўясісь, каб я здаровы!

На другое, вядома, каша. Робяць у місцы з кашай "калодзеж", наліваюць туды падліву з мясам і чэрпаюць. "Калодзеж" шырыцца, і туды даліваюць, аж пакуль не зробіцца адна суцэльная "студня" з мяса. Тады яе з'ядаюць лыжкамі і просяць яшчэ.

Калдуны нагадваюць вялікія і доўгія пельмені, можна з грыбамі, а можна з цёртай бульбы. Проста яешня "глазуха" і яешня, запечаная з мясам і салам у гаршку - "верашчака".

Мачанка з блінамі - гэта своеасаблівая падліва з мяса, рабрынак і сала, падбоўтаная мукой, у якую мачаюць бліны.

Цяпер пра мяса. Раней галоўным было сала, прычым асаблівым шыкам лічылася е ці "сала на повен рот, а хлеб толькі для смаку". Зараз жа сала ўсё больш саступае месца летнім і зімнім каўбасам, паляндвіцам, вэнджанай ў хатняй капцільні шынцы.

У азёрных і балотных мясцовасцях любяць качак, запечаных з прыправамі ў гліне. Гэта на паляванні.

З рыбы вараць "юшку", празрыстую, без тлушчу. З цыбулі здымаюць толькі верхнія сухія жоўтыя лупайкі. Ніжнія жоўтыя, яшчэ жывыя, не здымаюць. Часам робіцца юшка " у двае ці ў тры рэдзі".

Спачатку варацца акуні ці ярші, потым іх вымаюць і тады ў адвар кладзецца "сапраўдная рыба": ляшчы, сцерлядзь, калі трапіцца.

Ракаў ядуць не ўсюды.

Любяць беларусы кіселі,узвары, мочаныя яблыкі,суніцы і чарніцы з малаком.

Нацыянальныя беларускія напоі - гэта квас, асабліва бярозавік. Бярозаваму соку даюць закіснуць, тады ён зберагаецца ў бочцы ад жніва.

Зараз ежа розных народаў, як вопратка, і жыллё, усё больш і больш падпадае стандарту. Забываецца непаўторнасць і адметнасць кухні той мясціны, адкуль мы родам.А да канца пра гэта забываць нельга.

* Ці згодны вы са мной? Абгрунтуйце свой адказ.
* Што б вы хацелі мець на стале з беларускай кухні?Чаму?

II. ФАНЕТЫКА.ГРАМАТЫКА

1.Прачытайце ўрыўкі з паэм, правільна вымаўляючы галосныя гукі, зычныя і іх спалучэнні.

/Апісанне гулянкі багоў з "Тараса на Парнасе"/:

Вось затраслася ўся гара:
Зевес на печы заварухнуўся,
Зяўнуў і духа пацягнуўся
Ды кажа:"Есці ўже пара!"
Прыгожа дужа дзеўка Геба
Гарэлкі ў чаркі наліла
І, як жаром, бухатку хлеба,
Прынесшы,- бразь! сярод стала!
Во, з усяго сабраліся неба!
Як тараканы каля хлеба,
Багі паселі ўкруг стала,
І стравы смачны з печы Геба
Насіць да столу пачала.
Наперш дала яна капусту,
Тады са шкваркамі кулеш,
На малацэ крупеню густу
Дае ўволю, толькі еж.
І з пастаялкай жур сцюдзёны,



А з кашы сала аж цякло,
Ды і гусяціны пражонай
Уволю ўсім багам было.
Як уняслі ж на стол каўбасы,
Бліны аўсяны ў рашаце,
Аж слінкі цяклі ў Тараса
І забурчала ў жываце.
Гарэлку піць багі пачалі,
З насадкі ў чаркі так і льюць
Падпіўшы, песні заспявалі.

/ Я.Колас."Новая зямля"./

Залысіў дзядзька дрэва злёгку,
Зрабіў заруб, латок прыправіў,
А пад латок гаршчок паставіў.
І соку кропелькі, як слёзы,
Як град, пасыпаліся з бярозы.
..........................

І дзядзька тут жа, распрануўшысь,
Сядзеў на пуні́шках, сагнуўшысь.
Прад ім стаяў гаршчок, і міска,
І кошык з бульбай, тут жа бліска
Відзён і збан біў паліваны,
Да палавіны ў дол укапаны,
Кружочкам шчыльненька накрыты...
..........................

Наўкол пляменнікі сядзелі,
На дзядзьку пільна ўсе глядзелі,
Як ён, рукавы закасаўшы,
На тарцы шоргаў, шапку зняўшы.
...дзядзька бульбу драў на клёцкі,
Каб згатаваць не па-хаЛоцку.
..........................

А сок біў свежы, такі хвацкі,
Такі салодкі, забіяцкі!
........................

Глядзелі хлопцы,як на дзіва,
Як дзядзька, цеста замясіўшы,
Качаў галушкі,міску ўзяўшы,
А чыгунок,бы пан пузаты,
Кіпіць,пыхціць,шуміць заўзята,
Бо не з вадою ён, а з сокам..
........................

А хлопцы нават паўставалі,
У чыгунчык вочы паўстаўлялі,
Глядзяць, не моргнуць яны вокам:
Эх,мусіць, смачны клёцкі з сокам!
- Ну,дзядзька, можа, і гатова?-
Не сцерпеў Костусь, мовіў слова.
- Які ты, хлопча, нецярплячка!
Няхай цябе затопча качка!
........................

І стаў на клёцку дзядзька дзьмухаць;
пакаштаваць каб было можна,
І ў рот падносіць асцярожна.
Замерлі хлопцы,ані зыку:
Мінута важна і вяліка.
........................

Пацмакаў дзядзька і ўсміхнуўся,
Зірнуў на хлопцаў,адвярнуўся -
І тут, нічога не сказаўшы,
Як плюне дзядзька,памахаўшы!
Трах у чыгунчык ён нагою!
........................

А хлопцы проста збіліся з тропу
І ў нейкім страсе і ў захопу
На дзядзьку-кухара глядзелі.
........................

- Ну,дзядзька,як на смак, признайся?
- Паскудства, брат, і не пытайся!



## Займеннік

Асабовыя: я,мы, ты, вы, ён, яна, яно, яны
Зваротны: сабе
Прыналежныя: мой, твой, свой, наш, ваш, яго, яе, іх, іхні, яго, ягоны. Пазнаёмімся з табліцай скланення гэтых займеннікаў.

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Р. | мяне | цябе | сябе | нас | вас | яго | яе | іх |
| Д. | мне | табе | сабе | нам | вам | яму | ёй | ім |
| В. | мяне | цябе | сябе | нас | вас | яго | яе | іх |
| Т. | мной/-ою/ | табой/-ою/ | сабой/ою/ | намі | вамі | ім | ёй/ёю | імі |
| Н. | аба мне | аб табе | аб сабе | аб нас | аб вас | аб ім | аб ёй | аб іх |

### Прыналежныя

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| Р. | майго,твайго,свайго | нашага,вашага | яго,яе,іх | ягонага | іхняга |
| Д. | майму | нашаму | яго,яе,іх | | |
| В. | мой,майго | наш,нашага | яго,яе,іх | -як прыметнік | |
| Т. | маім | нашым | яго,яе,іх | | |
| Н. | аб маім | аб нашым | яго,яе,іх | | |

2. Утварыце словазлучэнні,ужываючы асабовыя займеннікі ў патрэбных склонах.

Узор: дзякаваць, ён - дзякаваць яму.

перапрашаць, ты/каго?/; ажаніцца,яна/з кім?/; дзівіцца,мы /з каго?/; смяяцца, яны / з каго?/; дараваць, яна /каму?/; здзекавацца, ты /з каго?/; падобна, ён /да каго?/; заляцацца, яна /да каго/; баліць, ты /каму?; прапанова,вы / да каго?/.

3. Складзіце сказы з двума-трыма словазлучэннямі.

4. Пастаўце займеннікі ў патрэбных склонах.

## Незвычайны лёс Саламеі /1718 - 1760/

Старадаўнія архівы захавалі /мы/ цікавы гістарычны дакумент: "Пададзенае свету рэха падарожжаў і авантур /маё/ жыцця". Напісаны ён у Стамбуле ў 1760 г. беларускай лекаркай Саламеяй Русецкай. Якія шляхі прывялі /яна/ туды?

З ранняй маладосці /яна/ вабяць вандроўкі. Пярымслівы характар Саламеі, нечаканыя павароты лёсу кіруюць /яна/ ў розныя краіны – Турцыю і Аўстрыю, Расію і Малдову. /Яна/ ведалі як прыдворную акулістку ў турэцкага султана і ў расійскай імператрыцы. /Яна/ давялося трапіць да разбойнікаў у Балканскіх гарах і да імператрыцы "Святой рымскай імперыі" ў Вене.

Не маючы грунтоўнай адукацыі, адно дзякуючы / свае/ здольнасцям, /свая/ дапытлівасці і назіральнасці, С.Русецкая змагла набыць высокую на той час кваліфікацыю, вылечвала хворых людзей у , здавалася б, безнадзейных выпадках. Гэта не толькі давала сродкі для існавання, але і не раз ратавала /яна/ жыццё.

5. Зрабіце стылістычную праўку тэкста, устаўце неабходныя займеннікі.

## Агроном І.А. Сцебут /1833-1923/

Іван Аляксандравіч Сцебут у 1854 г. скончыў Горы-Горацкі земляробчы інстытут. За адну са ... студэнцкіх прац атрымаў залаты медаль. Сцебуту папанцавала пасля заканчэння інстытута застацца ў ... працаваць, а ў 1860 г. Сцебута выбралі прафесарам кафедры аграноміі.

Пад кіраўніцтвам Сцебута, які вывучаў агратэхніку вырошчвання палявых культур, упершыню ў гісторыі айчыннай аграномічнай навукі шырока вяліся вопытныя работы. Вопытныя дзялянкі Сцебута доўгі час з'яўляліся прыкладам эксперыментаў у аграномічнай навуцы.

Пасля закрыцця інстытута Сцебуту давялося працаваць у Пятроўскай земляробчай і лясной акадэміі ў Маскве. Тут Сцебут чытаў першы ў Расіі курс раслінаводства, напісаў некалькі навуковых прац.

Па ініцыятыве Сцебута ў 1904 г. былі створаны вышэйшыя сельскагаспадарчыя курсы.

Сцебут быў арганізатарам і рэдактарам часопіса "Русское сельское хозяйство" /1869-1875/.

6. Напішыце невялікае пісьмо ад знаёмага /сваяка.../ пра



тое, як вы хадзілі ў госці. У пісьме павінны быць: зварот, паведамленне, пытанні, пажаданні, прывітанні. Ужывайце займеннікі вы, ваш/ты, твой/ і інш., калі гэта магчыма.

7. Складзіце дыялогі пра чалавека цікавага лёсу /знаёмага, сваяка, суседа .../. Выкарыстайце займеннікі ў розных склонах.

### III. ЛЕКСІЧНАЯ ТЭМА "ЗАБЫТЫЯ ЛЁСЫ"

Прачытайце дыялог. Пазнаёмцеся з гутаркай, якая адбылася паміж людзьмі, якія цікавяцца лёсамі беларусаў.

К.1 – Зусім нядаўна мне падарылі зборнік твораў В.Пікуля. Там я сустрэў вельмі цікавае апавяданне "Таемны саветнік". Як аказалася, В.Пікуль прысвяціў яго Касовічу, які быў родам з Беларусі.

С. – На жаль, мне не ўдавалося прачытаць гэта апавяданне. І па праўдзе кажучы, я нават не чуў такога прозвішча. А хто ён такі?

К.1 – Каэтан Андрэевіч Касовіч вельмі цікавы і таленавіты чалавек. Ён валодаў у дасканаласці лацінскай і грэчаскай мовамі, асвоіў старажытнаяўрэйскую мову, калі вучыўся ў школе базыліянцаў. І само сабой, ён ведаў сваю родную мову, польскую, украінскую, рускую.

Дарэчы, цікавы факт. Калі ён вучыўся ў Маскоўскім універсітэце, то пазнаёміўся з В.Бялінскім.

С. – Скажыце, а чым жа ён славіцца?

К.1 – Галоўнае, што ён зрабіў, – гэта санскрыта-рускі і грэчаска-рускі слоўнікі. Створаная беларусам Касовічам граматыка яўрэйскай мовы выдавалася 21 раз.

К.2 – Справа ў тым, што многія імёны забыліся, і зараз мы вымушаны адкрываць іх зноў. Сярод нашых землякоў было шмат не толькі таленавітых вучоных даследчыкаў, герояў, але і проста цікавых

асоб. Мне паведамілі пра чалавека дзіўнага лёсу з Брэстчыны капітана коннай гвардыі, удзельніка польскага паўстання 1830-1831 г.г. Гэта Напалеон Орда.

В. - А, дык вось як яго звалі! Я слухаў радыёперадачу, але не спачатку. Аб ім гаварылі, як аб падарожніку, які аб'ездзіў Англію, Шатландыю, Іспанію, Алжыр, Партугалію, Галандыю, Скандынавію.

К.2. - Я б яшчэ дадў, што ён абхадзіў удоўж і ўпоперак усю Беларусь. Пасля сваіх вандровак па Беларусі і Украіне ён пакінуў каля тысячы малюнкаў.

С. - Вы хочаце сказаць, што Напалеон Орда быў яшчэ і мастаком?

К.2- Так, вы маеце рацыю. Ён захапляўся архітэктурнымі пейзажамі, быў вучнем французскага мастака П'ера Жэрара і ў беларускую культуру ўвайшоў як мастак. Хаця мог бы стаць і выдатным музыкантам. Ён жа вучыўся ў польскага кампазітара Фрыдэрыка Шапэна. Не менш цікава і тое, што за сувязь з рускімі рэвалюцыянерамі Н.Орда быў выключаны з Віленскага універсітэта.

В.- Вы нас вельмі зацікавілі лёсам нашых малавядомых продкаў. Хочацца даведацца як мага больш аб кім-небудзь яшчэ.

К.1 - Ну добра. А ці ведаеце вы, што ў Чылі ёсць горад і горны хрыбет з назвай Дамейка? Ці чулі вы пра мінерал дамейкіт, кветку фялака дамейкіане? Ці вядома вам што-небудзь аб марскім малюску наuцілус дамейкус? Не?

В. - Амаль што нічога.



К.I - Усё гэта названа ў гонар сына беларускай зямлі Ігната Дамейкі з-пад Міра.

С. - Неверагодна! Як гэта здарылася, што наш беларус апынуўся ў такой далёкай краіне?

К.I - Справа ў тым, што І.Дамейка таксама быў удзельнікам польскага паўстання /I83Iг / і вымушаны быў эмігрыраваць спачатку ў Францыю, а потым на паўднёва-амерыканскі кантынент, дзе праз некаторы час стаў рэктарам універсітэта ў Сант'яга. Наш зямляк вывучаў жыццё і звычаі індзейскіх плямёнаў. Менавіта ён адкрыў у Чылі багатыя залежы серабра.

В. - Прабачце, калі ласка. Ці марыў ён вярнуцца на радзіму?

К.I - Дамейка прыязджаў на кароткі час у Беларусь. Але памёр ён у Чылі.

К.2 - Куды толькі не раскідаў лёс нашых беларусаў! На Калыме пахаваны выдатны вучоны Ян Чэрскі з Віцебшчыны, у Севастопалі - А.І.Казарскі, таксама з Віцебшчыны, удзельнік руска-турэцкай вайны, кавалер ордэна Георгія 4-га класа, самай высокай узнагароды таго часу.

В. - Калі вам не цяжка, раскажыце падрабязней аб іх дзейнасці.

К.2 - З задавальненнем. Тым больш, што я сам з гэтых мясцін. Ганаруся такімі людзьмі маёй зямлі. Лёс Яна Чэрскага няпросты. Небагаты дваранін за ўдзел у паўстанні I863 г. стаў радавым салдатам. Служыў у Омску. Займаўся самаадукацыяй. Хутка аб ім даведаліся сібірскія навукоўцы, і Ян Чэрскі стаў працаваць у сібірскім аддзеле Рускага геаграфічнага таварыства, прымаў удзел у геаграфічных экспедыцыях па Сібіры, даследаваў

Байкал. За гэтыя даследаванні ён быў узнагароджаны залатым медалём.

С. - Прабачце, што перапыняю. Вы сказалі, што ён пахаваны на Калыме. Як ён апынуўся там?

К.2 - Акадэмія навук паставіла перад ім складаную задачу - правесці даследаванне ўзбярэжжа мора Лапцевых. Ён захварэў і ўлетку 1892 года памёр. Гэта экспедыцыя, на жаль, была апошняй у жыцці Яна Чэрскага.

В. - Нельга не пагадзіцца з вамі, што гэты чалавек, як і іншыя, аб кім вы нам паведамілі, заслугоўвае вялікай пашаны. Але мяне, як вайскоўца, цікавіць удзельнік вайны Казарскі.

К.І - Як вы ўжо ведаеце, Аляксандр Іванавіч нарадзіўся на Віцебшчыне. Старэйшы брат уладкаваў яго юнгай на адзін з ваенных караблёў Чарнаморскага флоту. Затым ён вучыўся ў Мікалаеўскім вучылішчы. У 16 гадоў стаў мічманам.

В. - Дзякуючы вам мы ўжо чулі аб узнагародзе Казарскага ордэнам. А што яшчэ вы маглі б паведаміць аб удзеле Аляксандра Іванавіча ў руска-турэцкай вайне?

К.І - Безумоўна, гэта быў смелы чалавек. Нездарма яго ўзнагародзілі залатой шпагай з надпісам "За храбрасць". Ён выдатна ўмеў арыентавацца ў самай складанай абстаноўцы, быў мужным чалавекам. Аб гэтым сведчаць удзельнікі боя 14 мая 1929 г. А.І. Казарскі камандаваў брыгам "Меркурый", на якім было 18 гармат і які вёў бой з двума турэцкімі караблямі, на ўзбраенні якіх было 184 гарматы. "Меркурый" выйшаў пераможцам. За гэту перамогу каманда атрымала залаты сцяг, а матросы - узнагароды і грашовыя прэміі, а камандзір А.І. Казарскі стаў кавалерам ордэна Георгія 4-га класа, самай высокай узнагароды таго часу. Яму было прысвоена званне капітана 2-га рангу.

У 1830 г. яго пахавалі ў Севастопалі і паставілі помнік, аўтарам якога быў брат мастака К. Брулова. На помніку зроблены надпіс: "Казарскаму. Нашчадкам у прыклад".



К.2 - Я спадзяюся, што нашчадкі, за якіх аддаў жыццё А.І. Казарскі, не забудуць прозвішча беларускага героя.

В. - Вельмі ўдзячны вам за цікавую размову. Шчыра кажучы, мы зацікавіліся лёсамі незнаёмых для нас беларусаў.

К.І - Спадзяёмся, што вам пашанцуе. Жадаем вам поспехаў у адкрыцці новых імёнаў нашых землякоў.

1. Скажыце, хто з нашых землякоў, аб якіх вы даведаліся, спадабаўся вам больш і чаму?

Пры выказванні сваёй думкі выкарыстайце наступныя словы:
падаба-цца
зацікавіць
уразіць
здзівіць
даведацца
пазнаёміцца
шчыра кажучы

па-мойму, на маю думку, я мяркую, шкада, неверагодна, на шчасце, на маё ўяўленне.

2. Хто з іх, на вашу думку, унёс найбольш важкі ўклад у развіццё навукі?

3. Калі вам хочацца пазнаёміцца з іншымі цікавымі лёсамі землякоў, звярніцеся да дадатковых матэрыялаў.

### Дадатковы матэрыял

### Паўлаўская рэспубліка

Ужо шмат стагоддзяў існуюць у Еўропе мініяцюрныя дзяржавы Андора, Ліхтэнштэйн, Сан-Марына, Манака. Усе яны суверэнныя дзяржавы. У кожнай - свой дзяржаўны герб, сцяг, урад, парламент, Канстытуцыя.

Гістарычны шлях іх развіцця не малы. Утварэнне Сан-Марына адносяць, напрыклад, да 301 г. н.э.

Такога зайздроснага даўгалецця гістарычны лёс не адпусціў

Паўлаўскай рэспубліцы, штучнаму утварэнню, што на працягу 57-мі гадоў існавала спачатку ў межах ВКЛ, а з 1793 г. - Паўночна-Заходняга краю Расійскай імперыі.

Заснаваў гэту рэспубліку ва ўласным маёнтку недалёка ад Ашмян Павел Ксаверы Бжастоўскі. Прадстаўнікі роду Бжастоўскіх займалі высокія дзяржаўныя і духоўныя пасады ў Вільні,Мінску, Полацку і іншых гарадах.Іхняя магутнасць грунтавалася на моцнай эканамічнай аснове - вялізных зямельных і лясных уладаннях.

Павел Ксаверы Бжастоускі быў фігурай арыгінальнай.На здзіўленне ўсёй шляхты княства,якая празвала яго дзіваком, 10 -га сакавіка 1767 г. у сваім маёнтку Мерач, пераназваным пазней у яго гонар у Паўлава,ён заснаваў сялянскую рэспубліку.

"Зраўняць шляхту з халопам, з быдлам!" - лементавала ад абурэння шляхта.

А справа была ў тым, што па статуту, зацверджанаму соймам, /агульнадзяржаўным заканадаўчым органам ВКЛ/, кожны падданы новай рэспублікі, у тым ліку і сам Бжастоўскі, лічыўся раўнапраўным грамадзянінам.Кожны валодаў персанальнай свабодай, меў зямлю, мог быць абраным на любую, нават прэзідэнцкую пасаду.Аднак прэзідэнтам, і пры тым пажыццёвым,стаў, як быццам бы з удзячнасці грамадзян, сам Павел Бжастоўскі. Відаць, дзесьці ў глыбіні душы ён баяўся цалкам выпусціць маёнтак са сваіх рук.Як бы там ні было, рэформа мела шэраг прагрэсіўных момантаў: сяляне пазбавіліся прыгону.Заканадаўчая ўлада належала двухпалатнаму сойму,выканаўчая - міністэрствам.Усе справы вырашаліся большасцю галасоў.Існавалі школа,бальніца, банк.І як у кожнай паважаючай сябе дзяржавы - сцяг з гербам, металічныя грошы.

На стражы дзяржаўнага суверэнітэту і недатыкальнасці граніц стаяла войска ў адмысловай уніформе: у белых суконных жупанах з латуннымі гузікамі, чорных з аўчыны папахах з чырвоным верхам і юхтавых ботах.

У надзвычайных умовах прадугледжвалася скліканне ўсеагульнага "народнага рушэння" - апалчэння.

У 1824-ым годзе рэспубліка перастала існаваць, хаця яе занепад пачаўся значна раней.Гэта было дачаснае сацыяльна-эканамічнае утварэнне.

У наш час не захавалася нават магіла самога Бжастоўскага, які памёр на 88-ым годзе жыцця, перажыўшы сваю рэспубліку ўсяго на тры гады.



I. Выканайце наступныя заданні:

Ці згодны вы з тэзісам: Бжастоўскі быў фігурай арыгінальнай?
Ці падтрымліваеце вы аўтара,які лічыць, што Паўлаўская рэспубліка была тагачасным утварэннем?
Як вы ставіцеся да таго, што зараз там, дзе жыў Бжастоўскі, не ведаюць ні аб ім, ні аб яго рэспубліцы?

## Жанчына-легенда

Гэта было сапраўды.Жыў у XVI стагоддзі ў Слуцку князь Сямён Алелькавіч.І была ў яго прыгажуня-жонка Настасся.

Нарадзіўся ў іх сын Юрый. Здавалася, лёс прыгатаваў Настассі ціхае сямейнае шчасце, калі б не татарская навала.

Летам 1502 г. сын крымскага хана Бати-Гірэй прывёў 6-тысячнае войска да Слуцка.Татары узялі горад, але замак, у які кінуліся случчане, вытрымаў іх штурм. З багатай здабычай татары вярнуліся ў Крым.

Пасля гэтых падзей маладая слуцкая княгіня загадала збройніку выкаваць ёй кальчугу.

Новы татарскі набег адбыўся наступным летам.Крымчакі палілі Нясвіж, Клецк, Навагрудак.Асобныя атрады іх накіраваліся да Мінска і Лагойска. Трохтысячны атрад з'явіўся пад Слуцкам. Тут усё было загадзя падрыхтавана для адпору.Але князь Сямён быў у ад'ездзе. І тады яго месца заняла Настасся.Апрануўшы даспехі, яна вывела полк супраць татараў у поле і адкінула ворагаў ад горада.

Княгіня нарадзіла другое дзіця, дзяўчынку, якой далі імя Аляксандра.

У жніўні 1505 г. Бати-Гірэй зноў наведаўся ў госці да случчан. Татары рабілі падкопы, спрабавалі ўзарваць умацаванні, падпаліць горад, але жыхары мужна абараняліся, Бати-Гірэй зняў асаду.Татары пакінулі пасля сябе не толькі разбураныя гарады і вёскі, але і страшную хваробу,якая ўнесла ў магілу шмат людзей. Памёр і князь Сямён.

Наступным летам хан прыйшоў не адзін.З ім быў брат,,перакопскі царэвіч Бурнаш. Дваццацітысячнае войска татар неаднаразова хадзіла на штурм " поднети чинечи и огонь подкладаючи". Са сцен асаджанага Слуцка ўдава кіравала абаронай. І зноў татары адышлі ні з чым. Мужнасць і адвага слуцкай княгіні ўразілі яе сучас-

нікаў. Захапіўся ёю і пераможца крымчакоў князь Міхаіл Глінскі. Ён пасватаўся і атрымаў адмову. Князь адчуў сябе абражаным, таму вырашыў адпомсціць і ўзяць Слуцк сілаю. Двойчы войска Міхаіла падыходзіла да Слуцка, брала горад, штурмавала замак, спрабавала запаліць умацаванні. Але без поспеху. Непрыступная для крымчакоў крэпасць не здавася і на міласць іх пераможцы. Летапісы пра гэта распавядаюць так: "В сие лето Глинский некто в Литве много зла починив...и Слуцко хоте взяти под Анастасиею княгинею ...,но не може".

Іщоў час, стаў дарослым сын Юрый, і яна перадала яму кіраванне княствам. У I IIг. Юрый б'е татар пад Кіевам, у 1514 - пад Оршай.

У 1521 г. татары ў апошні раз паспрабавалі авалодаць Слуцкам, але развеяць міф пра яго непераможнасць у іх і на гэты раз не атрымалася.

Княгіня выдала дачку замуж за гетмана Астрожскага і адчула, што выканала ў гэтым жыцці ўсё, што павінна была зрабіць, і ціха адышла ў нябыт.

I. Выканайце наступныя заданні:

Скажыце, чаму тэкст носіць назву "Жанчына -легенда"?
Выкажыце свае адносіны да ўдзелу княгіні слуцкай у ваенных падзеях.
Як вы наогул ставіцеся да ролі жанчын у грамадскім жыцці краіны / Е.Полацкая, С.Русецкая, Ф.Міронава і інш./?
Аб кім з тых, пра каго вы чыталі ў гэтым уроку, вам хацелася б расказаць? Чаму?

## IУ. НЕПАДРЫХТАВАНАЯ ГУТАРКА

I. Пазнаёмімся са словамі па тэме "Харчаванне".

Снеданне, другое снеданне, полудзень, абед, падвячорак, вячэра.

Сталовы прыбор: абрус, апалонік, бутэлька, відэлец, кілішак, кубачак, лыжка, перачніца, сальніца /салянка/, сподак, сурвэтка, талерка, глыбокая /плыткая/ талерка, цукарніца, шклянка;



спосабы гатавання ежы: варан..., ...аваны у алеі, у воцаце, вэнджаны, падсмажаны, падпечаны, сушаны, тушаны;

смак: востры, горкі, кіслы, нясмачны, прыкры, салодкі, салёны /салоны/, смачны;

мяса і вяндліна: /каўбасныя вырабы / вантрабянка, вэнджаныя рабрынкі, кілбаса/каўбаса/, мяса/любовае, тлустае/, ныркі, паляндвіца, сальцісон /зельц/, тлушч, шынка;

мясныя стравы: адваранай ялавічына, бігас, квашаніна, кіндзюк, сечаныя катлеты;

агародніна: бульба, буракі, гурок, морква, радыска, салата, фасоля, цыбуля, часнок;

садавіна, плады: маліны, парэчкі, трускаўкі, клубніцы;
малочныя прадукты: смятанка, ваpшкі, яйцы/яйкі/, укрутую, усмятку;

іншыя стравы: бульбяное пюрэ, варэнікі /з трускаўкамі/, смажаная бульба;
піткво, напіткі: кава, какава, чай/гарбата/, кампот/узвар/;

2. Калі вы ідзяце ў рэстаран, успомніце гэтыя выразы:

Дзе вы збіраецеся папалуднаваць /павячэраць/?
Ці не маглі б вы прынесці меню?
Якая ваша ўлюбёная страва?
Папрашу рахунак.
Пералічыце, калі ласка, дакладна.

3 Выканайце наступныя заданні:

Паспрабуйце скласці меню з беларускіх нацыянальных страў /на снеданне, на полудзень, на вячэру, святочнае меню/.
Калі вы збіраецеся ехаць куды-небудзь, што возьмеце

з ежы ў дарогу?

Чым вы будзеце частаваць нечаканага госця?

Раскажыце аб рускай, украінскай і іншых нацыянальных кухнях.

Складзіце дыялогі "У Кавярні", "У рэстаране".

## У. ХВІЛІНКА АДПАЧЫНКУ

Над сваім апетытам беларус заўсёды пасмейваўся. Паслухайце адну гісторыю.

"Прадаў я на базары кабана, пайшоў закусіць. З'еў тры міскі капусты з боханам хлеба, сала хатняга з фунт. Тут купіў яшчэ тры порцыі смажанай каўбасы ды ўмяў. Пасля бульбы змахоніў міскі тры. Зноў баршчу міску ўбіў з булкай. А пасля як успомніў, што брат у салдатах, то як завязала".

Чуллівы чалавек, ці не праўда? Зусім есці не мажа, калі брату цяжка.

## УІ. ДАМАШНЯЕ ЗАДАННЕ

Знайдзіце матэрыялы і падрыхтуйцеся да гутаркі аб беларусах, чые лёсы вас зацікавяць.



# У Р О К 12

Т э м а : Азначальныя, адмоўныя, няпэўныя займеннікі. Уласныя асабовыя імёны. Тапанімія Беларусі.

## І. НЕПАДРЫХТАВАНАЯ ГУТАРКА

На нашых занятках мы пагаворым аб уласных асабовых імёнах, якія ўжываюцца сярод беларусаў.

Як вы лічыце, якія мужчынскія імёны з'яўляюцца самымі папулярнымі? Можа, вы здзівіцеся, але на першым месцы - Мікалай, потым - Іван, Аляксандр, Уладзімір, Сяргей, Васіль, Віктар, Пётр, Міхаіл, Анатоль. Такія імёны, як Арцём, Афанасій, Георгій, Герасім, Даніла, Іосіф, Лука, Сямён, Тарас, Пілip, Фама, сустракаюцца радзей, і носяць іх мужчыны старэйшага ўзросту, а больш маладым падабаюцца імёны: Алег, Валерый, Ігар, Руслан, Эдуард, Юрый, Яўгеній.

Самыя частыя жаночыя імёны - гэта Марыя, Вольга, Ганна, Таццяна, Ніна, Надзея, Галіна, Валянціна, Наталля, Алена. Жанчын старэйшага пакалення завуць Аляксандра, Антаніна, Настасся, Варвара, Лізавета, Матрона. Вера, Ірына, Любоў, Людміла, Лідзія, Марына, Дзіна, Зінаіда, Ала - гэта імёны жанчын сярэдняга і маладога ўзросту.

Магчыма, вы сустракалі розныя варыянты жаночых імён: Ірына /Арына/, Елена /Алена, Галена/, Марыя /Мар'я, Мара/. Цікавыя і памяншальныя формы ад імя Марыя: Маруся, Марухна, Маруня, Маська

Вы, напэўна, ведаеце, што сучасныя імёны, якія ўжываюцца ў Беларусі, у пераважнай большасці запазычаны з грэчаскай, лацінскай, старажытнаяўрэйскай, германскай, скандынаўскай і іншых моў. Яны трапілі ў нашу мову разам з прыняццем хрысціянства. Зразумела, што з цягам часу з'явіліся новыя, якія прыйшлі з іншых моў у выніку культурных і эканаміча-палітычных сувязей паміж рознымі

нацыямі. Напрыклад, Альберт, Альфрэд, Артур, Герман, Марат, Рычард, Эдмунд, Эдуард. Усе мы ведаем, што побач з беларусамі жывуць і палякі. Таму функцыяніруюць імёны дзвюх імёнаназыўных сістэм, устаноўленых праваслаўнай і каталіцкай царквой. Пераважная большасць зафіксаваных імён адносіцца да першай сістэмы. У прадстаўнікоў польскай нацыянальнасці і ў беларусаў-католікаў выкарыстоўваюцца імёны другой сістэмы: Зігмунд, Казімір, Карл, Матэуш, Тадэвуш, Фелікс, Франц. Даволі часта сустракаюцца варыянты імёнаў дзвюх сістэм: Антон/Антак, Аркадзь/Кадзік, Васіль/Базыль, Вікенцій/Вінцусь, Генадзій/Генусь, Іван/Янусь /Ян, Янэк, Янак/, Кірыла/Цырыль/ Варвара/Барбара, Галіна/Гэля.

Хочацца нагадаць цікавы факт з гісторыі ўжывання імёнаў. Уласныя асабовыя жаночыя імёны ў пісьмовых помніках сустракаюцца значна радзей, чым імёны мужчынскія. Гэта тлумачыцца, з аднаго боку, тым, што ўсе юрыдычна-прававыя дакументы афармляліся на галаву сям'і – на мужчыну, а з другога боку, тым, што ў многіх выпадках у найменнях асоб жаночага полу жаночае імя не ўжывалася. У такім разе найменне характарызавала жанчыну па імені мужа: Андрэева Яцковіча /жонка Андрэя Яцковіча/.

Побач з уласнымі асабовымі імёнамі хрысціянскага календара ўжываліся імёны-мянушкі. Яны звычайна выступалі ў спалучэнні з уласнымі асабовымі імёнамі, з імёнамі па бацьку: Сарока Міцюха, Сцяпан Цімафеевіч Горбач, Ждан Жаваранак, імёны-мянушкі ў час іх узнікнення заўсёды маюць пад сабой які-небудзь рэальны факт. Часта яны характарызуюць асобу па знешняму выгляду ці па характару. У іншых выпадках чалавек па такой рысе асацыіруецца з якой-небудзь жывёлінай, птушкай, рыбінай ці прадметам. Прафесія, занятак, чалавек, яго роля ў сям'і і грамадстве таксама "пастаўляюць" матэрыял для ўтварэння імён-мянушак. Узнікалі імёны-мянушкі і ў сувязі з рознымі падзеямі ў жыцці чалавека. Вось іх прыклады: Глухі, Гохы, Зявака, Сіпайла, Ікач, Віславух, Пузан, Трасцюга, Лабан; Баран, Бобр, Жук, Гусак, Шпак, Рэпа, Качарга, Калодка, Чапяла; Баншчык, Войт, Бачар, Казарэз, Пільнік, Папрадуха, Капач, Шубнік; Бядыш, Брахун, Брыкун Будзіла, Грамыка, Жмака, Храпун, Прыдыбайла, Пустасёл, Сямікопны.

Скажыце, калі ласка, па якой прыкмеце яны характарызуюць асобу?



І на заканчэнне аб прозвішчах. Яны ўзніклі на аснове уласных імёнаў і імён-мянушак. Прозвішчы: Бенядзіктаў, Бенядзіктовіч, Бенда, Біндзя, Бендзеў, Беніцэвіч, Бенька, Бянько, Бенеш, Банадысеў, Бандзік, Банькоўскі, Бянецкі і інш. утварыліся ад уласнага імя Бенедыкт. Ад мянушкі Барадуля ўтварыліся прозвішчы Барада, Бародка, ад мянушкі Бусол – Бацян, Бусел, ад мянушкі Верабей – Верабейчык, Варабей, Арабей, Арабейчык.

1. Выканайце наступныя заданні:

Як вы лічыце, ад якой групы імён-мянушак утвораны наступныя прозвішчы: Пышны, Рабы, Жартун, Кіслы, Любезны, Хітры, Бялэносік, Доўгі, Белагубаў?

Паспрабуйце, калі гэта магчыма, растлумачыць паходжанне свайго прозвішча.

## II. ФАНЕТЫКА, ГРАМАТЫКА

1. Прачытайце тэкст, правільна вымаўляючы галосныя, зычныя гукі і іх спалучэнні.

Кожны народ павінен ведаць сваю гісторыю, але не для таго, каб яе паўтараць, бо паўтарэнне гісторыі, нават самай бліскучай, азначае тое, што народ не мае ўжо сваіх ідэалаў у будучым, што ён бачыць іх толькі ў мінулым, а гэта раўназначна яго пагібелі. Хаця гісторыя па сваім змесце заўсёды звернута ў мінулае, але яна даследуецца і вывучаецца ў імя будучыні. Даўно ўжо стала неабвержнай ісцінай выснова, што народ, які не ведае сваёй мінуўшчыны, не варты і будучыні. Як чалавек, што страціўшы памяць, становіцца зусім бездапаможным і, па сутнасці, перастае быць чалавекам, так і народ, які забываецца на сваё мінулае, робіцца бездапаможным у гістарычным быцці і, па сутнасці, перастае быць народам.

З свайго мінулага народ чэрпае уласныя прыклады таго, што натхняе, і таго, што засцерагае ад паўтарэння зробленых памылак. Усё гэта добра ведалі розныя заваёўнікі, і таму, падпарадкаваўшы сваёй уладзе іншы народ і імкнучыся назаўсёды задушыць яго цягу да волі, яны найперш адбівалі яму памяць, вынішчаючы дашчэнту ўсё тое, што нагадвала пра яго мінуўшчыну.

На жаль,мы не ведаем сваёй гісторыі,хаця яна мае тысячагадовую даўнасць. Гісторыя беларускага народа - гэта гісторыя аднаго з самых стойкіх і жыццяздольных народаў,якому нішто не давалася лёгка. Усё здабывалася ў цяжкай працы і барацьбе.

## З а й м е н н і к

Азначальныя: сам,самы,увесь,усякі,кожны,іншы,усё,усе,уся;
Адмоўныя:ніхто,нішто,ніякі,нічый;
Няпэўныя: нехта,нешта,некаторы,нейкі,нечы/нейчы/,некалькі, хтосьці,штосьці,якісьці,чыйсці,хто-небудзь,што-небудзь,які-небудзь,чый-небудзь,абы-што,абы-хто, абы-чый,абы-які,хто-ніхто,сёй-той,што-нішто.

Займеннік САМ паказвае на асобу ці прадмет,якія самастойна ўтвараюць дзеянне:

Сам князь Ягайла ў канцы 14 ст. перадаў Ігумен свайму брату Скіргайлу.

Займеннік САМЫ паказвае на крайнюю мяжу ў прасторы ці часе:

Знаходкі вучоных даводзяць,што на Лагойшчыне чалавек жыве з самай старажытнасці.

Гэты займеннік выкарыстоўваецца пры ўтварэнні складанай формы найвышэйшай ступені параўнання прыметнікаў:

Існуе меркаванне,што ў эпоху язычніцтва менавіта ў межах Ракава праляглаў адзін з самых важных напрамкаў ажыўленага гандлёвага шляху,які злучаў водныя сістэмы Дняпра і Нёмана.

Ва ўскосных склонах у займенніку САМ націск падае на канчатак,а ў займенніку СÁМЫ - на аснову:

САМ - самóга,самóму,самім;
СÁМЫ - сáмага,сáмаму,сáмым.

Табліца скланення займеннікаў

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| Н. | увесь усё | уся | усе | кожны | ніхто | нішто |
| Р. | усяго | усёй | усіх | кожнага | нікога | нічога |
| Д. | усяму | усёй | усім | кожнаму | нікому | нічому |
| В. | Н.ці Р. | усю | Н.ці Р. | | нікога | нічога |
| Т. | усім | усёй | усімі | кожным | нікім | нічым |
| М. | па усім | усёй | усіх | кожным | ні па кім | ні аб чым |



2. Прачытайце фразеалагізмы і ўстойлівыя словазлучэнні. Растлумачце іх сэнс. Звярніце ўвагу на ўжыванне займеннікаў, складзіце з імі некалькі сказаў.

Той самы чорт,хоць сабака,хоць хорт.
Варты на ўсякія жарты.
Ні ў кім праўды ні на грошык,толькі ў аднаго ў мяне ды ў маёй жонкі трошкі.
Свой не свой,а перад кім не стой.
Пагода нішто сабе.
Рагатаць ад усёй душы.
Самі з вусамі.
З усіх ног.

3. Прачытайце сказы,устаўляючы замест кропак займеннікі.

... населены пункт,... геаграфічны аб'ект /гара,возера,рака,поле,лес/ маюць назвы,якія даў ім чалавек. ... любая геаграфічная назва мае сваё паходжанне,гісторыю і значэнне. У ... беларускім мястэчку вы можаце сустрэцца з чарамі даўніны,з ... цудамі.

Сёння яшчэ можна адшукаць ... старых жыхароў беларускай сталіцы,якія добра памятаюць Ігуменскі тракт. Але паспрабуйце зараз у Мінску спытаць ... з сустрэчных пра ... тракт,і ... у адказ толькі паціснуць плячыма. ... дзіўнага, ... сапраўды, назвы такой ніколі не чулі. Зрэшты,і чуць не маглі,бо неўзабаве пасля Кастрычніка павятовы горад Ігумен Мінскай губерні атрымаў ... імя - Чэрвень.

4. Трансфармуйце наступныя словазлучэнні.
У з о р : купіць абы-якую рэч - купіць дрэнную рэч.
Хтосьці патэлефанаваў; хто-ніхто заходзіць;чуць нейкае

паведамленне;прагледзець сёй-той часопіс;абы-якія адносіны паміж імі;такое самае заданне;самы лепшы сябар.

5. Складзіце сказы з займеннікамі САМ,САМЫ,улічваючы розніцу ў іх значэннях.

## III. ЛЕКСІЧНАЯ ТЭМА "ПАХОДЖАННЕ БЕЛАРУСКІХ ГЕАГРАФІЧНЫХ НАЗВАЎ"

Наступная гутарка адбылася паміж выкладчыкам і слухачамі на занятках па тапаніміцы. Магчыма,пасля яе вы зацікавіцеся тымі назвамі,якія сёння вакол вас.

С.1 - З геграфічнымі назвамі мы сустракаемся ў жыцці на кожным кроку:пішам іх на канвертах,чуем па радыё,чытаем у кнігах. Геаграфічныя назвы з'яўляюцца ў біяграфіі чалавека ўжо ў першыя дні жыцця. Гэтым і тлумачыцца наша цікавасць да іх. Хацелася б даведацца,ці застаюцца яны нязменнымі на працягу стагоддзяў,ці ўсё ж змяняюцца пад уплывам часу.

В. - Цікавае пытанне. Трэба адзначыць,што асаблівасцю геаграфічных найменняў з'яўляецца іх устойлівасць. Назвы захоўваюцца нават у тым выпадку,калі з'явы,якія ў іх адлюстроўваюцца,ужо зніклі. Напрыклад,горад Ноўгарад так называецца больш за тысячу гадоў. А калісьці ён і сапраўды быў новым. Але падобных найменняў не вельмі многа,большая іх частка непазнавальна змянілася. Напрыклад,сучасны Брэст першапачаткова быў вядомы як Берестье,затым - Берасце,Брэсце,Бжэст,Брэст-Літоўскі. Сучасны Гродна меў імя Гарадзень,Городно;Слонім - Услонім.

С. 2 - Мы ведаем,што знаёмячыся з фразеалагізмамі,можна даведацца аб некаторых гістарычных падзеях,аб звычаях народа,аб яго жыцці. Ці могуць расказаць нам што-небудзь геаграфічныя назвы?

В. - А як жа. Напрыклад,на карце Беларусі можна знайсці такія назвы населеных пунктаў,як Рудня,Руда,Рудзенск,і іншыя. Як яны ўзніклі?



У мінулым тысячагоддзі нашы продкі выплаўлялі жалеза з балотнай руды ў спецыяльных печах-рудніцах. Вакол рудніц пасяляліся людзі. Там узніклі паселішчы з назвамі,аб якіх я сказаў. Дарэчы,такія геаграфічныя найменні дапамагаюць гісторыкам і археолагам знайсці месцы старадаўніх жалезаробчых промыслаў.

С.2 - Я мяркую,што назвы вёсак Рыбаловы,Мельнікі,Ткачы,Сталяры, Слесары,Токары,Конюхі,Муляры - таксама вынік дзейнасці мясцовага насельніцтва.

В. - Зусім слушна. У некаторых выпадках спецыяльнасць чалавека станавілася яго прозвішчам,а вёскі,у якіх яны жылі,атрымалі адпаведныя назвы.

Ці такі прыклад. Раней у гаспадарцы шырока выкарыстоўваліся рэкі,па якіх перавозілі грузы. Але з адной рэчкі ў другую даводзілася цягнуць волакам па сушы. На гэтых месцах узніклі паселішчы з адпаведнымі назвамі: Волакі,Валачок.

Там,дзе дарога праходзіла праз рэчку,будавалі масты і рабілі паромныя пераправы. За паселішчамі ў такіх месцах замацоўваліся назвы Перавоз,Верхні Перавоз,Масты,Замосце.

С.3 - Цяпер можна здагадацца,чаму ўзніклі назвы Брады,Заброддзе, Бродок. Відаць,у гэтых месцах пераязджалі ўброд.

С.4 - На мой погляд,назва вуліцы ў Мінску - Доўгабродская - таму і ўзнікла,што там калісьці быў брод.

В. - Вы маеце рацыю. Тут некалі ў раёне сучаснага трамвайнага дэпо была вёска Доўгі Брод.

С.3 - Напэўна,не ўсе геаграфічныя назвы,якія мы знаходзім на карце,можна растлумачыць? Напрыклад,вёска Прызбы.

В. - Безумоўна. Часам мы не можам высветліць,што раней абазначалі тыя ці іншыя назвы,адкуль яны паходзяць,бо словы,ад якіх яны ўтварыліся,даўно забытыя. Але ясна,што кожная назва

была калісьці зразумелая людзям. Так і з вёскамі Прызбы,Кнотаўшчына,Асецішча. Асецця некалі называлі невялікае збудаванне для складання снапоў,прызбай - земляны насып вакол драўлянай хаты. Кнот /у лямпе,у свечцы/ - слова лічэ вядомае,але і яно паступова знікае з развіццём электрыфікацыі.

С.5 - Відавочна,такія назвы,як Бор,Дубкі,Бярозаўка,Сосны,Іўе звязаны з прыроднымі ўмовамі?

В. - Згодзен з вамі. Дадам толькі,што ў назвах беларускіх вёсак можна пазнаць амаль усе назвы нашых дрэў і многіх траў: Барок,Арэхаўка,Альшанка,Вязок,Вербы,Кляновае,Ельня,Крушынаўка,Асочнае,Чамярычнае,Ячменнікі,Рэпішча,Шахавое,Камышанка,Ліпаўка.

С.6 - Думаю,што ў сувязі з гэтым трэба назваць такія населеныя пункты,як Падгорнае,Грушка,Загор'е,Роўнае,Сухая Даліна,Высокае,Глінішча.

В. - Так,яны сведчаць аб асаблівасцях паверхні глебаў дадзенай мясцовасці. Я б лічэ дадаў Роўнае Поле,Пясочнае,Сухі Лог,Каменнае.

С.7 - Мы ведаем,што на тэрыторыі нашай рэспублікі жывуць і раней жылі прадстаўнікі розных нацыянальнасцей. Ці знайшла гэта з'ява сваё адлюстраванне ў геаграфічных назвах?

В. - Назвы Ляхі,Маскалі,Русакі,Прусы,Ятвезь,Дулебы,Кашубы,Татарка,Латыгаль,Обрава,Мазуры, сведчаць не толькі аб нацыянальным складзе насельніцтва,якое жыло калісьці на тэрыторыі Беларусі,але аб тым,кім былі населены тыя ці іншыя вёскі. У наш час не кожны пазнае ў некаторых найменнях назвы асобных народнасцей,таму што многія з іх,напрыклад,дулебы,ятвягі,мазуры ці кашубы зліліся з усім акружаючым насельніцтвам.

С.6 - Прабачце,вы забыліся пра назвы Літоўлічы,Літвінавічы.

В. - Добра,што вы закранулі гэта пытанне. Але справа тут зусім не ў тым,што ў гэтых населеных пунктах калісьці жылі літоўцы.



Калі вы памятаеце,у летапісных крыніцах наша насельніцтва называлі па-рознаму,у тым ліку і літвінамі ў сувязі з тым гістарычным лёсам,які напаткаў наш народ.

С.8 - Хацелася б даведацца,што абазначае назва Дамарад.

В. - Вы ведаеце,што многія населеныя пункты носяць імёны і прозвішчы пасяленцаў: Якімовічы,Аляхновічы,Барысаў. Іншы раз у назвах вёсак і гарадоў замацаваны і старыя імёны людзей,якія ў наш час ужо не ўжываюцца. так,напрыклад,Дамарад /радасны ў доме/,Молчан /маўклівы/,Траццяк /трэці сын/,Ждан /жданы, чаканы сын/,Няждан,Гоман. Ад такіх імёнаў з'явіліся прозвішчы Ждановіч,Няжданаў,Молчан,а ад іх - назвы паселішчаў Ждановічы,Няжданаўка,Молчаны.

С.9 - Я чытаў паданне пра Магілёў, там назва гэтага горада тлумачыцца тым,што калісьці тут жыў добры малойца Машэка,які пакахаў Прадславу,але ўбачыў каханую з другім. машэка забіў саперніка. У ім усё мацней разгаралася прага да помсты. Заснаваў ён сваё логавішча,назваў яго Машэкаўкаю. І стаў наводзіць жах на ўвесь край. І вось аднойчы яго зграя прывяла двух новых палоннікаў. Сярод іх была Прадслава. І сказала яна,што быў тады з ёй яе родны брат,які патаемна з ёй бачыўся. І адпомсціла дзяўчына Машэку,хаця ведала,што загіне ад яго чэлядзі. Закапалі яе жывую разам з забітым ёю Машэкам. А насыпаны над імі курган назвалі Магілаю Льва. Адсюль і горад,які ўзнік потым на гэтым месцы,пачаў называцца Магілёвам.

В. - З прыемнасцю паслухалі паданне. Дзякуй вам. Хачу сказаць, што народ даўно цікавіцца назвамі. Не маючы магчымасці высветліць іх сапраўдную гісторыю,людзі часта складалі байкі аб паходжанні розных назваў. Многія не маюць пад сабой ніякай падставы. Напрыклад,назва Бяроза -Картузская так трактуецца ў вершы А.Разанава:

"Аднойчы паходам - легенда гавора, -
тут з войскамі ішоў палкаводзец Сувораў.
Стаміліся крочыць салдаты палямі,
зрабілі прывал на зялёнай паляне.

Сувораў суніцы збірае па лесе,
а пыльны картуз на бярозу павесіў.
Ці доўга ці не на ціністым прывале
салдаты з Суворавым адпачывалі.
Затым падаліся далей па дарозе,
Застаўся вісець той картуз на бярозе.
З тых пор каля ціхае Ясельды-рэчкі
Бярозай Картузскай назвалі мястэчка."

Навуковае ж тлумачэнне ўзнікнення гэтага азначэння іншае: Бярозу сталі называць Картузскай у сувязі з размяшчэннем тут Картэзіянскага манастыра.

С.9 - На маю думку, нельга сцвярджаць, што ўсе народныя тлумачэнні заўсёды недарэчныя і памылковыя.

В. - Зусім відавочна, што не ўсе падзеі запісаны ў гістарычных дакументах. Асобныя назвы часам звязаны з прыватнымі з'явамі, не запісанымі ў летапісах і вядомымі толькі мясцовым жыхарам. Таму вельмі часта яны дапамагаюць адкрыць сапраўдную таямніцу назвы.

С.7 - А што вядома наконт назваў рэк і азёр?

В. - Існуе думка, што назвы населеных пунктаў прасцей растлумачыць, чым назвы вадаёмаў. Навукоўцы лічаць, што рачныя назвы ўвогуле старэй за назвы паселішчаў і за доўгі час больш змяніліся. Доўга захоўваюць свае назвы толькі вялікія рэкі, малыя ж утрымліваюць іх толькі ў тых выпадках, калі іх назвы пераходзяць на імёны паселішчаў, вуліц, вёсак. Так здарылася з назвамі рэчак Няміга, Сляпянка, якія зараз з'яўляюцца суцёкавымі равамі.

С.6 - Вы сказалі, што назвы вадаёмаў бывае цяжка растлумачыць. Можа, вы скажаце, чаму ?

В. - Быў час, калі людзі ўспрымалі ваду як жывую істоту, раіліся з ёй, абагаўлялі яе. Калі ўзнікала неабходнасць надаць рацэ імя, людзі імкнуліся не пакрыўдзіць гэтую таямнічую і



сваволъную істоту, здольную то разліцца, нібы мора, то звузіцца да невялікага ручая, і звычайна прыдумвалі такое найменне, якое з пункту гледжання сённяшняга дня мока тлумачыцца як зашыфраванае. Напрыклад, рака Нёман. Корань -ман- ёсць у назвах рэчак і азёр Манча, Манец, Мена. Ёсць ён і ў назве сталіцы Беларусі, якую раней называлі Менескам, Менскам. Яго ж назва ўтварылася ад наймення знікшай у наш час рачулкі Мены, ці Менкі.

Гідронімы тыпу Мена, Манча разумеліся як "маленькія, неглыбокія", а вось вялікую раку, важную ў гаспадарчых, гандлёвых, ваенных адносінах, нашы продкі асэнсоўвалі пры дапамозе процілеглага паняцця - Не - ман - "не маленькая".

С.2 - На маю думку, сённяшняя размова выклікча жаданне даведацца аб назве горада ці вёскі, дзе ён нарадзіўся, аб той рэчцы ці возеры, дзе любіў купацца ў маленстве.

С.5 - Я таксама падтрымліваю гэту думку. А хто з беларускіх навукоўцаў займаўся пытаннямі тапанімікі?

В. - Многа цікавага вы зможаце прачытаць у працах Жучкевіча В. А калі вам хочацца пазнаёміцца з легендамі аб узнікненні розных найменняў, вам дапаможа кніга "Бяздоннае багацце" /складальнік А.Гурскі/.

С.1 - Вялікі дзякуй вам за цікавую гутарку.

1. Выканайце наступныя заданні:

Якія з меркаванняў тапанімістаў вы падтрымліваеце, з якімі не згодны?

Знайдзіце на падрабязнай карце Беларусі геаграфічныя назвы, звязаныя з гістарычнымі падзеямі, з ранёстамі, якімі займаліся на нашай тэрыторыі. Зрабіце вывады.

Паспрабуйце растлумачыць паходжанне назваў вядомых вам вадаёмаў.

Ці ведаеце вы легенды, звязаныя з іх назвамі?

## Дадатковы матэрыял

### Легенды, паданні

#### Возера Красны Стаў

Каля Клецка князь Міхаіл Глінскі у 1506 годзе атрымаў вядомую перамогу над татарамі, загінула іх там каля дваццаці тысяч. Трупамі сваімі яны загацілі ўсё возера, так што вада ў ім зрабілася чырвоная. Ад таго возера і празвалі Красны Стаў.

#### Адкуль Узда

Пад Койданавам беларусы разбілі татараў, а сам татарскі атаман уцёк. Але беларусы дагналі яго там, дзе цяпер Узда стаіць, і ранілі. Падаючы з сядла, Кайдан ухапіўся за ўзду свайго каня і сказаў:

— Вось дзе напаткала мяне смерць.

На тым месцы пачалі будавацца людзі, і паселішча тое назвалі Узда.

А яшчэ расказваюць, што даўно-даўно, калі тут яшчэ нічога не было, праязджаў нейк рускі цар і згубіў залатую узду. Яго слуга, шукаючы тут залатую ўздзечку, ездзіў на кані то ў адзін бок, то ў другі. А чалавек адзін, бачачы гэта, спытаўся ў конніка, чаго ён шукае. І той каха, што шукае залатую ўзду. Вось ад таго быццам наша мястэчка і завецца Узда.

#### Крайск

... На месцы Крайска, на беразе ракі Крапчанкі, стаяў невялікі гарадок. Некалі ў лясным зацішку, далёка ад княжацкага вока, людзі жылі добра: гандлявалі, займаліся рамяством, палявалі, лавілі рыбу... Таму і назвалі гарадок свой Райскам. Але пачалася вайна. Пад Райскам, ва ўрочышчы Разанка, сышліся рускія і шведскія войскі. Людзей загінула столькі, што ад праліітай крыві выйшла з берагоў Крапчанка. Знішчыла вайна і горад Райск, засталася толькі адна крайняя вуліца. Адсюль нібы і пайшла назва мястэчка — Крайск.



#### Шведы

... Сённяшнія Шведы — некалі гэта былі далёкія выселкі на Віліі — называліся Высокая Прыстань. Першыя тут на неўрадлівым беразе пабудаваліся высланыя з Шаловіч за нейкую правіннасць чацвёра сялян. А імя — Высокая Прыстань — далі хутару плытагоны, якія прычальвалі ў гэтым месцы, каб трохі адпачыць...

Але старажылы расказалі, што за кіламетр ад Шведаў ёсць так званыя шведскія могілкі — з дзесятак насыпаных курганоў, якія тутэйшыя людзі маюць за пахаванні шведскіх салдат...

Вёска Высокая Прыстань на доўгі час апынулася ў двух лагерах. Адзін канец быццам займала руская армія, а на другім быў штаб галоўнага шведскага войска. За гэтай часткай вёскі і засталася назва — Шведскі Канец, а потым і скарочаная — Шведы.

#### Багатыр — гара

Даўно-даўно на гэтай гары жыла вялікая жанчына. Ростам гэтая жанчына была тры аршыны. Ваду яна насіла на гору вялікімі цэбрамі, па два цэбры за адзін раз, а ў кожным цэбры было па 15 судаў.

Каля той гары ішло нейкае татарскае войска. І запыталіся ў гэтае жанчыны-багатыркі, дзе дарога да беларускага войска? Жанчына-багатырка ўзяла ды і завяла войска татарскае ў балота, дзе яго беларускае войска і пабіла. Рэштка татарскага войска, уцякаючы назад, забіла жанчыну-багатырку і пахавала на гэтай гары. Гара і стала звацца пасля гэтага — Багатыр-гара.

Пазнаёмцеся з гісторыяй паходжання некаторых беларускіх найменняў.

АРЭСА — прыток Пцічы, назва балтыйскага паходжання. Знойдзена старое балтыйскае слова а р э с, што азначала назву птушкі — вадзяны дрозд ці кулік.

АШМЯНЫ — горад у Гродзенскай вобласці. Назва балтыйскага паходжання. Нагадвае літоўскае слова — асабістае, уласнае /зямляўладанне/.

БАБРУЙСК - па імю рэчкі Бабруі. Аснову назвы складае слова б о б р,

БАРИСАЎ - назва дадзена па імю аднаго з удзельных князёў."Борис Всеславич Полоцкий ходил на ятвягов и,победя их,возвратясь,поставил град Борисов в свое имя".

БЕЛАВЕЖСКАЯ ПУШЧА - назву звязваюць са старажытнай вежай каля г.Камянца. Магчыма,некалі гэта вежа была белая. У пушчы на тэрыторыі Польшчы ёсць і горад Белавеж,названы па імя другой Белай вежы. Мяркуюць,што назва гэтай вежы і зазначана ў назве польскага горада і Белавежскай пушчы. Аднак,калі з'явілася назва Белавежская пушча /1410г./,не было яшчэ горада Белавежа,існавала толькі адна вежа каля Камянца.

БРЭСТ - першапачатковая летапісная форма Берестье,затым - Берасце,Брэсце,Бжэст,Брэст-Літоўскі. Магчымы два тлумачэнні назвы: 1.б я р о с т а - бярозавая кара,якая ў гаспадарцы старажытных славян шырока ўжывалася для вырабу рознага гаспадарчага ўжытку; 2. звязваюць гэту назву з назвай дрэва бераста. Але гэта назва з'явілася адносна нядаўна ад слова бяроста.

ЗАХОДНІ БУГ - у аснове назвы - слова,якое зараз у сваім першапачатковым сэнсе не ўжываецца. Гэтую аснову сустракаем у словах б у г о р,б у г - згіб,пукатасць.

БЯГОМЛЬ - форма -ЛЬ сведчыць аб старадаўнасці назвы. Магчыма,што некалі гэта было паселішча беглых ад прыгону,якія хаваліся тут, далёка ад ажыўленых шляхоў і вялікіх гарадоў.

ВІЦЬБА - рака. У аснове - стары тэрмін в і ц ь,п а в і ц ц е,што азначала тонкае месца,балота.

ГРОДНА - у гістарычных помніках - Гарадзень,Городно. У аснове назвы - слова горад. Гук "о" у першым складзе знік пад уплывам польскай мовы.

КРЫЧАЎ - назва паходзіць ад старaславянскага слова к р ы ч -каваль. Крычніцамі некалі звалі кузні. Крычаў - паселішча,дзе жыве крыч.



МАГІЛЕЎ - ад уласнага імя Магіла. Аб гэтым сведчыць і форма на -ЁЎ. Клічка Магілы ўжывалася для характарыстыкі чалавека маўклівага і таямнічага. Ёсць сведчанні таго,што заснавальнікам горада быў князь Леў Даніілавіч Могій,а створаны ім замак звалі Могіевым замкам. Але гэта сцвярджэнне нельга лічыць дакументальна пацверджаным.

МАЛАДЗЕЧНА - у аснове назвы - слова м а л а д з е ц. Але сэнс слова з цягам часу некалькі змяніўся:у даўнія часы малайцом звалі таксама парабка,воіна ў дружыне князя.

НАРАЧ - у літоўскай мове ёсць блізкія словы н а р а,н а р а с /нырок,гагарка,качка/.

НЯМІГА - у літоўскай мове н я м і г а - бяссонніца. Гэта значыць бяссонная,гаварлівая рэчка /не мигать - быть начеку/.

ПОЛАЦК - горад на рацэ Палаце,полацкі горад.

1. Складзіце аповяд аб гісторыі паходжання геаграфічных назваў Мінска і яго наваколля ці іншага населенага пункта.

IV. ХВІЛІНКА АДПАЧЫНКУ

Я.КУПАЛА

Спадчына

Ад прадзедаў спакон вякоў
Мне засталася спадчына;
Паміж сваіх і чужакоў
Яна мне ласкай матчынай.

Аб ёй мне баяць казкі-сны
Вясеннія праталіны,
І лесу шэлест верасны,
І ў полі дуб апалены.

Аб ёй мне будзіць успаміп
На ліпе бусел клёкатам
І той стары аншалы тын,
Што лёг ля вёсак покатам;

І тое нуднае ягнят
Бляянне-зоў на пасьбішчы,
І крык варонiных грамад.
На могілкавым кладзьбішчы.

І ў белы дзень, і ў чорну ноч
Я ўсцях рабяю агледзены,
Ці гэты скарб не збрыў дзе проч,
Ці трутнем ён не з'едзены.

Нашу яго ў жывой душы,
Як вечны светач-полымя,
Што сярод цемры і глушы
Мне свеціць міх вандоламі.

Жыве ў іх душ мая сям'я
І сніць з імі сны нязводныя...
Завецца ж спадчына мая
Усяго Старонкай Роднаю.

## V. ЗАМЕСТ АПОШНЯЙ НЕПАДРЫХТАВАНАЙ ГУТАРКІ

Скончыліся нашы ўрокі беларускай мовы. Якіх вынікаў вы дасягнулі? На гэта пытанне дапаможа вам адказаць анкета. Калі ласка, пазнаёмцеся з ёю і дайце адказы на ле пытанні.

1.

| | | | |
|---|---|---|---|
| 1. Чытаю газеты /кнігі/ пастаянна на бел.мове | часам | ніколі | |
| Слухаю радыёперадачы на бел. мове | | | |
| 2. Размаўляю на бел. мове | упэўнена | няўпэўнена | пазбягаю |
| Пішу на бел.мове | | | |
| Іс... | | | |
| 3. Думаю на бел.мове | заўсёды | зрэдку | ніколі |

2.

Прачытайце і выберыце варыянты адказаў, якія найбольш поўна адпавядаюць вашым цікавасцям. Абгрунтуйце ваш выбар.

1. Цікаўлюся гісторыяй зямлі беларускай.
2. Хачу больш глыбока пазнаёміцца з традыцыямі, звычаямі, святамі народа.
3. Мяне вабіць беларускі фальклор.
4. Я зацікавіўся беларускімі ранёствамі.
5. Мне надабаецца матэрыял аб старажытных помніках рэспублікі.
6. Хацеў бы больш шырока даведацца аб паходжанні геаграфічных найменняў ці ўласных імёнаў і прозвішчаў.
7. Аддаю перавагу гісторыі беларускага войска, яго ўдзелу ў вялікіх бітвах.
8. Мяне прываблівабць лёсы людзей зямлі беларускай.

# С Л О Ў Н І К

## А

абавязак - абавязанность,долг
абараняць - защищать
абачлівы - осмотрительный
абгрунтаваць - обосновать
абібок - лентяй
абіраць - 1.обирать; 2.чистить/кожуру
абраз - икона
абраць - избрать
абрус - скатерть
абрыс - очертание,облик
абслуга - обслуживание
абумовіць - обусловить
абурацца - возмущаться
абурэнне - возмущение
абцугі - клещи
абыякавы - безразличный,равнодушный
аб'яднанне - объединение
абяцаць - обещать
авалодаць - овладеть
адбітак - отпечаток
адбывацца - случаться,происходить
адвага - отвага,смелость
адважны - отважный,смелый
адгэтуль - отсюда
адзначаць - отмечать
адказ - ответ
адказваць - отвечать
адкуль - откуда
адлегласць - 1.расстояние;2.отдаление



адліга - оттепель
адлюстроўваць - отражать,отображать
адметны - отличительный,заметный
адмова - отказ
адмовіць - отказать
адмоўна - отрицательно
адмысловы - особый,специальный
аднак - однако,но
аднекуль - откуда-то
аднойчы - однажды
адносіны - отношения
адносіцца - относиться
адпачываць - отдыхать
адпачынак - 1.отдых;2.отпуск
адрозніваць - отличать,различать
адсутнічаць - отсутствовать
адтуліна - отверстие
адукацыя - образование,просвещение
адсюль - отсюда
адхіляць - отклонять
адчапіцца - отцепиться
адчуваць - чувствовать,испытывать
аздоба - украшение,отделка
аздабляць - украшать,отделывать
азначальны - определительный
айчына - отечество,отчизна
акрамя - кроме
але - но,однако
алей - масло /растительное/
амаль - почти
аматар - любитель
апалонік - поварёшка
апоўдні - в полдень
апошні - последний
апранацца - одеваться
апрача - кроме,помимо
апынуцца - очутиться,оказаться
асаблівасць - особенность
асабовы - личный

| | | |
|---|---|---|
| асілак | - | силач |
| асоба | - | личность |
| асобны | - | отдельный |
| астатні | - | последний |
| асяродак | - | 1.сердцевина; 2.сердечник /тока/ |
| асяроддзе | - | среда |
| атаясамліваць атаясняць | - | отождествлять |
| атаясамліванне атаясненне | - | отождествление |
| ахвота | - | желание,охота |
| ахвяра | - | жертва |
| ахвяраваць | - | жертвовать |
| ашчадны | - | 1.бережливый; 2.сберегательный |

Б

| | | |
|---|---|---|
| бавоўна | - | хлопок |
| баваўняны | - | хлопковый |
| бадай | - | пожалуй,почти |
| бараніць/цца/ | - | оборонять/ся/,защищать/ся/ |
| бачыць | - | видеть |
| бегчы | - | бежать |
| безумоўна | - | безусловно |
| бервяно | - | бревно |
| благі | - | плохой,скверный, нездоровый |
| блакітны | - | голубой |
| блёкат | - | белена |
| бот | - | сапог |
| брама | - | ворота |
| брудны | - | грязный,нечистый |
| будаваць | - | строить |
| бурак | - | свёкла |
| бурштын | - | янтарь |
| бедаваць | - | горевать |
| бязлітасны | - | жестокий |





В

| | | |
|---|---|---|
| важкі | - | 1.веский; убедительный; 2.тяжелый |
| вакол | - | вокруг |
| валодаць | - | владеть,обладать |
| вандраваць | - | путешествовать, странствовать |
| вандроўка вандраванне | - | странствие,путешествие |
| вантрабянка | - | ливерная колбаса |
| варты | - | достойный,стоящий |
| вар | - | [illegible] |
| ведаць | - | знать |
| верагодна | - | вероятно |
| верасень | - | сентябрь |
| вернік | - | верующий |
| вестка | - | известие,сведение |
| вершнік | - | всадник |
| ветлівасць | - | вежливость,любезность |
| вёска | - | деревня |
| відаць | - | видно |
| відавочна | - | очевидно |
| відэлец | - | вилка |
| вільгаць | - | влажность |
| вітацца | - | здороваться, приветствовать |
| вогнішча | - | 1.костер; 2.кострище, огнище |
| вока | - | глаз |
| вораг | - | враг |
| вось | - | вот |
| воцат | - | уксус |
| выдавецтва | - | издательство |
| вызваліцель | - | освободитель |
| вызначаць | - | определять |
| выказваць | - | высказывать,выражать |

выкладаць - преподавать
вымаўляць - произносить
вымова - выговор, порицание
вымусіць - вынудить, принудить
вынік - результат, итог
выпрабаванне - испытание
выраб -- изделие
выраз - выражение
вырачаны - вытаращенный
выснова - вывод, заключение
вытворчасць - производство
выток - исток
выява - изображение
вэндзіць - коптить
відома - известно
вялікі -- большой
вясёлка - радуга
вячэра - ужин

## Г

гаворка - разговор, молва
гадаваць - растить, воспитывать
гаіцца - заживать
ганебны - позорный, постыдный
галіна - отрасль
ганарлівы - горделивый
ганарыцца - гордиться
гандаль - торговля
гандляваць - торговать
гарбуз - тыква
гармата - орудие, пушка
гарэлка - водка
гаспадар - хозяин
гаспадарка - хозяйство
гасцінец - большак, тракт
гатаваць - готовить, заготавлива
гінуць - гибнуть



глядзець - смотреть
годны - достойный
гонар - честь, почёт
горача - жарко
грошы - деньги
грунтоўна - обстоятельно, основательно
грэбля - гать, плотина
гузік - пуговица
гук - звук
гульня - игра
гуляць - играть
гумно - сарай
гурток - кружок
густ - вкус
гутарыць - беседовать, разговаривать
гучаць - звучать
гэтулькі - столько

## Д

даведацца - узнать /о ком, о чём/
даводзіцца - 1. безл. доводиться; 2. приходиться /быть в родстве/
дагары - вверх, кверху
даглядаць /каго/ - ухаживать /за кем, чем/, заботиться
дакладны - точный, достоверный
далучацца /да каго, чаго/ - присоединяться /к кому, к чему/
далучэнне - присоединение
дамаўляцца - договариваться
дапамагаць - помогать
дапамога -- помощь
дарослы - взрослый
дарэчы - кстати

| | | |
|---|---|---|
| даследаваць | | исследовать |
| дасціпны | - | находчивый |
| дасягаць | - | достигать |
| дасягненне | - | достижение |
| датычыцца | - | касаться, относиться |
| даўгалецце | - | долголетие |
| даўніна | - | старина |
| дачасна | - | преждевременно |
| добразычлівы | - | доброжелательный |
| дойлід | - | зодчий |
| досвіткам | - | на рассвете |
| досыць | - | достаточно |
| дотык | - | прикосновение |
| драбненне | - | измельчение |
| драбніць | - | измельчать, дробить |
| друкар | - | печатник, типограф |
| друкаваць | - | печатать |
| друкарня | - | типография |
| дужа | - | сильно |
| дыван | - | ковёр |

ДЗ

| | | |
|---|---|---|
| дзесь/дзесьці/ | - | где-то |
| дзеяслоў | - | глагол |
| дзеяч | - | деятель |
| дзівак | - | чудак |
| дзівіцца | - | удивляться |
| дзяжа | - | квашня, дежа |
| дзякаваць/каму/ | - | благодарить/кого/ |
| дзякуй | - | спасибо |

Е

| | | |
|---|---|---|
| еднасць | - | единство, сплочённость |

| | | |
|---|---|---|
| жадаць | - | желать, хотеть |
| жалоба | - | скорбь |
| жарт | - | шутка |
| жах | - | ужас, страх |
| жнівень | - | август |
| жур | - | кісель |
| журба | - | грусть, печаль |
| журботны | - | грустный, печальный |
| жырандоль | - | жирандоль |
| жыта | - | рожь |
| жыхар | - | житель |
| жыццяпіс | - | жизнеописание |

З

| | | |
|---|---|---|
| забараняць | - | запрещать |
| забяспечваць | - | обеспечивать |
| завіруха | - | метель, вьюга |
| завушніца | - | серьга |
| загад | - | приказ |
| загадзя | - | заблаговременно, заранее |
| задаволіць | - | удовлетворить |
| зайздросціць | - | завидовать |
| займеннік | - | местоимение |
| заляцацца | - | ухаживать |
| замацёўваць | - | укрепить |
| замест | - | вместо |
| запалкі | - | спички |
| заплюшчыць | - | закрыть |
| запрашаць | - | приглашать |
| засведчыць | - | засвидетельствовать |
| заслугоўваць | - | заслуживать |
| засмуціцца | - | опечалиться, огорчиться |
| заснаваць | - | основать |
| заўвага | - | замечание |
| заўжды, заўсёды | - | всегда |
| захаваць | - | сохранить |

| | | |
|---|---|---|
| захад | - | запад |
| захапіць | - | захватить |
| захапляцца | - | увлекаться |
| захінуць | - | запахнуть, завернуть |
| зацвердзіць | - | утвердить |
| заява | - | заявление |
| збан | - | кувшин |
| збожжа | - | 1.зерно; 2.хлеб |
| збройнік | - | оружейник |
| зброя | - | оружие |
| збянтэжыцца | - | растеряться, смутиться |
| зважаць | - | обращать внимание |
| звесткі | - | сведения |
| звычай | - | обычай |
| звычайны | - | обычный |
| звяртацца | - | обращаться |
| згода | - | согласие |
| зграя | - | стая, свора |
| здаецца | - | кажется |
| здарацца | - | случаться |
| здолець | - | 1.суметь, смочь; 2.одолеть |
| здольнасць | - | способность |
| здрада | - | измена |
| здзяйсняць | - | осуществлять |
| зелле | - | 1.лекарство, зелье; 2.сорняки |
| злаваць | - | злиться |
| зліняны | - | выцветший |
| злітавацца | - | сжалиться, пощадить |
| злучаць | - | соединять |
| змагацца | - | бороться |
| змест | - | содержание |
| змова | - | заговор, сговор |
| змястоўны | - | содержательный |
| знадворку | - | снаружи, извне |
| знікаць | - | исчезать |
| знішчаць | - | уничтожать, истреблять |



| | | |
|---|---|---|
| зручны | - | удобный |
| зрэшты | - | впрочем |
| зяленіва | - | зелень |

І

| | | |
|---|---|---|
| імклівы | - | стремительный |
| імкнуцца | - | стремиться |
| іначай | - | иначе, по-иному |
| іншаземец | - | иностранец |
| іншамоўны | - | иноязычный |
| іншы | - | другой |
| існаваць | - | существовать |
| істота | - | существо |
| істотны | - | существенный |

К

| | | |
|---|---|---|
| казаць | - | говорить |
| калі | - | когда |
| калісьці | - | когда-то |
| калодзеж | - | колодец |
| каля | - | около |
| каляровы | - | цветной |
| камізэлька | - | жилет, жилетка |
| каптан | - | кафтан |
| каралі | - | бусы, ожерелье |
| карыстацца | - | пользоваться |
| кастрычнік | - | октябрь |
| каўнер | - | ворот, воротник |
| кахаць | - | любить |
| кветка | - | цветок |
| кемлівы | - | сообразительный |
| кепска | - | плохо |
| кілішак | - | рюмка |
| кіраваць | - | управлять, руководить |

кірпаты - курносый
кішэнь /ж/ - карман /м/
клапаціцца - заботиться
клікаць - звать
клопат - забота, беспокойство
князёўна - княжна
кожны - каждый
колер - цвет
колькасць - количество, численность
коўдра - одеяло
коўзкі - скользкий
кпіць /з каго, чаго/ - насмехаться, шутить /над кем, чем/
кравец - портной
красавік - апрель
крок - шаг
крочыць - шагать
крумкач - ворон
крыж - крест
крыжак - крестоносец
крыніца - 1. родник; 2. источник
крысо - пола
крыху - немного
куляцца - кувыркаться
кут - угол
куфар - сундук
кучаравы - кудрявый

## Л

лагодны - добродушный, кроткий
лазня - баня
ласкавы - ласковый
ледзь - едва, еле
ленавацца - лениться
лесвіца - лестница



летась - прошлым летом, в прошлом году
лёс - судьба
лік - 1. число; 2. счёт
ліпень - июль
лістапад - ноябрь
літара - буква
лічыць - считать
ліхалецце - безвременье, лихолетье
лічэбнік - имя числительное
ложак - кровать, койка
лыжка - ложка
люты - февраль
ля - около
лямант - вопль, крик

## М

мабыць - пожалуй, вероятно
магутны - мощный, могущественный
магчымасць - возможность
маёнтак - поместье, имение, усадьба
майстэрня - мастерская
маланка - молния
мара - мечта
марыць - мечтать
мастак - художник
мастацкі - художественный
меркаванне - суждение, предположение
меркаваць - толковать, рассуждать
месціцца - находиться, размещаться
міласэрнасць - милосердие
мінулае - прошлое
мінаць - миновать, проходить
міска - миска
млын - мельница
мова - 1. язык; 2. речь

| | | |
|---|---|---|
| мужны | - | смелый, мужественный |
| мусіць | - | 1. быть должным; 2. вероятно, пожалуй |
| мяжа | - | граница |
| мянушка | - | кличка, прозвище |
| мясцовасць | - | местность |
| месны | - | местный |

Н

| | | |
|---|---|---|
| набажэнства | - | молебен, богослужение |
| набываць | - | приобретать, получать |
| навальніца | - | гроза |
| наведвацца /куды/ | - | посещать /что/ |
| навокал | - | вокруг |
| навуковец | - | ученый |
| навучальны | - | учебный |
| навучанне | - | учение, обучение |
| навучацца | - | учиться, обучаться |
| нагадваць /імя/ | - | напоминать |
| надвор'е | - | погода |
| надта | - | очень, слишком |
| назіраць | - | наблюдать |
| назоўнік | - | имя существительное |
| найменне | - | наименование |
| наконт | - | насчет, относительно |
| накіравацца | - | направиться |
| накшталт | - | наподобие, вроде |
| належаць | - | принадлежать |
| намаганне | - | старание, усилие |
| намеснік | - | заместитель |
| наогул | - | вообще |
| напаткаць | - | встретить |
| напрыклад | - | например |
| напэўна | - | наверно |
| нарада | - | совет, совещание |
| нарэшце | - | наконец |
| наўцёкі | - | наутёк |
| націск | - | ударение |



| | | |
|---|---|---|
| нацянькі | - | напрямик |
| нашчадкі | - | потомки |
| неабходна | - | необходимо |
| недарэчны | - | нелепый, глупый |
| нейкі | - | какой-то |
| нельга | - | нельзя |
| несумненна | - | несомненно |
| неўзабаве | - | вскоре |
| нехта | - | кто-то |
| неяк | - | как-то |
| нібы, нібыта | - | будто, как будто |
| ніколі | - | никогда |
| нічога | - | ничего |
| нядбайны | - | нерадивый |
| няўжо | - | неужели |
| няўрымслівы | - | неугомонный, нетерпеливый |
| няхай | - | пусть |

П

| | | |
|---|---|---|
| пабудова | - | строение |
| павага | - | уважение |
| паважлівы | - | уважительный |
| паведаміць | - | сообщить |
| паверх | - | этаж |
| павет | - | уезд, повет |
| павінен | - | должен |
| паводле | - | согласно /кому, чему/ |
| пагадзіцца | - | 1. согласиться; 2. помириться, примириться |
| пагроза | - | угроза |
| падабацца | - | нравиться |
| падагульняць | - | обобщать |
| паданне | - | предание |
| падарожжа | - | путешествие |
| падвячорак | - | полдник |
| падкрэсліць | - | подчеркнуть |

падлога – пол
падмацаванне – подкрепление
падрабязна – подробно
падрыхтаваць – подготовить
падстава – основание,повод,предлог
падтрымліваць – поддерживать
падчас – иногда,временами
падзея – событие
падзяка – благодарность
пазычаць – 1.одалживать;
2.занимать/брать в долг/
паліва – топливо
палова – половина
палон – плен
паляванне – охота
паляваць – охотиться
паміж – между
памылка – ошибка
памятаць – помнить
памяшканне – помещение
панурь – угрюмый
панчохі – чулки
папаска – выпас
папера – бумага
папярэджваць – предупреждать
парасон – зонт
парэчкі – смородина
пасада – должность
паскараць – ускорять
пастанова – постановление
пасяджэнне – заседание
патыліца – затылок
паўскоч – вприпрыжку
пахаваць- – похоронить
паходня – факел
паходжанне – происхождение
пачастунак – угощение
пачуццё – чувство



пашана – почет,почтение,
почтительность
певень – петух
пераасэнсаваць – переосмыслить
перавага – преимущество
пераконваць – убеждать
перапынак – перерыв
перашкаджаць – мешать
пернік – пряник
плыт – плот
плыткі – мелкий,мелководный
побач – рядом
погляд – взгляд,взор
полудзень – 1.полдник;2.разг.обед;
3.полдень
полымя – пламя
помста – месть
попел – пепел
посны – нежирный
поспех – успех
посуд – посуда
посцілка – постилка,покрывало
потым – потом
поўдзень – юг
поўнач – север
прабачце – извините
прадвызначыць – предрешить,предопре-
делить,предначертать
прадмова – предисловие,вступление
прадугледжваць – предусматривать
прадухіліць – предотвратить
прадчуваць – 1.предчувствовать;
2.предвкушать
праз – через
прамова – речь
прапанова – предложение
прасаваць – гладить,утюжить
праца – труд
працягваць – продолжать

прачынацца – просыпаться
продкі – предки
прыбіральня – уборная
прыватны – собственный
прыгадаць – 1. вспоминать;
2. напоминать;
3. упомянуть
прыгожы – красивый
прыгон – крепостное право
прыемны – приятный
прыкладна – примерно
прыкра – обидно, неприятно
прылада – 1. приспособление;
прибор;
2. мн. принадлежности;
3. орудие
прымушаць – заставлять
прынамсі – по крайней мере
прыслоўе – наречие
прыстойны – приличный, порядочный
прыхільнасць – 1. приверженность;
2. привязанность;
– 3. расположение;
4. влечение
прычым – причем
псавацца – портиться
пытанне – вопрос
пэўны – 1. надежный; 2. определенный; 3. твердый, уверенный
пярсцёнак – перстень

## Р

рабаваць – грабить
рабаўніцтва – грабёж
рагатаць – громко смеяться
радок – строчка
разам – вместе
разлік – расчёт



размова – разговор, беседа
размаўляць – разговаривать, беседовать
разуменне – понимание
разумець – понимать
разьбярства – резьба
раз'юшаны – разъяренный
раіць – советовать
раптам – вдруг, внезапно
распавядаць – рассказывать
распаўсюджваць – распространять
распрацоўваць – разрабатывать
ратаваць- – спасать
рахманасць – кротость, покладистость
рахманы – кроткий, покладистый
рогат – громкий смех, хохот
роздум – раздумье
розны – разный
росквіт – расцвет
роспач – отчаяние
рошчына – опара
руйнаваць – разорять, разрушать
руплівы – старательный, прилежный
рух – движение
рухацца – двигаться
ручнік – полотенце
рыса – черта
рыхтавацца – готовиться
рэха – эхо
рэч – вещь
рэшткі – остатки

## С

садзейнічаць – способствовать
сакавік – март
сапраўды – действительно, точно
саромецца – стыдиться
сачыць – следить

свавольны — 1.шаловливый,озорной;
2.своевольный,строптивый

сведка — свидетель
свідраваць — сверлить
свядомы — сознательный
свята — праздник
сёлета — в этом году
селянін — крестьянин
сівець — седеть
скарб — клад
склад — 1.склад; 2.состав;
3.слог

складана — сложно
скласці — сложить,составлять
скронь — висок
скрыль — ломоть
скрыня — ларь,сундук
скура — кожа
славуты — знаменитый,,известный
слухач — слушатель
слушна — правильно
смак — вкус
смачны — вкусный
сметнік — помойка,свалка
снеданне,сняданак — завтрак
снежань — декабрь
сорам — стыд
спаборніцтва — соревнование
спагадлівы — чуткий
спадніца — юбка
спадзявацца — надеяться
спазняцца — опаздывать
спалучэнне — сочетание,соединение
спасылацца — ссылаться
спасцігнуць — постичь,постигнуть
спачатку — сначала
спачуваць — сочувствовать
сподак — блюдце
спрабаваць — пробовать



справа — дело
спрадвеку — испокон веку
спражка — пряжка
спраўна — 1.исправно;2.ловко;
3.удобно

спрачацца — спорить
спрыяць — способствовать,
благоприятствовать

спяваць — петь
спякота — жара
сродак — средство
ставіцца — относиться
стамляцца — уставать
стан — 1.стан; 2.залог;
3.положение,состояние

становішча — положение
старажытны — древний
старшыня — председатель
ствараць — создавать
страва — блюдо
страха — крыша
страчваць — терять
стрымліваць — сдерживать
студзень — январь
суайчыннік — соотечественник
сумаваць — скучать
сумленне — совесть
сумненне — сомнение
сумнявацца — сомневаться
супадаць — совпадать
супраць — против
сурвэтка — салфетка
сустракацца — встречаться
суцяшаць — утешать
сучасны — современный
схіліцца — склониться
сход — собрание
сцвярджаць — утверждать
сцежка,сцяжынка — дорожка

сцяг - флаг
сэнс - смысл
сябар - друг
сярод - среди
сярэднявечча - средние века

Т

таварыскі - общительный
тагачасны - тогдашний.
тады - иногда
таемны - тайный
таленавіты - талантливый
талент - талант
таямніца - тайна, секрет
твар - лицо
тлумачыць - толковать, объяснять
тлумачэнне - толкование, объяснение
тлусты - жирный, тучный
тлушч - жир
трапіць - попасть
трымаць - держать
трыснёг - тростник
трэба - нужно
тузін - дюжина
турбаваць - беспокоить, тревожить
тычыцца /каго, чаго/ - касаться, иметь отношение /к кому, чему/

У

увага - внимание
уважлівы - внимательный
увасабляць - воплощать
увішны - проворный, ловкий
увогуле - вообще
уголас - вслух
удзел - участие
удзельнічаць - участвовать
удзячнасць - благодарность, признательность
ужываць - употреблять
ужытак - употребление
узбагачаць - обогащать
узбіваць - взбивать
узлесак - опушка
узнагародзіць - наградить
узначальваць - возглавлять
узнікаць - возникать
узор - образец
узровень - уровень
уз'яднацца - воссоединяться
уладарніцтва - владение
уладаць - владеть
уласны - собственный
уласцівы - свойственный, характерный
упарта - настойчиво, упорно
упершыню - впервые
уплываць - влиять
уплывовы - влиятельный
уплыў - влияние
упрыгожанне - украшение
упрыгожваць - украшать
упэўненасць - уверенность, убежденность
урад - правительство
урадавы - правительственный
уражанне - впечатление
уразіць - 1. взволновать; 2. оскорбить
ураўнаважанне - уравновешивание
урочышча - урочище
усведамляць - осознавать
ускосны /склон/ - косвенный
услых - вслух
усмешка - улыбка
усталёўвацца - 1. устанавливаться; 2. устраиваться
усхваляваць - взволновать, возбудить
усход - восход

| | | |
|---|---|---|
| утварацца | - | образовываться |
| утварэнне | - | образование |
| утрапёны | - | одержимый, неистовый |
| ухапіць | - | ухватить |
| ухіляцца | - | уклоняться |
| уцякаць | - | убегать, бежать |
| учашчаць | - | учащать |
| учыняць | - | поступать, совершать |
| ушчэнт | - | вдребезги, до основания, дотла |

Ф

| | | |
|---|---|---|
| фарба | - | краска |
| фарбаваць | - | красить, окрашивать |

Х

| | | |
|---|---|---|
| хабар | - | взятка |
| халява | - | голенище /сапога/ |
| хараство | - | красота, прелесть |
| хвароба | - | болезнь |
| хварэць | - | болеть |
| хвіліна | - | минута |
| хістацца | - | шататься, колебаться |
| хмара | - | туча |
| хутчэй | - | быстрей |
| хустка | - | платок |

Ц

| | | |
|---|---|---|
| цагліна | - | кирпичина |
| ці | - | ли |
| цікавіцца | - | интересоваться |
| цікавы | - | интересный |
| цуда | - | чудо |
| цудоўны | - | чудесный |
| цыбуля | - | лук |
| цывільны | - | штатский, гражданский |
| цыгарэта | - | сигарета |
| цырульнік | - | парикмахер |
| цырульня | - | парикмахерская |
| цэбар | - | ушат |
| цэгла | - | кирпич |
| цягнік | - | поезд |

Ч

| | | |
|---|---|---|
| чакаць | - | ждать |
| чаму | - | почему |
| чаравікі | - | туфли |
| чарга | - | очередь |
| чараўнік | - | 1. волшебник; 2. знахарь |
| чарка | - | рюмка |
| чароўны | - | 1. волшебный; 2. обаятельный, очаровательный |
| час | - | время |
| часам | - | иногда, порой |
| часовы | - | временный |
| часопіс | - | журнал |
| частаванне | - | угощение |
| частаваць | - | угощать |
| чвэрць | - | четверть |
| чулы | - | чуткий |
| чуць | - | слышать |
| чырвоны | - | красный |

Ш

| | | |
|---|---|---|
| шалі | - | весы |
| шанаваць | - | 1. уважать, почитать; 2. беречь |
| шаноўны | - | почтенный, уважаемый |
| шкада | - | жаль |
| шкадаваць | - | жалеть |
| [illegible] | - | [illegible] |

шкло — стекло
шклянка — стакан
шкодзіць — вредить
шлях — путь,тракт
шмат — много
шпіталь — госпиталь
штурхаць — толкать
штучны — искусственный
шукаць — искать
шчаня /ё/ — щенок
шчасціць — счастливиться,везти
шчодры — щедрый
шчопце — щепотка
шчыльны — плотный,тесный
шэраг — ряд /проблем/
шэры — серый

Я

якасць — качество
ясны — ясный
яшчэ — ещё



# В О Л Ь Н Ы М  Ч А С А М

## СТАРАЖЫТНЫЯ НАСЕЛЬНІКІ БЕЛАРУСІ

Каля часоў IX сталецьця паміж заходнІмІ НоўгарадзкІмІ І КІеўскІмІ землямІ, па верхняй Заходняй ДзьвІне І верхняму Дняпру з Прыпяцьцю, БярэзІнаю І Сожам ляглІ землІ будучай БеларусІ, каторыя цэнтравалІся ўкола гораду Полацку. Гэта ёсьць так званая Полацкая Русь.

НасельнІкамІ вышэйпаказанай тэрыторыІ (Полацкай) былІ тры усходне-славянскІя, рускІя плямёньнІ: крывІчы,дрыгвІчы І радзІмІчы. Сярод крывІчоў І дрыгвІчоў жылІ яшчэ лІтвІны, напр.,ятвягІ.

НайвялІкшым племем былІ крывІчы, каторыя жылІ па вышнявІнах рэк – Заходняй ДзьвІны, Дняпра І ЛавацІ. Што датычыць назвы "крывІчы", то адны вучоныя гавораць, што крывІча так назвалІ за тое, што ён быў хІтры, крывадушны чалавек. ДругІя вучоныя вядуць Імя "крывІчы" ад слова "кроў", тады назву "крывІчы" магчыма разумець: "сваякІ па крывІ", кроўныя.Раскіданыя па шырокаму абшару, крывІчы сваёю назваю як бы падкрэсьлІвалІ сваё сваяцтва. ДрыгвІчы расьсялялІся памІж Прыпяцьцю І Заходняй ДзьвІною. СярэдзІна сялІбы дрыгвІчоў супадае з нашай Меншчынай. Яны жылІ пасярод лясоў І балот, дзе шмат было багнІн, Інакш кажучы, дрыгвы. Адсюль І пашло Іх Імя. Пасьля Іх толькІ ў Меншчыне засталося больш як 30 тысяч курганоў-магІльнІкаў. РадзІмІчы былІ невялІкІм племем І жылІ па абодвух берагох Сожу. Яны прышлІ сюды пазьней ад крывІчоў І дрыгвІчоў з ляскай (польскай) страны. ЛетапІс гаворыць аб Іх так:"Бяста бо два брата в Лясех: РадІм, а другІ Вятко, І прІшедша седоста РадІм на Соже, І прозвашася РадІмІчІ, Вятко седе с родом своІм по Оце, от него ж прозвашася ВятІчІ".

КалІ мы запытваемся ў чужаземных сьведкаў, усе яны ў адзІн голас кажуць аб тым, што ўсходнІя славяне ўжо І ў часы сІвой старасьветчыны мелІ нейкую культуру І нават немалую.

Гэтаніс дае навуныя весткі аб вялікім ліку гарадоў, якія ужо існавалі тады па ўсіх кутках тагачаснай Полацкай РусI. А мы ведаем, што прысутнасць у народу гарадоў, як гандлёвых цэнтраў, гаворыць зусім ясна аб культурнасцI народу.

Па тых рэчах, што знаходзяцца ў курганах, ясна, што дзяды нашыя ня скваппы былI да вайны, Iм больш падабалася мIрная праца: земляробства, звераловства I гандаль. Яны ўмелI ўжо ткаць на кроснах, ведалI бандарную I ганчарную справу. БылI сярод Iх людзI заможныя, каторыя любIлI хораша прыбрацца. На шыI яны насIлI манIсты з шкляных пацерак; часам бронзавых I срэбных, з размаІтымI падвескамI, добра апрацаванымI. ВIдаць, што пацеркI, вельмI штучна зробленыя, дзесь куплялIся.

Беларус нашага часу ня можа прыбрацца так багата I цIкава, як маглI прыбрацца яго продкI. Праф. ЗавIтневIч аб курганавых рэчах гаворыць так:" Курганные предметы Полесья по своему материалу ценнее, а по форме разнообразнее, затейливее, а иногда даже изящнее нынешних". I няма тут нIякага дзIва. Нашу бацькаўшчыну багацIў вялIкI водны шлях з Варагаў у ВIзантыю, па каторым Iшоў сусьветны гандаль таго часу. У гэтым гандлI працавалI I мелI немалы заробак I нашы прарадзIчы.

У.Ігнатоўскі
"Кароткі нарыс гісторыі Беларусі"

ТРАДЫЦЫІ І ЗВЫЧАІ БЕЛАРУСІ

Д з я д ы

Дзяды – перажытак культу продкаў у славян. ЛюдзI верылI, што душа чалавека пасля смерцI, перш чым ёй пайсцI ў рай цI ў пекла, доўга блукае на свеце I патрабуе ежы I пIтва. Таму ладзIлIся памIнальныя сталы, трызны, на 6,9 і 40 дзень, а таксама ў гадавIну смерцI. На жалобны стол абавязкова ставIлIся куцця, клёцкI I гарэлка. Нябожчыкаў клIкалI да сябе так: "Святыя дзяды! Завем вас, хадзIце да нас". Традыцыйна дзяды адзначаюцца вясною, летам, увосень I зImою. Асеннія лічацца самымі галоўнымі.

Дзядуюць поўна рэчам [illegible]. Накрываюць стол белым абрусам, кладуць хлеб-соль, ставяць куццю. Перад абразамI запальваецца свечка. [illegible], пасля чаго гаспадар выходзIць за дзверы I запрашае продкаў-дзядоў далучыцца да сямейнай абрадавай вячэры, якая можа складацца з сямI страў. Ядуць "пакладаючыся", г.зн. праглынуць лыжку "патравы" I даць магчымасць "тое ж зрабIць дзядам" – кладуць да Iх свае лыжкI. Аднак маючы на ўвазе, што дзядоў можа быць больш, чым кладзецца лыжак, гаспадары адкладваюць I адлIваюць усялякай ежы I ставяць яе на вокны I пад стол.

Ёсць звычай нIчога нI прыбIраць са стала пасля гэтай вячэры, каб дзядам было што есцI, калI яны збяруцца ўначы.

К а л я д ы

Жадаем вам зорнага неба на каляды, Iнею на дрэвах, снегу I мяцелIцы. Менавіта з такIмI пажаданнямI звярталIся да сваIх блIзкIх, суседзяў I знаёмых нашы далёкIя продкI падчас Каляд. Зорнае неба на куццю абяцала ўраджай ягад I грыбоў, Iней на дрэвах – багатую квецень у садах, снег I мяцелIца – што будуць добра роIцца пчолы. Увогуле Каляды – народнае зIмовае свята дахрысцIянскага паходжання. У гадавым крузе народных аграрных абрадаў I святкаванняў беларусаў I Iншых народаў Каляды займалI першае месца. У рытуале калядных дзеянняў уваходзIлI тры абрадавыя вячэры (куццI). Посная (вялIкая) перад першым днём свята; багатая (шчодрая) перад Новым годам; посная (галодная, вадзяная) перад вадохрышчам. Абавязковай стравай была ўласна куцця – каша з ячных зярнят або круп.

Да Калядаў рыхтавалIся, Iх чакалI, Iх святкавалI весела, калядавалI. КалядоўшчыкI, пераапранутыя ў "казу","кабылу", "мядзведзя", "жураўля", з песнямI абыходзIлI хаты аднавяскоўцаў, жадаючы гаспадарам плёну ў працы , дабрабыту ў хаце, ладу ў сям'I. За гэта калядоўшчыкам давалI дарункI. А галоўным атрыбутам калядавання была калядная зорка.

Ладзячы гэты вясёлы карнавал, забаву для душы, выконваючы шэраг абрадавых дзеянняў, прашчуры верылI, што гэтым яны паскараюць надыход цяпла (паводле народнага выразу, ад Каляд сонца паварочвала на лета) I забяспечваюць багаты ўраджай у новым годзе.

Як рэшткI зIмовых язычнIцкIх святкаванняў Каляды забаранялIся царквою, якая, мIж тым, прымеркавала да старажытных

Каляд рэлігійныя святы нараджэння Хрыста (Раство) і вадохрышча. Савецкая ўлада аднолькава негатыўна ставілася і да Раства Хрыстова, і да Каляд, лічачы ўсё гэта забабонамі і перажыткамі мінуўшчыны. Але ў гэтай мінуўшчыне мы шукаем сёння страчаныя карані сваёй духоўнасці, сваіх нацыянальных звычаяў і традыцый.

## Х т о   т а к а я   К а л я д а?

Амаль увесь студзень у Беларусі праходзіць пад знакам святкавання Каляд. Свята гэтае мае багатую гісторыю. Каляды атрымалі назву ад імя старажытнай язычніцкай багіні Каляды. У розных рэгіёнах Беларусі ўяўленне пра гэтую багіню рознае. На Брэстчыне, напрыклад, гэта – жонка бога Перуна і маці Даждзьбога.

Па іншых міфах Каляда – дачка бога марозоў Зюзі (нешта накшталт Снягурачкі), і тады яна з'яўляецца ўласна багіняй зімы.

Цікавы міф удалося запісаць у Баранавіцкім раёне. Прыход Каляды (свята "Каляды") ўспрымаецца як сыход на зямлю жонкі Перуна для таго, каб выпрабаваць людзей на дабрыню, шчодрасць. Прыходзіць яна падчас завірухі. За ёю гоняцца сілы зла, даганяе яе бог Зюзя. У гэты дзень людзям неабходна паліць вогнішчы, спяваць вясёлыя песні, танцаваць, бо злыя сілы баяцца цяпла і весялосці. Ні ў якім разе нельга адмовіць у гасціннасці, у дабрачыннасці нікому – Каляда даволі часта з'яўляецца ў вобразе прамерзлай да касцей вандроўніцы, бабулі-жабрачкі, дзяўчыны-сіраты. Калі людзі ўпусцяць яе, то народзіцца Даждзьбог, які ў дадзеным выпадку атаясамляецца з богам лета, то лета будзе цёплым, ураджай багатым. А калі сэрцы людзей акажуцца чэрствымі да чужой бяды, то лета будзе халодным, дажджлівым, нават можа пачацца падзёж свойскай жывёлы ці яшчэ якая-небудзь бяда.

Пасля прыняцця хрысціянства са святам Каляды сумясцілі Раство, ды настолькі ўдала, што яшчэ і зараз гэтае галоўнае хрысціянскае свята нехта называе Калядамі.

## С о н   б ы л о г а   к а л я д о ў ш ч ы к а

Завея гудзе ў свае трубы.
Туруе ёй скрыпка і бубен.
Гэй, гаспадары – ягамосці,
Мы вас віншаваць прыйшлі ў госці.
Нялёгкай калядкай дарогай
Аднно з Віфліему самога,
Прыйшлі за вядучай зоркай
Да вашага да паладворка.
Прыміце нас і падарыце:
Казе-Дзеразе – медуніцы,
Мядзведзю – святочных прысмакаў,
А нам, спевакам, – выраўнякі,
Ну а механошу – сала,
Каб торба пустой не гуляла.
Не лішне было б і па чарцы,
Каб спорылася ў гаспадарцы:
О, як жа шкада, што завея
Збудзіла, каб сон мой развеяць.
М. Танк

## К у п а л ь с к а я   л е г е н д а

### Янкаў ясень

...Гадоў сто, а можа і дзвесце назад у ноч на Купалу ведзьмы і лесуны абралі пад свае гулі самы стары на Лысай гары ясень. З-пад яго густой кроны разносіліся па наваколлі смех, свіст, нейкая бязладная гаворка. Лысагорцы, пачуўшы вядзьмарскае ўлюлюканне, пахаваліся ў сваіх хацінах. Адзін толькі малады каваль, асілак Янка, не спалохаўся. Ён шпацыраваў са сваёй дзяўчынай Марыйкай і нікольківе звадаў на ўвесь гэты д'ябальскі вэрхал. Але раптам з ніжняй ясёнавай галіны працягнулася белая як снег рука, і салодкі голас паклікаў:

– Хадзі, Марыйка, хадзі да нас у карагод!..

Марыйка падала руку і як у пастку трапіла. Пацягнула дзяўчыну невядомая сіла ўгору на ясень. Добра яшчэ, што Янка паспеў за яе ўхапіцца. Расставіў ногі, упёрся магутнымі плячамі ў дрэва і не пускае. А зверху рагочуць ды прыгаворваюць:

– Позна, Янка, позна. Марыйка сама згадзілася, не твая

яна ўжо, а наша. Пусці, пакуль дабром просім...

Раззлаваўся асілак-каваль І, эдаешча, мацнейшым у сем разоў зрабіўся. Паднапяўся ды так Ірвануў з учапістых пальцаў сваю каханую, што разам з ёю сцягнуў з ясеня цалы тузін звязаных адной вяроўкай ведзьмакоў-страшыдлаў.

Адразу сціх рогат, пачалі ведзьмакі плакаць І прасіць Янку, каб падсадзіў іх назад на ясень. Золата, брыльянты абяцалі.

Янка загадаў Марыйцы заплюшчыць вочы, а сам ухапіўся за чупрыну першага лесуна І пацягнуў увесь іх паганы карагод да гнілой сажалкі, што была ля падножжа Лысай гары, і спіхнуў у дрыгву. Закіпеў бруд балотны, і ў адно імгненне выпарылася, высахла тая сажалка ...

З таго часу на старым лысагорскім ясені, названым у гонар смелага каваля-асілка Янкавым, ніколі больш у ноч на Купалу аніякай нечыцці не з'яўляецца. Нават калі дзьме моцны вецер, Янкаў ясень стаіць і не зварухнецца...

## Ушанаванне змей беларусамі

У нашых продкаў яшчэ з часоў паганства існаваў культ змей. Змей баяліся і ў той жа час ушаноўвалі, чакалі ад іх спрыяння ў розных справах. Змей асацыіраваўся з урадлівасцю, зямлёй, вадой, дажджом, а з другога боку – з хатнім, нябесным агнём. У паданнях паўночнай Беларусі расказваецца пра вогненнага цмока, які крадзе ў суседзяў і прыносіць свайму гаспадару ўсякае багацце. На Мядзельшчыне такую істоту называлі хут. Лічылася, што хут прыносіць у дом гаспадара снапы з чужых палеткаў і золата з невядомых скарбаў. Вечарам можна бачыць, як ён, вогненны, рассыпаючы іскры, ляціць у небе. Хут жыве на гарышчы, можа ператварыцца ў корч, палена, старое кола і г.д.

У Гарадоцкім раёне запісана паданне пра страшыдлу змея, які наносіў шкоду людзям. Змея звязалі, але забіць не здолелі. Тады яго паспрабавалі закапаць у зямлю. Але пасля кожнай спробы зямля аказвалася раскіданай, і змей мог парваць путы. Таму па мудрай парадзе аднаго чалавека запраглі ў стары лапаць чорнага пеўня, прывезлі здалёку тройчы па поўнаму лапцю зямлі і пачалі пасыпаць страшылла. Ад першай жмені той зямлі змей страшэнна зароў і задрыжаў, а развернутая ім раней зямля пачала насоўвацца і закрываць яго. У іншых паданнях гаворыцца пра тое, што забітага змея трэба рассекчы на тры часткі, закапаць іх асобна адна ад другой.

У час археалагічных раскопак у паўночнай частцы Беларусі неаднаразова знаходзілі металічныя ўпрыгожанні з галоўкамі, якія нагадвалі змей. На адным баку манетападобных па форме амулетаў – "змеевікоў" была хрысціянская сімволіка, на адваротным – выява клубка змей і кругавы надпіс з закляццем ад хвароб і няшчасцяў. Згодна старажытнаму светаўспрыманню, змяя лічылася апякункай ачага, захавальніцай сям'і, дому і кожнага, а таксама магла ўвасабляць продкаў-апекуноў. Доўгі час у беларусаў, літоўцаў і латышоў існаваў звычай трымаць дома і карміць вужоў, што павінна было выклікаць прыхільнасць да гаспадароў бога.

Эдвард Зайкоўскі

## Культ дрэў у беларусаў

Культ дрэў звязаны з анімістычнымі культамі абагатварэння прыроды. Асабліва шанаваўся дуб: у старажытных грэкаў гэта дрэва Зеўса, у рымлян – Юпітэра, у літоўцаў – Пяркунаса, а ў беларусаў – Перуна і г.д. Ва ўсходніх славян дуб звязаны і з культам продкаў, таму не выпадкова дуб часта называюць Волатам, Асілкам. Да нядаўняга часу некаторым дубам насілі ахвяры і на галіны вешалі ручнікі (вёска Царкавішча на Ушаччыне, Саўкін дуб каля гарадскога пасёлка Бягомль, дуб каля вёскі Палыкавічы Магілёўскага раёна, дуб "Дзявайціс" на Ашмяншчыне, дуб каля Слоніма і інш).

Павагай у беларусаў карысталася і сасна. Пра некаторыя сосны існуюць паданні (каля вёскі Мішневічы Шумілінскага раёна, каля Лідскага замка, Французская сасна на кургане каля вёскі Узрэчча Глыбоцкага раёна і г.д.). Шырока вядома сасна каля вёскі Старыца Салігорскага раёна. Па паданню, аднаму селяніну, хвораму вачыма, прыснілася, што, каб вылечыцца, ён павінен побач з сасной паставіць крыж. Селянін так зрабіў і неўзабаве вылечыўся.

Вялікай пашанай карысталіся тры ліпы каля вёскі Каплянцы

Бярэзінскага раёна. Па павер'ях, ліпы лячылі людзей. Для гэтага хвораму трэба было пралезці праз дзірку ў дрэве і разарваць на сабе тую частку адзення , якая дакраналася да хворага месца. Потым надзявалі новую адзежу. Каля гэтых ліп адбываліся кірмашы, святы.

## СТАРАЖЫТНЫЯ РАМЁСТВЫ БЕЛАРУСІ

### Сонечныя пліткі

У Маскве на вуліцы Вялікая Палянка ёсць старая мураваная царква, аздобленая суцэльным поясам з рознакаляровай кафлі. Гэты незвычайны кафляны дыван - работа беларускіх майстроў.

З'явіўшыся ў XIII ст. ў краінах Заходняй Еўропы, кафля ўжо ў XIУ ст. была шырока распаўсюджана і на тэрыторыі Беларусі . Спачатку яна мела цыліндрычную ці канічную форму і выраблялася на ганчарным крузе, але неўзабаве вынайшлі каробчатую кафлю з плоскай паверхняй, на якой зручна было адціскаць розныя выявы. Такая кафля і прынесла славу беларускім майстрам.

З XIУ ст. яна ў вялікай колькасці вырабляецца ў Мінску, Магілёве, Гродне, Пінску, Заслаўі, Полацку і іншых гарадах. Кафлярства становіцца адным з вядучых рамёстваў. Печы зіхацелі разнастайнымі малюнкамі геаметрычнага, расліннага, геральдычнага, міфалагічнага характару, нагадваючы дзівосны дыван.

У Маскоўскай дзяржаве выраблялі толькі аднатонную зялёную кафлю. Беларускія майстры прынеслі сюды традыцыю вытворчасці паліхромнай кафлі, якой аздабляліся не толькі печы, але і сцены манументальных збудаванняў, карнізы, балконы, іканастасы.

За сотні гадоў фарбы на такой кафлі не пабляклі, не выцвілі і сёння ярка пераліваюцца ў сонечных промнях.

### Беларуская разь

Дэкаратыўная аб'ёмна-ажурная разьба па дрэве - адзін з цікавейшых відаў дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва Беларусі.

Дробнаўзорыстая разьба ў ХУ - ХУІ ст ст. ужо перастала задавальняць майстроў, якія аздаблялі ёю інтэр'еры манументальных збудаванняў. У ХУІІ ст. разьба набыла аб'ёмны характар. Калонкі іканастасаў уяўлялі сабой ажурнае перапляценне пышных раслінных парасткаў з гронкамі і лістамі, у якія ўпляталіся фігуры птушак, жывёл, чалавека. Разьбу пакрывалі спецыяльным грунтам і залацілі, што надавала ёй надзвычайную прыгажосць. Такой разьбой аздобілі многія храмы на Беларусі.

Назву "беларуская разь" гэта рамяство атрымала ў маскоўскай дзяржаве, дзе беларускія майстры аздобілі інтэр'еры шэрагу палацаў і храмаў. Сярод работ беларускіх майстроў-разьбяроў асабліва вылучаецца іканастас Смаленскага сабора Новадзявочага манастыра ў Маскве.

Як адзначаюць даследчыкі рускага мастацтва, хоць некаторыя з прымененых беларускімі майстрамі матываў сустракаліся раней у рускім мастацтве, ніколі яшчэ з такім веданнем прыроды і майстэрствам не выконваліся ў разьбе кветкі, фрукты і травы.

### Слуцкія паясы

Мабыць, вам вядомы радкі М.Багдановіча:

... І тчэ, забыўшыся рука
Заміж пэрсідскага ўзору
Цвяток радзімы васілька.

Гэтыя радкі прысвечаны майстрыхам, якія ткалі славутыя шаўковыя паясы - абавязковы атрыбут колішняга шляхецкага касцюма. Мануфактура па іх вырабу - "персіярня" - працавала ў Слуцку з сярэдзіны ХУІІІ да сяр. XIX ст. Напачатку, калі на мануфактуры працавалі прыезджыя турэцкія майстры, паясы капіравалі вырабы з Блізкага Усходу. Затым былі падрыхтаваны мясцовыя майстры шоўкаткацтва, вырабы набылі тыповы мясцовы характар, атрымалі назву слуцкіх, пад якой і ўвайшлі ў гісторыю мастацтва. Змяніўся характар арнаменту, у яго шырока ўключаліся нацыянальныя матывы, кветкі мясцовай флоры - васількі, незабудкі і інш. Палосы іх раўнамерна размяшчаліся ўпоперак.

канцы дэкаравалIся букетамI кветак. На ражку пояса была метка: "Слуцк", "Зроблена ў Слуцку". ВельмI эфектна выглядалI "лIтыя" паясы. Iх ткалI залатымI нIткамI, затым пракатвалI памIж металIчнымI валамI, I вырабы станавIлIся нIбы металIчныя.

У XIX ст. попыт на паясы прыкметна знIзIўся. Слуцкая мануфактура перайшла на выраб залатых I сярэбраных галуноў, шаўковых пакрывалаў, тканIн для лIтургIчнага ўжытку, а ў сярэдзIне XIX ст. увогуле перастала Iснаваць. СлуцкIя паясы сталI рэдкасцю. Iх пачалI калекцыянIраваць.

## К а р э л I ц к I я ш п а л е р ы

НевялIкI гарадок на Гродзеншчыне ўвайшоў у гIсторыю мастацтва тым, што тут у другой палове XVIII – першай палове XIX ст. працавала славутая ткацкая мануфактура РадзIвIлаў. ВыраблялI палатно для абIўкI сцен, паясы, абрусы. Але найбольшую вядомасць мануфактуры прынеслI насценныя бязворсавыя дываны (шпалеры). ТкалI Iх у складанай габеленавай тэхнIцы на спецыяльных ручных станках.

На Карэлiцкай мануфактуры была выткана цэлая серыя шпалераў, якая, па задуме ўладальнIкаў, павIнна была праславIць ваенныя подзвIгI роду РадзIвIлаў. Да нашага часу дайшло тольaccount кI некалькI работ з гэтай серыI: "Парад войскаў пад Заблудавам", "Імператар Карл У надае РадзIвIлам княжацкI тытул", "БIтва пад Славечнай" I Iнш.

Складаныя па кампазIцыI, з вялIкай колькасцю фIгур, шпалеры ўражваюць высокIм майстэрствам выканання.

На радзIвIлаўскIх мануфактурах ткалI I ворсавыя дываны. Як правIла, Iх кампазIцыя мела арнаментальны характар: кошыкI з кветкамI, вазон, раскIданыя на полI букеты.

Аднак дарагая ручная вытворчасць Iх была нерэнтабельнай, I ў першай палове XIX ст. мануфактура закрылася.

## Ж а л е з н ы я к а р у н к I

Кавальства вядома на БеларусI з часоў жалезнага веку. З жалеза выкоўвалI наканечнIкI коп'яў, нажы, долаты, конскую збрую, упрыгажэннI.



У XVI – XVII ст.ст. пачалI ўтварацца кавальскIя цэхI. У ВIцебску, Полацку, МIнску, МагIлёве, ПIнску, Гродне налIчвалIся дзесяткI кавалёў розных спецыяльнасцей: нажоўшчыкаў, мечнIкаў, замочнIкаў, цвельшчыкаў I Iнш.

Пераважная большасць гарадскIх кавалёў працавала ў сферы манументальнага будаўнIцтва. Для цэркваў, палацаў, сядзIб выкоўвалIся алтарныя перагародкI, аконныя рашоткI, вароты, агароджы, балконы, крыжы, флюгеры I Iнш. Асноўны від дэкору варотаў, балконаў, агароджаў – разнастайнае спалучэнне прамых I выгнутых стрыжняў, S- I С-падобных завIткоў, скручванне граненых прутоў вакол падоўжнай восI, арнаментальныя матывы ў выглядзе разетак.

Кожны з агульнаеўрапейскIх мастацкIх стыляў, на якIя арыентавалIся гарадскIя майстры-навалI, накладваў на характар каваных вырабаў свой адбIтак: рэнесанс-спакойную плаўнасць, барока-пышную дэкаратыўнасць, класIцызм-урачыста-сухаватую стрыманасць.

У канцы XIX ст., з развIццём прамысловасцI мастацкае кавальства ў гарадах прыходзIць ў заняпад, або пераходзIць на стварэнне масавых вырабаў. Але ў старой забудове гарадоў, на могIлках I зараз можна бачыць шмат розных, часам досыць цIкавых узораў кавальства.

## Б е л а р у с к а я в ы ш ы ў к а

На тэрыторыI БеларусI вядома вышыўка на тканIнах, скуры iльнянымI, шарсцянымI, шаўковымI нIткамI, таксама бурштынам, шкляным бIсерам, бронзавымI спIральнымI пранIзкамI.

Вышыўка дасягнула высокага росквIту ў старажытныя часы, калI чырвонымI шарсцянымI нIткамI пачалI багата арнаментаваць Iльняныя кашулI. Аб гэтым сведчаць раскопкI курганоў у Пасожжы I на ВIцебшчыне. Узоры былI ў выглядзе сIмвалаў засеянага поля (квадрат цI ромб, падзелены на чатыры часткI з кропкай у цэнтры кожнай ячэйкI) I Iншых магIчных знакаў.

Вышыўкай аздаблялIся кашалькI, сумачкI, ножны, футаралы I асаблIва абутак, дзе багата расшываўся нос чаравIка.

ШаўковымI I залатымI нIцямI вышывалI каўнеры, манжэты I галаўныя ўборы багатых жанчын.

Асноўны ўзор складаўся з выяў птушак ( у профІль) у крузе, якІя чаргуюцца з прамавугольнымІ чатырохканечнымІ крыжыкамІ.

## ГАРАДЫ БЕЛАРУСІ

### Н а п я ц І п а г о р к а х

У адрозненне ад старажытнага Рыма, МІнск будаваўся на пяцІ пагорках.

Для ўзвядзення МІнска невядомы нам дойлІд спачатку выбраў невялІкІ выцягнуты ўзгорак. У забалочанай абалоне (пойме) СвІслачы, там, дзе ў яе ўпадала НямІга. Гэта прасторнае - да двух кІламетраў у дыяметры - месца абалоны з усІх бакоў абступалІ ўзгоркаватыя берагІ. З паўднёвага боку, за неширокай лагчынай, па якой цякла НямІга, высІлІся зрэзаныя ярамІ берагІ. Яны цягнулІся ад будучага Верхняга горада (зараз пл.Свабоды) да вулІцы Падгорнай (К.Маркса) І Кашарскай (Чырвонаармейская).

За ракой быў вІдаць асаблІва высокІ пагорак - Траецкая гара ( тут оперны тэатр), а далей - гара Старажоўка (гасцІнІца "Беларусь"). Пяты пагорак уздымаўся на паўночным захадзе, дзе пазней узнІкла Татарскае т потым Ракаўскае - прадмесце (зараз раён пл. ЮбІлейнай).

У тыя далёкІя часы схІлы ўзгоркаў былІ пакрыты лясамІ І спускалІся непасрэдна да ракІ цІ да балота.

Пагорак, выбраны пад крэпасць, быў абаронены самой прыродай. З усходняга боку ён даволІ крута абрываўся да СвІслачы, з поўначы І захаду было рэчышча (русло) НямІгІ, уздоўж паўднёвага пагорка знаходзІлася пратока НямІгІ.

Першыя будаўнІкІ зрабІлІ схІлы больш стромкІмІ (крутымІ), зрэзалІ яго макушку І насыпалІ вал даўжынёй да 800 метраў. У тоўшчы вала былІ злажаны драўляныя канструкцыІ. Знутры ён быў аблІцаваны сцяной з бярвення, па грэбеню праходзІў абаронны тын - частакол з байнІцамІ. Уезд у горад быў з поўдня.

Старажытны МІнск займаў вялІкую па тых часах тэрыторыю - 3 гектары І размяшчаўся там, дзе зараз плошча 8-ага СакавІка.

Паводле Ісаенка В.Ф.



### Н я с в І ж

АкалІчнасцІ ўзнІкнення геаграфІчных найменняў, якІя з'яўляюцца такІмІ ж помнІкамІ мІнуўшчыны, як архІтэктурныя ансамблІ І гІсторыка-археалагІчныя комплексы, нярэдка дазваляюць даволІ наглядна ўявІць пачатковыя старонкІ гІсторыІ населенага пункта.

Пра паходжанне назвы НясвІж Існуюць аж тры народныя паданнІ. Вось першае з Іх. Узвёўшы замак, уладальнІк горада князь РадзІвІл доўга не мог прыдумаць яму назву. Ён загадаў слугу Ісцы да людзей І запомнІць першае слова, якое яны вымавяць. Слуга сустрэў чалавека, які нёс рыбу, І спытаў у яго, цІ свежы ў яго карп. "Не свеж"- адказаў чалавек. З той пары І пачалІ называюць гэтае месца НясвІж.

Згодна з другІм паданнем, на тым месцы, дзе цяпер стаІць НясвІж, было некалІ старажытнае паселІшча. Але аднойчы паселІшча праваІлІлася ў зямлю, а на яго месцы засталІся толькІ ямы ды ўзгоркІ. Шмат часу прайшло пасля таго, як тут зноў пасялІлІся людзІ. Але паколькІ месца гэтае было "не свежае", бо тут некалІ жылІ людзІ, дык яго І назвалІ НясвІж.

Нарэшце трэцяе паданне, па галоўнаму вываду падобнае на два першыя. Яно напамІнае аб тым, што улюбёнымІ заняткамІ нясвІжскІх князёў былІ паляванне І розныя забавы. Аднойчы князІ разам з чэляддзю палявалІ на мядзведзяў. АдзІн звер быў паранены, але ўцёк. Праз некалькІ дзён князІ зноў адправІлІся на паляванне І знайшлІ таго мядзведзя, але ўжо мёртвага. АдзІн з князёў пад'ехаў да звера, агледзеў ды І кажа: "Не свеж". Адсюль І назва - НясвІж.

Як жа тлумачыць назву НясвІж? У данай назве адлюстравана воднае Імя. Насяленне на месцы будучага горада НясвІжа ўзнІкла на волаку памІж рэчкамІ Ланню І Ушай, у Іх вярхоўях. А што ўяўлялІ сабой старажытныя волакІ, добра вядома. Гэта - нІзІнная, нярэдка забалочаная водападзельная мясцовасць памІж дзвюма блІзкІмІ суднаходнымІ рэкамІ. На тых рэках пралягалІ магІстральныя водныя шляхІ, а каб трапІць з адной ракІ ў другую, трэба было працягнуць гандлёвыя чаўны цІ лодкІ праз волак.

ВІдаць, побач з волакам памІж вытокамІ ЛанІ І Ушы са

старажытных часоў узнік нейкі пункт для адпачынку, рамонту чаўноў, а магчыма і для захоўвання тавараў. Хутка гэты пункт ператварыўся ў паселішча са сталым насельніцтвам. Мінуў яшчэ нейкі час, і даўняе паселішча вырасла да памераў гарадка, вядомага навокал пад назвай Нясвіж, якую ён атрымаў ад наймення былога волака. Зразумела, што паселішча ўзнікла на нейкім узвышшы побач з балоцістым волакам. І калі волак называўся проста Свядзь ці Свеж - "балота, балоцісты", то паселішча на высокім месцы атрымала назву з прама процілеглым значэннем - "не балоцістае, не балота". Каб зразумець такое пераасэнсаванне, можна прывесці такі вось прыклад. У Пасожжы, на паўднёвым усходзе Беларусі, ёсць рэчкі пад назвай Цеча, гэта значыць "бягучая вада", "пратока", а побач з імі існуюць валацёкі з процілеглым найменнем - Няцеча, гэта значыць "стаячая вада, балота".

Назвы рэчкі Несвіч і возера Несвіш таксама, як і найменне Нясвіж, тлумачыцца як "не балоцістая", "не балоцістае".

## Полацкая акадэмія

Доўгі час падручнікі пераконвалі нас, што да Кастрычніцкай рэвалюцыі Беларусь не мела вышэйшых навучальных устаноў. Гэта, далікатна кажучы, няпраўда. Такія ўстановы існавалі, ды толькі царскія ўлады раней ці пазней зачынялі іх, каб больш паспяхова праводзіць палітыку русіфікацыі і духоўнага заняволення нашага народа.

Адной з вышэйшых навучальных устаноў дарэвалюцыйнай Беларусі з'яўлялася Полацкая акадэмія, утвораная з мясцовага езуіцкага калегіума, які быў заснаваны яшчэ ў 1581 годзе.

Акадэмія мела тры факультэты: тэалагічны, філалагічны, дзе вывучаліся лацінская, грэчаская, старажытна-яўрэйская, французская, нямецкая і руская мовы, і вольных мастацтваў з выкладаннем філасофіі, фізікі, матэматыкі, архітэктуры, грамадзянскага права і гісторыі. Побач з вучэбнымі аўдыторыямі размяшчалася карцінная галерэя, музей, абсерваторыя, вучэбныя лабараторыі. Каля 40 тысяч тамоў налічвала найбагацейшая ў той час на Беларусі акадэмічная бібліятэка, аснову якой складалі выданні XVI - XVIII стагоддзяў, у тым ліку працы



Арыстоцеля, Эразма Ратэрдамскага і інш. Пры акадэміі дзейнічала друкарня, дзе выходзіў ілюстраваны часопіс "Месячнік полацкі".

Полацкая акадэмія мела статус універсітэта. Ёй падпарадкоўваліся ўсе езуіцкія навучальныя ўстановы Расейскай Імперыі. Выкладанне вялося на польскай мове, але дзейнасць акадэміі ўсё адно спрыяла фармаванню нацыянальнай беларускай інтэлігенцыі. Гэта і стала адной з галоўных прычын закрыцця навучальнай установы.

## Ці жывуць у Гомелі нашчадкі легендарнага Гома?

Вядома, што назва горада Гомель мела іншыя старажытныя формы - Гомій, Гомей. Гэта дае магчымасць тлумачэння тапоніма ад імя Гом, якое мог насіць пэўны валадар, правадыр, князь.

У гэтай сувязі нельга не звярнуць увагі на мясцовае паданне аб разбойніку XII стагоддзя па імені Гом, які нібыта жыў у былой паўночна-ўсходняй частцы Гомеля, вядомай пад назвай "Каўказ". Легендзе пра Гома адшукваюцца пэўныя тыпалагічныя паралелі ў іншых мясцовасцях, калі лічыць, што наш Гом - не проста разбойнік, а знакаміты продак, верагодны прабацька, нават заснавальнік горада. Паданне пра Гома вартае ўвагі, нават калі і ўлічыць, што ў легендах-паданнях імёны меркаваных заснавальнікаў гарадоў вельмі часта ўтвараюцца ... ад саміх тапонімаў, назваў адпаведных населеных пунктаў.

На нашу думку, безагаворачнае сцвярджэнне аб тым, што Гомель - гэта "горад Гома", было б паспешлівым, бо ёсць і іншыя факты і меркаванні наконт паходжання назвы горада. Краязнаўцамі было высветлена, што ў сучасным Гомелі распаўсюджаны прозвішчы, якія прама ці ўскосна маюць дачыненне да гэтых імёнаў - Гамол, Гомал, Гом. Усяго такіх прозвішчаў - 31.

У вялікай частцы запісаных прозвішчаў вылучаецца зусім іншая ўтваральная аснова, якая ніяк не звязана з імёнамі купца X стагоддзя ці разбойніка Гома. З ліку запісаных трэба выкрасліць наступныя прозвішчы: Гамарка (Гамарко), Гамарык, Гамонак, Гаманькоў, Гомак (Гамак), Гоман, Гоманаў, Гамаюраў, Гамонаў, Гаманькі, Гамарнік, Гоманец, Гамбалеўскі, Гамоза, Гомза

( Гамза), Гомазаў, Гомус, Гамшэй, Гамераў (Гомераў), Гамідаў.

Многія з гэтых прозвішчаў можна без цяжкасці растлумачыць з дапамогай дыялектных слоўнікаў беларускай, рускай і польскай моў. Напрыклад, Гамарнік – "той, хто працуе на гамарні ", гамарня – "медны завод". Магчыма і іншае тлумачэнне: Гамарнік – " шумлівы чалавек", "той, хто любіць шумныя гутаркі " ( ад слова гамарня – "шумная гутарка"), гамарнік – "той, хто шуміць пры гутарках". У Гомелі якраз зафіксавана прозвішча Гамарнік. Пад гэтае апошняе тлумачэнне падпадаюць і прозвішчы Гамарка (Гамарко), магчыма, таксама Гамарнік і нават Гамераў, хоць апошняе лепш супастаўляць з беларускімі прозвішчамі Хамрыка, Хамрычка, англійскім тыпу Хомер, італьянскім Амера і г.д., якія азначаюць "сляпы" (параўнайце грэчаскае імя Гамер – "сляпы").

Прозвішча Гамаюнаў тлумачыцца ад слова гамаюн – "клапатлівы, руплівы, старанны, працавіты". Прозвішчы Гамза, Гамеза, Гомазаў, магчыма, Гомус ( з Гомаз?). І нават Гамшэй можна разумець пры супастаўленні са словамі гомзаць, гамзаць – "мітусіцца, круціцца", "павольна есці, жаваць", "біць штуршкамі, калаціць", "гаварыць у нос, гугнявіць", "лаяць, бэсціць".

Проста тлумачацца і прозвішчы Гоман, Гоманаў, Гоманец, Гоманькоў, Гаманюк – ад слова гоман – "шум, крык" ці "гаворка, размова" ( Гоман, Гоманаў і г.д. – "чалавек крыклівы" ці "гаварлівы"). Прозвішча Гамбалеўскі ўзыходзіць да слова гамбаль – "грубіян"; Гамбаль, Гамбалеўскі – "той, хто гамбіць, зневажае" ( гамбіць – дыялектны варыянт слова ганьбіць).

Звернемся цяпер да прозвішчаў, якія, на наш погляд, маюць нешта блізкае ці нават агульнае з прозвішчамі (мянушкамі, імёнамі) Гомал, Гамол, Гом ( легендарныя і летапісныя асобы, зразумела, прозвішчаў не мелі.). Ёсць два амапімічныя, гэта значыць зусім розныя карані (асновы) -гом. З аднаго боку, мы маем дыялектнае слова гом у значэнні " крык, шум; гаворка, размова, смех; сварка". З іншага боку, гом і звязанае з ім вытворнае слова гамола, гамол, гамула ў шэрагу славянскіх і балцкіх дыялектаў спакон веку азначала "нешта пукатае", "круглае", "камяк", "катылёк", "галка", "узгорак". Цікава нагадаць, напрыклад, беларускае дыялектнае гамула – "бульбяная клёцка" ( усходняя Магілёўшчына), польскае "гомулка" – "камяк", "круглы сялянскі сыр"; літоўскае "гумала" – "снежны камяк", "гамулас" "цюк, кіпа, куча".



З апошнімі прыкладамі можна смела супастаўляць наступныя прозвішчы гамяльчан: Гамаляка, Гамолка, Гамлевы, Гамульскі, Гамалей, ды й імя летапіснага купца Гомала, Гамола. Усе гэтыя асабовыя імёны першапачаткова мелі значэнне "маленькі тоўсты чалавек", "таўстун-каратыш" ці "гарбаты, гарбун". Прозвішчы Гамелін, Гамолін указваюць, што іх першыя носьбіты з'яўляліся нейкімі людзьмі па мянушцы Гамела, Гамола ці яго нашчадкамі (дзецьмі, унукамі). Прозвішча Гамялькоў таксама мае значэнне прыналежнасці: Гамялькоў –"той, хто належыць Гамяльку, Гамельку" ці "сын, унук Гамелькі".

Каля 180 чалавек у Гомелі носяць прозвішча Гомак. Яно ўтворана ад першапачатковай мянушкі Гом (параўнайце: Звонак ад Звон, Зуёнак ад Зуй). З дапамогай суфіксаў -ак,-ёнак утвараліся мянушкі (прозвішчы) зноў-такі малодшых прадстаўнікоў сям'і, роду – дзеці ці ўнукі нейкіх Гома, Звона, Зуя і г.д. Як бачым, у Гомелі сапраўды шмат патомкаў Гома. Толькі хто ж такога Гома?

Два чалавекі сярод сучасных гамяльчан маюць прозвішча Гома, дзесяць чалавек – Гомаў (Гомаў –"той, хто належыць Гому" ці "сын, унук Гома"). Ёсць яшчэ прозвішчы Гамацкі (Гамацкі – "патомак нейкага Гомака") і Гамко (Гамко –"малодшы прадстаўнік роду Гома".). Апошняе прозвішча тыпалагічна падобнае да прозвішча Гомак.

Які вывад можна зрабіць? На нашу думку, матэрыял, які разглядаўся, пэўным чынам падмацоўвае версію аб паходжанні назвы Гомель ад асабовага імя Гом, Гамол, Гомал. Аднак цалкам даказаць ці абвергнуць гэтую версію наўрад ці калі-небудзь удасца.

# УТВАРЭННЕ ВЯЛIКАГА КНЯСТВА ЛIТОЎСКАГА

ВялIкае княства ЛIтоўскае працяглы час ( з 1230 па 1792 г.) было адной з наймагутнейшых еўрапейскIх дзяржаваў. Яго утварэнне - вынIк эканамIчнага, палIтычнага I культурнага развIцця беларускIх княстваў. Трэба сказаць, што названне "ЛIтоўскае" нельга атаясамлIваць з сучасным разуменнем назвы ЛIтва (Летува). ШматлIкIя летапIсы, старажытныя граматы, знаходкI археолагаў пераканаўча сведчаць, што зусIм не на летувIскай у сучасным разуменнI гэтага слова, а менавIта на беларускай зямлI быў закладзены падмурак новай дзяржавы.Утварэнне I ўмацаванне ВялIкага княства ЛIтоўскага звязана з Новагародкам ( так даўней называўся Навагрдак). У другой палове XI ст. Новагародак - буйны рамесніцкі I гандлёвы цэнтр, меў замак з магутнымI абарончымI збудаваннямI.

Археолагаў уразIла заможнасць жыхароў горада, якIя мелI шмат рэчаў з Еўропы I з краIн Усходу, галоўным чынам посуд I аздобы, што сведчыць пра шырокIя знешнIя сувязI. Багатым аказаўся Новагародак I на знаходкI жалезных вырабаў. Можна меркаваць, што адной з умоваў хуткага эканамIчнага развIцця Новагародка з'яўлялася яго знаходжанне паблізу вялIкIх радовIшчаў балотнай жалезнай руды. (Як вядома, у Налібоцкай пушчы ляжэ ў мIнулым стагоддзI плавIлI балотную руду).

Новагародак вылучаўся I тым, што тут да XII ст. не знойдзена нават слядоў хрысцIянства, што тут будавалI двухпавярховыя дамы, якIя атынкоўвалI, распIсвалI фрэскамI, а ў вокны ўстаўлялI шкляныя шыбы. У XIII - XIУ стст. НовагародскI замак нI разу не быў узяты варожымI войскамI.

Аднак значэнне I роля Новагародка зацемнены гIстарычнай навукай да непазнавальнасцI. З XУI ст. яму адмаўляюць у самастойнасцI I паказваюць яго толькI аб'ектам заваявання ЛIтвы I, вядома, атаясамлIваюць з сучаснай Летувой. А ЛIтва летапIсная знаходзIлася ў ВерхнIм ПанямоннI, дзе I зараз стаяць вёскI з назвай "ЛIтва" (у СлонIмскIм, ЛяхавIцкIм, УздзенскIм, СтаўбцоўскIм I Маладзечанскім раёнах) .

НаколькI Новагародскае княства к сярэдзIне XIII стагоддзя дасягнула высокага эканамIчнага,палIтычнага I культурнага развIцця, то яно I ўзяло ў свае рукI справу аб'яднання беларускIх земляў. Аднак на шляху да гэтага была ЛIтва, таму



заваёва яе I з'явIлася першым крокам у ажыццяўленнI новагародскай аб'яднаўчай палIтыкI. Гэта было зроблена з дапамогаю МIндоўга, якI з'явIўся ў Новагародку выгнаны супернIкамI са сваIх уладанняў, гэтак званай "ЛIтвы МIндоўга" (яна знаходзIлася ў раёне сучасных БаранавIчаў). Прыязна прыняты ў Новагародку, ён быў ахрышчаны ў 1246 годзе ў праваслаўе I абраны князем. ТакIм чынам новагародская знаць скарыстала пакрыўджанага сваIмI суродзIчамI МIндоўга ў якасцI наёмнIка. Як адзначыў IпацьеўскI летапIс, МIндоўг неўзабаве "зане ЛIтву", г.зн. заваяваў яе, што адпавядала стратэгIчным матам Новагародка. Аднак у вынIку агрэсII галIцка-валынскIх князёў у Новагародку на гэты раз не удалося утрымаць ЛIтву. Яе канчаткова заваяваў у 1263 - 1264 гадах сын МIндоўга Войшалк сIламI новагародскага I пIнскага войска, што I з'явIлася адным з першых крокаў на шляху ўтварэння ВялIкага княства ЛIтоўскага.

ТолькI ўлIчваючы ўсё адзначанае I можна вытлумачыць ,чаму Новагародак стаўся першай сталIцай ВялIкага княства.Адсюль, з верхняга Панямоння, дзе знаходзIлася старажытная ЛIтва, I пайшла назва новай дзяржавы.

Тое, што ўтварэнне ВялIкага княства ЛIтоўскага суправаджалася заваёвай балцкIх плямёнаў (лIтвы, нальшчанаў,дзяволтвы, а пазней I жамойцI), знIшчэннем I выгнаннем Iх феадалаў, адхIляе папярэдне ў навуцы сцвярджэнне, што ўзнікненне гэтае дзяржавы дыктавалася Iх IнтарэсамI. Як бачна, якраз наадварот,-яно было ў Iнтарэсах беларускIх феадалаў, што I характарызуе гэтую дзяржаву як беларускую. Нездарма ж далейшае зблIжэнне беларускIх земляў у працэсе станаўлення ВялIкага княства Iшло мIрным шляхам. Адсюль зразумела, чаму ў ВялIкIм княстве ЛIтоўскIм пануючае месца заняла беларуская культура, а дзяржаўнай мовай стала беларуская.

ТакIм чынам, нIякай лIтоўскай заваёвы БеларусI не было: наадварот, нашы продкI падпарадкавалI старажытную ЛIтву, заклаўшы гэтым самым падмурак сваёй дзяржавы - ВялIкага княства ЛIтоўскага.

## А д к у л ь  н а ш  г е р б  і  с ц я г

Ці вядома вам, што такіх старажытных дзяржаўных гербаў, як наш, на свеце вельмі мала. Нашаму гербу больш за 700 гадоў.

Адкуль жа ўзялася назва герба "Пагоня"?

Багатая беларуская зямля з яе гарадамі і вёскамі, з рыбнымі рэкамі і поўнымі звярыны лясамі здаўна прыцягвала прагныя позіркі чужынцаў. Яны хацелі захапіць Беларусь і часта нападалі на нашых продкаў. 150 разоў урываліся сюды рыцары-крыжакі. Каля сотні набегаў зрабілі татарскія атрады. Шмат гора прынеслі нашай Бацькаўшчыне і войскі рускіх цароў.

Каб абараніцца і выжыць, беларусы заўсёды былі напагатове. Яшчэ з часоў славутага Усяслава Чарадзея існаваў такі звычай: пасля нападу на паселішча ўсе мужчыны, што маглі трымаць зброю, пешкі ці конна даганялі ворага, каб вызваліць палонных і пакваціцца за забітых.

Гэты звычай называўся пагоняй. У ВКЛ ён стаў законам.

Сем з лішнім стагоддзяў таму апісанне "Пагоні", з'явілася ў летапісах. "Чалавек дарослы на кані з мячом, які можа абараніць Бацькаўшчыну сваю",- выводзіў летапісец, гледзячы на даўні малюнак.

У левай руцэ вершнік трымаў шчыт. Пазней на шчыце з'явіўся шасціканцовы крыж. Ён быў падобны да крыжа, што некалі зрабіў для Ефрасінні Полацкай Лазар Богша.

Герб гэты выглядаў як чырвоны, дакладней, пурпуровы шчыт з белым або срэбным рыцарам. Шасціканцовы крыж на рыцарскім шчыце быў залаты.

Што ж зашыфравана ў гэтых колерах, аб чым яны гавораць?

Чырвоны колер нашы продкі лічылі самым высакародным. Ён азначаў агонь, мужнасць, доблесць у бітве. Белы ці срэбны — гэта чысціня, дабро, незалежнасць. Золата крыжа казала пра жыццё, святло, надзею.

Трэба дадаць, што белы і чырвоны колеры беларусы асабліва любяць. Гэта відаць і на ўзорах нашых дзівосных ручнікоў, і ў даўнейшым народным адзенні. У беларускіх казках асілкі едуць бараніць свой народ ад злыдняў абавязкова на белым кані.

Адзін стары беларускі часопіс пісаў пра "Пагоню":"Белы конь - гэта вобраз сілы, красы і здатнасці, адраджэння і ўваскрэсення да новага жыцця. Ралка на белым кані азначае перамогу".

Спачатку сцяг ВКЛ быў чырвоны з вышытымі на ім "Пагоняй" і Багародзіцай з яе маленькім сынам Ісусам. Іншыя еўрапейскія краіны таксама мелі сцягі з рознымі складанымі выявамі. Але прыкладна 500 гадоў таму сталі з'яўляцца сцягі больш простыя і зручныя. Як яны ўтвараліся? Найчасцей гербавы малюнак змяшчалі на шчыце. Колер малюнка быў галоўным колерам сцяга, а колер шчыта - дадатковым. Герб "Пагоні" быў белы, а шчыт, на якім ён скакаў,- чырвоны. Так і нарадзіўся беларускі бел-чырвона-белы сцяг.

## БЕЛАРУСЬ АБАРОНЧАЯ

### В е ж ы  З а м к а в а й  г а р ы

Ужо ў XII стагоддзі Навагрудак складаўся з крэпасці на Замкавай гары, умацаванага раёна на тэрыторыі суседняга ўзвышша ( Малы Замак) і пасада. Узвядзенне Навагрудскага замка адносіцца да пачатковага перыяду гісторыі горада.

Замак меў сем вежаў. Цэнтральная - вышынёй 25 метраў,- абараняла дзядзінец і пасад ад ворагаў. Чатыры вежы размяшчаліся на кутах замка. Адна - праезная - узвышалася на паўночным захадзе. Апошняя знаходзілася каля паўднёвага падножжа пагорка. Гэта была вежа-калодзеж, злучаная з крэпасцю патаемным ходам. Гавораць, што патаемны ход звязваў замак з праваслаўнай царквой, пабудаванай у XII стагоддзі.

Вежы крэпасці былі ўзведзены з вялікамернай цэглы з унутранай забутоўкай дробным каменнем і цагляным боем.

Цэнтральная, або Шчытавая, вежа была пяціпавярховай і мела форму чатырохграннай прызмы, якая крыху звужалася даверху. Працягласць яе фасаднага боку складала каля 12 метраў. Захавалася частка вежы - каменны масіў з байніцамі ў кожным паверсе. Уцалеў фрагмент і другой - кутняй - вежы. Яе знешні выгляд сваёй манументальнасцю не саступае ўладной вежы.

З паўночнага і паўночна-заходняга боку Замкавая гара была атачона ровам і ўмацавана шасціметровым земляным валам.

Узвedзeння на самым краI крутога пагорка, бачныя за многа кiламетраў ад горада, вежы Навагрудка, быццам высечаныя з каменнай глыбы, здалёк сведчылI аб моцы крэпасцI. Тут мелI сваю рэзIдэнцыю многIя князI. Не аднойчы ворагI разбуралI навагрудскI пасад, але сам замак доўгI час заставаўся непрыступным. У I262 годзе Міндоўг заключыў тут дагавор з Аляксандрам НеўскIм пра сумесную барацьбу супраць ЛIвонскага ордэна. У I274 годзе няўдачай скончылася аблога Навагрудка аб'яднаным галIцка-валынскIм I татарскIм войскам. Пад Навагрудкам гродзенскI кашталян князь Давыд у I3I4 годзе ўшчэнт разбIў крыжакоў. У I39I годзе без поспеху штурмаваў горад I замак магIстр крыжакоў Конрад Валенрод. Няўдачай скончылася аблога Навагрудка I ў I394 годзе. У I505 I I506 гадах не змагло захапIць горад войска крымскIх татар.

ТолькI ў I655 I I660 гадах, пад час вайны РасII з Рэччу ПаспалIтай, НавагрудскI замак пасля аблог бралI рускIя войскI...

Да нашых дзён дайшла легенда пра разбурэнне замка падчас вайны РасII I Польшчы супраць ШвецыI (Паўночная вайна I700 - I72I гадоў), прыведзеная ў баладзе Яна Чачота "НавагрудскI замак"... Шведы не змаглI ўзяць замак сIлай I пайшлI на хIтрасць. Яны падасылалI да навагрудскага князя прыгажуню-шведку. Князь пакахаў яе I прапанаваў ёй руку I сэрца. Шведка згадзIлася выйсцI замуж за князя пры ўмове: ён здасць замак шведам без бою, а яна не дасць у крыўду людзей I не дазволIць разбурыць замак. Князь згадзIўся. Шведы ўварвалIся ў замак, разрабавалI яго I разбурылI, людзI, што засталIся ў горадзе I замку, былI знішчаны ...

Так гэта было цI не - невядома. Але тое, што ў I706 годзе шведы ўзялI замак, разбурылI Навагрудак I канчаткова знIшчылI замкавыя ўмацаваннI,- гIстарычны факт...

Пасля гэтага НавагрудскI замак хаця I паслужыў яшчэ людзям, але сваё абарончае значэнне страцIў назаўсёды. Астатняе давяршыў няўмольны час - ад былога велIчнага замка засталIся толькI руIны дзвюх вежаў.

## А б а р о н а   С т а р о г а   Б ы х а в а

У разгар руска-польскай вайны сярэдзIны XУII ст. Стары Быхаў увесь час быў жаданым стратэгIчным пунктам для абодвух бакоў. Спачатку надоўга I без поспеху са жнIўня 1654 г. гэты горад аблажылI казакI з УкраIны наказных атаманаў I. I В. Залатарэнкаў. Яны асаджалI горад 11 месяцаў. Быхаў стрымлIваў развIццё наступлення ў Падняпроўе.

У сярэдзIне снежня пасля дзесяцIтыднёвай аблогI горад разблакIравалI войскI гетмана лIтоўскага Я. РадзIвIла I В. Гансеўскага I ўвайшлI ў яго, адкIнуўшы I. Залатарэнку да Новага Быхава. ТолькI ў маI войскI I. ЗалатарэнкI зноў пачалI аблогу Старога Быхава.

Б. ХмяльнIцкI, якога раздражнялI няўдачы I. ЗалатарэнкI, загадаў яму пакIнуць ля Быхава заслон з пяхоты, выкапаць каля гарадскIх брам равы, каб стварыць перашкоду для вылазак абложанага гарнIзона. КазакI I. ЗалатарэнкI скIравалIся для далейшых дзеянняў у цэнтр БеларусI, а Iх месца пад сценамI Старога Быхава заняло войска князя А.Н. Трубяцкога. У чэрвенI 1655 г. да быхаўскIх мяшчан з граматаю аб здачы горада звярнуўся сам цар. БылI папярэджаны ўсе, хто вырашыць супрацIўляцца, - "тех всех предадим мечу..." Аднак сваю ролю адыграла I рашэнне польскага караля Яна-КазIмIра адзначыць асобай граматай ад 3I мая 1655 г. стойкасць быхаўскIх сядзельцаў. Згодна гэтаму прывIлею, жыхары дадзенага валодання К.Л. СапегI - падканцлера ВялIкага княства ЛIтоўскага-вызвалялIся ад усIх падаткаў на 20 гадоў. Акрамя таго, за кошт каралеўскай казны ў далейшым наймалася 300 чалавек нямецкай пяхоты для абароны Быхава.

У пачатку жнIўня частка рускIх войск з-пад Быхава пайшла на Слуцк I на Панямонне, але тут заставалася 11 палкоў А.Н. Трубяцкога, якIя ўзначальвалI Iншаземцы-палкоўнIкI Е. Шыклер, Х. Кінман, Г. Фанстадэн, Л. Марцятус, Я. Ганарт, А. Гохгард, К. Краферт, Е. Грапзбек, А. Гамонт, Г. КуйлIн I Л.Р. Азар'еў. У пачатку кастрычнIка сюды зноў вярнулIся казакI I. ЗалатарэнкI. 7 кастрычнIка настойлIвая аблога Старога Быхава аднавIлася. У час сутычкI застрэлIлI I. Залатарэнку. Паўстанне ў казацкIм войску, якое затым узнIкла супраць казацкай старшыны, дэмаралIзавала запарожскае войска. Яно страцIла баяздольнасць. У канцы года I рускIя войскI былI вымушаны практычна зняць аблогу Быхава.

ТолькІ 14 мая 1659 г. да Быхава падышлІ буйныя сІлы рускага ваяводы Змеева, затым Лабанава-Растоўскага. Пачалася аблога, якая цягнулася амаль 7 месяцаў. І скончылася начным прыступам на горад. Яго поспех у немалай ступенІ быў забяспечаны тым, што рускІя ваяводы здолелІ схІлІць да здрады камендантa замка немца Шульца, членаў гарадскога магІстрата ІльынІча І братоў РанчкоўскІх.

У 1660 г. сІтуацыя дыяметральна змянІлася: у Быхаве ўжо сядзела ў аблозе войска царскага ваяводы Ф.АбярнІбесава. 26 кастрычнІка ён паведамІў цару пра цяжкІ стан яго войск, якІя галадалІ І на якІх без перапынку нападалІ казакІ палкоўнІка ШурашкІ.

Да канца 1661 г. тут сядзеў у аблозе полк палкоўнІка Гохварта, салдаты якога "голод и нужды всякие терпели, и траву, и лебеду, и мокрицу, и лошадиное мясо, и сырые говяжьи кожи, варя ели". І снежня 1661 г. да Быхава падпусцІла войска Рэчы ПаспалІтай пад началам Чарнецкага ў складзе 7 тысяч конных І пешых салдат з 11 гарматамІ. Праз некаторы час горад быў узяты.

Андрусаўскае перамІр'е 1667 г. паклала канец трынаццацІгадовай вайне. Як І многІя Іншыя гарады, Стары Быхаў вельмІ моцна ад яе пацярпеў, рэзка зменшылася яго насельнІцтва. ПольскІ кароль у 1669 г. даў Быхаву поўную волю ад усІх падаткаў І мыт тэрмІнам на 20 гадоў "па прычыне разбурэння горада ад сукупных казацкІх І маскоўскІх войск ".

## Як нашы продкІ ваявалІ

Напэўна, кожны з вас не раз чуў выраз пра тое, што гІсторыя чалавецтва - гэта гІсторыя войнаў, знайшлІся І вучоныя, якІя нейкІм чынам падлІчылІ, што войнаў чалавек куды больш, чым спачываў у мІрнай працы. Аказваецца, гады без бІтваў І паходаў у гІсторыІ нашай былІ хутчэй выключэннем з правІлаў, чым правІлам. Горкая выснова, але што зробІш, калІ так І было. На нашай зямлІ былІ слаўныя бІтвы, сярод нашага люду былІ знакамІтыя ваяры, І мы ведаем, І час ваявалІ.

Над 885 годам занатаваныІ старадаўнІя летапІсы паход кІеўскага князя Алега на землІ адных з продкаў беларусаў - радзІмІчаў, што жылІ ў басейне ракІ Сож, на тэрыторыІ сучаснай Гомельшчыны.

А ў 907 годзе, як сведчаць тыя ж летапІсы, крывІчы І пакрыўджаныя Алегам радзІмІчы сталІ пад харугвы таго ж князя Алега І хадзІлІ разам з яго ваярамІ на вІзантыйскІ Царград. Так што ў шчыце, якІ валуннІчы кІеўскІ князь прыбІў да варот вІзантыйскай сталІцы, быў, вобразна кажучы, І "беларускІ цвІк".

З IX па XII стагоддзе нашы продкІ ў асноўным высвятлялІ адносІны ў сутычках мІж сабой, у XIII стагоддзІ ў Іх з'явІлІся новыя, лютыя І крывавыя ворагІ. У 1202 годзе ў суседнай ПрыбалтыцЫ ўзнІк Ордэн мечаносцаў (крыжакоў), якІ ў 1237 годзе аб'яднаўся з ордэнам ТэўтонскІм, у вынІку чаго ўзнІк магутны ЛІвонскІ ордэн. У гэтым жа годзе пачалося нашэсце мангола-татараў на Русь. І яшчэ адзІн гІстарычны факт: да гэтых жа часоў адносІцца з'яўленне на палІтычнай карце тагачаснай Еўропы ВялІкага княства ЛІтоўскага, з якІм на некалькІ стагоддзяў будзе звязана дзяржаўнасць БеларусІ.

ПершымІ з крыжакамІ сутыкнулІся, вядома ж, палачане. У 1203, 1206 І 1216 гадах хадзІлІ полацкІя дружыны на крыжакоў. А ў год аб'яднання мечаносцаў з тэўтонцамІ (1237 г.) галІцкавалынскІ князь ДанІла РаманавІч моцна пабІў рыцараў пад ДрагІчынам.

Не абышлося без нашых землякоў І ў добра вядомых бІтвах на Неве І ЧудскІм возеры. 15 лІпеня 1240 года палачане дапамаглІ наўгародскаму князю Аляксандру пабІць шведаў, а 5 красавІка 1242 года яны ж пасабІлІ Аляксандру, цяпер ужо Неўскаму, адолець немцаў.

ВызначылІся палачане, б'ючы крыжакоў, І яшчэ раз. 13 лІпеня 1260 года яны ў складзе войска ВялІкага княства ЛІтоўскага пабІлІ Іх каля возера Дурбе.

ДалІся нашым продкам у знакІ І татары. Пакарыўшы Русь, апошнІя не раз спрабавалІ заваяваць І нашы землІ. Найбольш буйнымІ былІ Іх набегІ на Беларусь І ЛІтву ў 1258, 1259, 1275 І 1287 гадах. АсаблІвых поспехаў татары не мелІ, у асноўным палІлІ вёскІ І маленькІя гарады І, захапІўшы ў палон, адкатвалІся на поўдзень, у свае стэпы.

У 1284 г. князь Гінгальд каля вёскІ МагІльна (цяпер УзденскІ раён) панёс татарскаму войску цяжкае паражэнне, пасля якога качэўнІкІ доўга не хадзІлІ на Беларусь.

У XIV стагоддзІ яркай зоркай на вайсковым небасхІле БеларусІ быў гродзенскІ кашталян князь ДавыД. Найбольш непакоІлІ

...русў на той час крыжакI. Вось толькI два пералIкI...

1305, 1306, двойчы 1311, 1324 , 1328, 1362, 1364, 1373, 1375, 1377, 1379, двойчы 1393 – гэта даты набегаў крыжакоў на Гродзенскую зямлю...

Двойчы 1324, 1325, 1333, 1334, 1343, 1366, 1374, 1375, 1377, 1382, 1386 – гэта ўжо крыжацкIя набегI на Полацкую зямлю ...

З прыведзеных дат вIдавочна, што ўвесь гэты час Беларусь з ЛIтвою фактычна стрымлIвалI страшэнны крыжацкI цIск на ўсход, не прапускаючы рыцарскIя орды на Маскоўскую Русь.

Не раз у гэтай барацьбе вызначаўся Давыд ГарадзенскI. У 1314 годзе ён перамог крыжакоў пад Навагрудкам. Вясной 1319-га – узначалIў паход гродзенскIх дружын у ПрусIю. У 1322 I двойчы у 1323 гадах Давыд бIў нямецкIх I дацкIх рыцараў пад Псковам. У 1324 годзе вадзIў войска ВялIкага княства ЛIтоўскага ў МазовIю. У 1326 годзе (калI ён быў па-здрадлIцку забIты) узначальваў паход на Брандэнбург I Франкфурт-на-Одэры.

Важнай была перамога беларуска-лIтоўскага войска над крыжакамI 2 лютага 1348 года на рацэ Стрэва.

Дасталося ў гэты час ад нашых продкаў I татарам. У 1363 годзе войска ВялIкага княства ЛIтоўскага на чале з князем Альгердам нагалаву разграмIла войска Залатой Арды каля СIнIх Вод (поўдзень УкраIны) . ВынIк гэтай перамогI – выгнанне татар з Паўднёвай РусI I далучэнне яе да ВялIкага княства ЛIтоўскага.

## АЎЦЮКОЎСКIЯ АНЕКДОТЫ

Гэтыя анекдоты сабраны ў вёсцы АўцюкI, што ў КалIнкавIцкIм раёне – вёсцы, якую называюць беларускIм Габравам.

### Т а я м н I ч а я п I л а

КупIў аўцюковец бензапIлу. Паехаў у лес пIлаваць дровы. Возьме сервяно I водзIць на палатне.

Вечарам сусед цIкавIцца:

– КолькI напIлаваў?



– Мала, адно стамIўся...

– ЦIкава, у IнструкцыI пIшуць, што ёю можна лёгка напIлаваць дваццаць кубоў у дзень.

Назаўтра панёс аўцюковец бензапIлу у магазIн.

– Вы мне няспраўную пIлу прадалI.

– Як?! – здзIвIлася прадаўшчыца I завяла пIлу.

Аўцюковец роспачна ўсклIкнуў:

– Дык яна яшчэ I заводзIцца?!

### Н у I г а л а в а

– Чаму аўцюкоўцы не ядуць гуркI са слоIкаў?

– Бо галава не ўлазIць у слоIк.

– Чаму аўцюкоўцы не засольваюць гуркI ў бочках?

– Бо як дастаюць гуркI, дык расол у вушы зацякае.

### Р а з г н е в а н ы д о к т а р

Аўцюковец лячыўся ў раённай бальнIцы. Абяцаў доктару:

– КалIнка, як падымеш мяне на ногI – дам парася.

Доктар пастараўся I вылечыў аўцюкоўца.

Праз нейкI час яны сустракаюцца на вулIцы.

– Пацыент, што ты мне абяцаў? – нагадаў доктар.

– Вядома, калIнка, я не забыўся, што абяцаў. Але ж I парася выздаравела...

### Н о в ы я I с т а р ы я б о т ы

Аўцюковец заказаў у гарадскога шаўца боты. Прыехаў забIраць абутак, а шавец I кажа:

– Браток, тыднI два твае боты могуць крыху цIснуць. Не крыўдуй.

Аўцюковец усмIхнуўся:

– Э, калIнка! НIчога, пацярплю. Два тыднI я I ў старых пахаджу, а новыя хай пастаяць.

